Валянціна КОЎТУН

# Калінавая гронка залатая



Валянціна КОЎТУН

# Калінавая гронка залатая

Апавяданні



Мінск
«Юнацтва»
1988

ББК 84 Бел 7
К 73

Для старэйшага школьнага ўзросту

Рэцэнзент Г. В. ДАЛІДОВІЧ

Мастак В. І. ВАЛЫНЕЦ

Главная тема сборника — первая любовь. Герои рассказов — люди молодые, неугомонные в выборе жизненного пути и поисков высоких гражданских идеалов. Автор убедительно и правдиво передает «биографию» их чувств: первое увлечение и неожиданное разочарование, безоглядное стремление молодого человека к счастью и неудачи на этом пути. Немало страниц посвящено отношению молодежи к природе и всему живому в окружающем мире.

К $\frac{4803010200-067}{М 307(03)-88}$ 60—88

ISBN 5-7880-0058-0 



# СЛЯПЫ ДОЖДЖ

Сляпы дождж прашалясцеў па нізкай прызбе. Быццам вялікі птах дробна пакляваў пясок, рассыпаў па ім свае ліпкія, з пясчынкамі і шэрым пылам на паверхні кропелькі.

Для Акімкі сляпыя дажджы значылі адно: вось і пачаліся ўжо самыя гарачыя і доўгія летнія дні, калі сонца сыходзіць з неба хіба што з першымі начнымі зоркамі. Разам з малодшым брацікам Віцькам яны будуць хавацца ў цяньку каля новай, яшчэ не дабудаванай хаты. Абавязкова каля новай, бо старая, як толькі на ўскраіне вёскі зажаўцелі прыгожыя сцены зруба, адразу зрабілася нейкай нецікавай. Хоць і шкада яе было.

Зруб паставілі яшчэ да вайны. Калі старую хату паеў нейкі незвычайны грыб. Акімка аблазіў усе вуглы, шукаючы таго грыба-невідзімку, які жарэ бярвенне, але так і не знайшоў.

У старой хаце яны пражылі яшчэ цэлы год, хоць бацька быў найпершым у вёсцы майстрам. Не было таго дня, каб ён не спяшаўся куды-небудзь з сякерaю за раменнай апаяскаю ды markднымі будаўнічымі прыладамі ў зашмальцаваным мяшку цераз плячо.

Зруб талакою з вясковымі мужчынамі склалі ў

канцы мая, за некалькі дзён. Засталося толькі накрыць. Жоўтыя кроквы тырчалі высока-высока, і калі Акімка пазіраў уверх, на гэтыя кроквы, то яны часам вельмі нагадвалі яму бліскучыя рабрыны таго конскага шкілета, што з самай вясны ляжаў у рове каля хутара Плішча. І тады па спіне нечакана прабягалі казытлівыя мурашкі страху.

На хутары Плішча нядаўна жыў рымар Тарыла з двайняткамі Язэпам і Міхаськам. Маці малых памерла вясною, і рымар перабраўся ў вёску. Перавёз сваю старую хату. На хутары засталася толькі спарахнелая, чыста ўся забраная мохам і цвіллю пуня, а над заваленай студняю тырчаў журавель, гойдаючы ў дзюбе чорнае драўлянае вядро. Дзятва спачатку аблюбавала гэтае новае месца для гульняў, але пасля таго як Піліпчыкаў Сымонка ледзь не забіўся, уваліўшыся ў закіданую каменнем і дошкамі студню, пачалі баяцца. Ды і бацькі не пускалі так далёка.

Тарылы былі цяпер іхнімі суседзямі па правую руку. Язэпка і Міхаська ў сваіх доўгіх сарочках смешна, як качаняты, перакочваліся на крывых ножках з двара на вуліцу і адразу ж, бягом, з вуліцы назад у свой двор. Яшчэ асцерагаліся чужых людзей.

Па левую руку за высокім і шчыльным, як сцяна, плотам жыў дзядзька Андрэй, па-вясковаму Баярын. Дзядзькава хата была новая і такая вялікая, што ахапіць яе вачамі адразу ўсю, ад парога да вільчыка, Акімка не мог. Яна была падобная на вялікую глухую клетку, у якой магла жыць толькі цётка Ганорця са сваім Баярынам. Кожную раніцу, маўклівая, як цень, яна выходзіла на двор, карміла курэй і свінню ў хлеўчуку, потым амаль цэлы дзень гарбела ў гародзе за хатаю, палола фасолю. Пяць высокіх, як магілы, градаў.

Адразу ж за плотам, каля дзядзькавай хаты, шы-

рока разгалінавалася адзіная на ўсю вёску чарэшня, якую пасадзіў яшчэ іхні дзед. Бацька чамусьці загадаў Акімку і Віцьку нават не глядзець у той бок, але чарэшня прыцягвала іх да сябе як магніт. Асабліва малога Віцьку.

Аднойчы раніцаю, калі Віцька, зладзейкавата ўгнуўшыся і прытуліўшыся шчочкаю да шэрай штыкеціны, толькі-толькі злавіў расшчэпленым канцом сухой чараціны сакавітую ягадзіну, Баярын ціха зайшоў у іхні двор, падкраўся і так ударыў малога па патыліцы, што той ажно зароў ад неспадзяванкі і болю. Да таго ж, падаючы, пакалоў ручкі аб патрушчаную чараціну. Пачуўшы гэты адчайны плач малодшага брата, Акімка вылецеў з хаты, але Баярын, не зважаючы на яго, павольна пасунуўся з двара. Нібыта нічога не здарылася.

У той жа дзень упершыню Баярын прыйшоў на будоўлю да зруба, моўчкі ўзяў у рукі малаток. Печ ужо была гатова, бацька загарэўся паслаць падлогу. Работы яму аставалася зусім мала. Убачыўшы Баярына, Віцька адразу ж знік. Толькі ў самы абед зноў прыскакаў на сваім коніку-чарацінцы. Улез унутр зруба, стаў на шырокую дошку каля печы, адставіў убок, як дарослы, ножку з бруднымі пальчыкамі і пагардліва шморгнуў кірпатым аблупленым носам:

— Глянь, татко... Унё дзядзька валаныя цвікі ў дошку забівае. Цысто няўмека.

— Валаныя, валаныя... Гаварыць хаця навучыся, умека!

Надаўшы свайму голасу строгасці, бацька, аднак, не вытрымаў і зарагатаў, а Баярын, апусціўшы руку з малатком, спыніў на малым пасцярожаны позірк. І Віцька, смелы ў прысутнасці бацькі, пайшоў у наступленне:

— Баялын ты, Баялын... Стаіш тут, узілаешся... Ідзі лепш паглядзі, сто я з тваёю пасоляю налабіў!

Першы ў свой двор уляцеў Акімка, але тут жа стаіўся за плотам, заўважыўшы, як з хаты выкацілася цётка Ганорця і, чуючы нядобрае, хітнулася ў агарод. Затупала, бедная, каля градаў, на адной з якіх ляжалі тычкі і зялёненькая фасоля, павырываная з карэннем. Заенчыла праклёны.

Бараніць Віцьку не было каму — маці цэлы дзень прападала на калгасных бураках, і бацька на гэты раз не пашкадаваў яму дзягі. Урэзаў ніжай спіны. Віцька спачатку доўга румзаў на ложку, засланяючыся ад усіх сваімі светлымі слязамі маленькага шкодніка, які толькі й зрабіў тое, што адпомсціў за сябе. Потым, ужо надвячоркам, нечакана знік. Вярнуўшыся з буракоў, спалоханая маці нарабіла гвалту. Акімка з бацькам аббегалі ўсё наваколле і толькі тады, калі начная шэрань зусім загусцела, знайшлі малога на хутары Плішча. Заплаканага, галоднага, перапалоханага. Бацька нёс яго на руках, нешта ціха нашэптваў у вялікае, бы лапушына, вуха, ласкава казытаў яго перасмяглымі вуснамі, і Віцька пачаў супакойвацца, ляжаў на руках лянівы, размораны, сонны.

Раніцаю Баярын ссек чарэшню. Разам з вялікімі ягадзінамі. Цётка Ганорця сабрала іх збольшага, але чарэшня яшчэ доўга ляжала пасярод двара ў акружэнні заклапочаных курэй. Часам, позна ўвечары, калі Акімку даводзілася аднаму выходзіць з хаты ў двор, яна палохала яго сваім агромністым прывідным ценем. Ведаў, што будзе страшна, калі паглядзіць у бок суседняга двара, але вочы не слухаліся і самі глядзелі туды. Гусцела халодная цішыня, высока над галавою таямніча міргалі зоркі, і Акімку здавалася, што перад хатаю Баярына ляжыць зусім не ссечанае дрэва, а жывое стварэнне ў чорнай апранасе. І што яно, як нячыстая сіла, раптам падымецца з зямлі, нячутна прасочыцца праз высокую шчыльную ага-

роджу і паплыве да Акімкі, выцягваючы наперад свае гнуткія страшныя рукі-галіны, каб схапіць яго за горла. Мярцвеючы ад страху, кідаўся ў сенцы і махам прычыняў за сабою дзверы. А раніцаю, цішком зірнуўшы ў Баярынаў двор, дзе сіратліва ляжала высахлая чарэшня, Акімка здзіўляўся, што яна магла ноччу так яго напалохаць.

У тое лета наваселля не дачакаліся. Калі вёску страсянула страшная вестка пра вайну, бацька забіў дзверы ў новай хаце і паскідаў на страху апошнія снапы сухога чароту. Сам жа аднойчы вечарам, перад самым прыходам немцаў, некуды знік. Акімка з Віцькам спачатку амаль кожны дзень пыталіся ў маці пра бацьку, але яна толькі цяжка ўздыхала і нічога не адказвала.

Мінуў год. Неяк на пачатку лета, якраз раніцаю, да іх у хату прыбегла бацькава стрыечная сястра, паклікала маці ў сенцы і пачала ёй нешта хутка-хутка шаптаць. Акімка ажно падскочыў на ложку, учуўшы краем вуха, што гавораць пра бацьку. Цэлы дзень маці хадзіла як не свая. То смяялася ў ражок хусткі, то выцірала фартухом на шчацэ нечаканыя слёзы. А вечарам паклала ў стары бацькаў мяшэчак, што вісеў у сенцах, хлеб і кавалачак сала, выйшла з хаты і доўга не вярталася. Акімка не хацеў засынаць, ляжаў у ціхай, запоўненай пасопваннем брацiка, хаце, як на дне цёплага, хісткага чоўна. Яго пагойдвала ў блізкім сне, несла па рэчцы паўсоннага забыцця. Але Акімка не заплюшчваў вачэй, трымаўся з усяе сілы,— чакаў. І раптам дзверы нечакана рыпнулі, і ў хату, асцярожна пераступаючы парог, уціснуўся бацька. Акімка пазнаў яго адразу, хаця было цёмна. Падхапіўся з ложка.

— Ціха, сынок, ціхенька!

Бацька прыціснуў яго да грудзей, абвалок горкім

тытунёвым духам. Потым нагнуўся над сонным брацікам.

А раніцаю, калі Акімка разважаў, ці сапраўды ён бачыў гэтай ноччу бацьку, ці не прыснілася ўсё тое, у хату ўкінулася бяда: зноў некуды прапаў Віцька. Маці забегала па дварах, расхвалявалася не на жарт:

— І дзе ён, шустрык, падзеўся?! Ногі ўсе збіла...

— На хутары ваш Віцька,— на парозе сядзеў суседскі Міхаська і гладзіў кароткімі растапыранымі пальчыкамі жоўтага ката.

— Дык я ж была там!

— А ён у роў схаваўся... Я казаў яму — ідзём, а ён не хоча...

— Акім, прывядзі ты гэтае чарцяня... Бач, якую моду ўзяў! Дай там, як не пойдзе. Толькі ж ціхенька, глядзі...

Віцька і праўда гуляў на хутары. Каля самай пуні. Накрычаўшы, Акімка бязлітасна пацягнуў малога дахаты. Той спачатку ўпарціўся, а потым горка, як толькі ён адзін умеў, заплакаў, і вялікія, што боб, слёзы пацяклі па твары да самай шыйкі. Акімка пачаў суцяшаць малога, але ад гэтага той распальваўся ў сваёй крыўдзе яшчэ больш. Дома сеў на лаве і павярнуўся тварыкам да сцяны, паказваючы ўсім сваю незадаволенасць.

Прыйшла суседка, цётка Ганорця, завяла гаворку з маці. Потым не вытрымала, павярнула сваю маленькую галоўку з гладка прылізанымі валасамі да Віцькі.

— Ой, гэта ж я сёння раніцаю выйшла з хаты,— голас у цёткі быў такі таямнічы, што малы адразу натапырыў вушы і прыціх,— бачу... Ой! Гэта ж каля вашага зруба агеньчыкі свецяцца... Ага! Ды многа ж, многа!

Віцька пасунуўся да цёткі, але тая знарок павярнулася да маці:

— От, даражэнькая, гэта ж, пэўна, ваўкі там хадзілі... Галодныя, як чэрці... А потым — шух-шух — і на хутар падаліся!

— Мамка, мамка,— Віцька аж падскочыў ад хвалявання,— валы хутчэй бульбу, пойдзем ваўкоў калміць!

Цётка Ганорця залілася дробным смехам. Засмяялася і маці. Як не смяялася даўно. Падняўшы ўверх твар, прыціскаючы далонь да шчакі.

І раптам дзверы расчыніліся. На парозе, шырока расставіўшы ногі, стаяў Баярын. Узнік, як прывід. Ён ступіў крок наперад і пахіснуўся. П'яны! Каб не бачыць чырванатварага дзядзьку, Акімка пачаў назіраць праз акно за куртатым сабачанём, якое з самай раніцы грызла каля плота вялікае гусінае крыло з круглай, бы шарык, костачкай. Баярын утаропіў у маці п'яныя вочы:

— А гэта дзе ж мой сусед падзеўся? Га?.. Гэта... Пытаюся... Не бачыліся даўно...

— Табе лепш ведаць,— маці пазірала на няпрошанага госця з нянавісцю і агідаю.— Ты ж, можа, лепш ведаеш. Стараста ж!

— От гэта ты ў самую точку! Стараста, ага! Гаспадар, гэта... А яго, значыць, няма? Быў, ды сплыў?

— Табе як гарохам аб сцяну! — маці гаварыла так спакойна і здзекліва, што Баярын ажно збялеў. Але стрымаўся і раптам павярнуўся да Віцькі:

— Ідзі сюды, гэта, ідзі... Не бойся...

Малы глядзеў на дзядзьку недаверлівымі, хітранькімі, як у катка на прыпечку, вачанятамі.

— На табе вось... Гэта... Смачная...

Баярын усунуў у мурзатую далоньку хлапчука цукерку, і тая імгненна знікла за Віцькавай шчакой.

— Віцька... Ці даўно татку бачыў?!

Але малы ўжо сядзеў пад ложкам, і адтуль чулася толькі яго засяроджанае сапенне і цмоканне.

— Вырадак смярдзючы... Шчанё! — Баярын злосна плюнуў на падлогу. Зноў павярнуўся да маці: — А каровы, гэта, дзе падзеліся? Скрозь зямлю праваліліся? Не ведаеш?

Маці ўспыхнула, павяла рукой па шыі, нібыта хацела ацерці з сябе прыкрую напружанасць.

— Суседзямі ж, можа, жывём... Сам жа...

— Чаго? Цыц... Сам... Схавалі, дурні! Усіх вас палушчаць, усіх, гады... Як семкі, палушчаць!

Акімка насмешліва глянуў на Баярына. Ён ведаў, што каровы былі ў нізіне за Баршчэўскім лесам. Іх пасагналі туды яшчэ ўчора раніцаю, калі па вёсцы пакацілася чутка, што хутка прыедуць немцы забіраць кароў. Бо ў суседнім сяле пазабіралі.

Ні свет ні зара, нават раней таго звыклага часу, калі кароў заганялі ў статак, нехта асцярожна пастукаў у іхняе акно. Акімка адразу прачнуўся: «Бацька!» Але гэта быў вясковы пастух, сусед Тарыла:

— Усё ў парадку, Гэля... У Баршчэўскі загналі б, ды пагубім, не дай бог... Лепей у тую нізіну, што за лесам... Пакуль тое ды сёе, уцалеюць... У лес немцы пабаяцца...

— А стараста як?

— А нічога. Аканіцы закрылі, дзверы падперлі... Напалохаўся, пэўна!

Акімка павярнуўся на ложку, і маці хуценька зачыніла акно.

Хваляваліся недарэмна, бо ў вёску і сапраўды прыехалі немцы. Паставілі матацыклы каля самага калодзежа ў цэнтры, раз, другі, не чапаючы нікога, прайшліся з канца ў канец. Сышліся да калодзежа і пачалі, распрануўшыся да пояса, весела аблівацца сцюдзёнаю вадою. Толькі п'яны Баярын, выконваючы, напэўна, загад афіцэра, лазіў па хатах. Але ніхто не звяртаў на яго ўвагі. Усе сачылі толькі за немца-

мі. А тыя, нацягнуўшы вопратку на мокрыя плечы, дружна, бы па загаду, кінуліся ў розныя канцы вёскі, урываліся ў хаты і, штурхаючы людзей прыкладамі аўтаматаў, зганялі ўсіх на ўскраіну, якраз туды, дзе бялеў свежымі сценамі забыты зруб.

Маці ні на хвіліну не адпускала ад сябе ні яго, Акімку, ні Віцьку, цiснулася ўсярэдзіну, нібы хавалася за жывой чалавечай сцяной ад нечага нечаканага і, напэўна, страшнага. Насцярожаны натоўп сотнямі вачэй цікаваў за наведзенымі на яго аўтаматамі, услухоўваўся ў незразумелыя крыкі немцаў. Недалёка ад высокай сухастоіны перамінаўся з нагі на нагу маладжавы, з чорнымі вусікамі на жоўтым твары чалавек у цывільным адзенні. Ён увесь час шаптаў нешта на вуха высокаму афіцэру. У афіцэра быў такі смешны нос, што хоць ты яго ў сцяну заганяй замест цвіка, і Акімка, як ні хавала яго маці за спінамі людзей, пацiху цікаваў за гэтым вострым і доўгім носам. Потым чалавек у цывільным выйшаў наперад і, торгаючы вусікамі, пачаў гаварыць спакойным, нават лагодным голасам. Спачатку пытаўся пра партызан, потым пра кароў. Потым пытаўся пра нешта яшчэ, але Акімка не слухаў. Усё пазіраў на афіцэра з цвіком-носам і чакаў, калі ж той нарэшце загаворыць. Вяскоўцы так доўга стаялі пад пякучым сонцам, што, здавалася, зліліся ў адну насцярожаную нямую істоту. Маўчалі нават дзеці. І раптам у гэтай цішыні, як у вялізную, бы дзверы, шыбіну, нешта гучна забарабаніла. Афіцэр аж падскочыў ад нечаканасці і задраў галаву, пазіраючы ўверх, туды, куды глядзелі ўсе. На высахлым дрэве, высока падняўшы над гняздоўем крылы, святкаваў сваю звонкую песню бусел. Нехта з аўтаматчыкаў секанyў па птушцы з аўтамата, і бусел, так і не апусціўшы крылы, важка ўпаў на зямлю.

Афіцэр нешта закрычаў, і яго нос, як здалося

Акімку, стаў яшчэ вастрэйшым, амаль нябачным на пабялелым твары. Аўтаматчыкі адразу заспяшаліся, падганяючы ўсіх да зруба. Натоўп загудзеў. Каля Акімкі бегла цётка Аўгіння, таксама крычала, што яны нічога не ведаюць пра партызан і што каровы ў нізіне за лесам, але немцы не спыняліся. Нібыта і не чулі нічога.

Маці яшчэ мацней сціснула руку, але Акімка і без таго не змог бы нікуды збегчы, бо натоўп сціскаў іх з усіх бакоў. Людзей заганялі ў зруб, штурхалі ў плечы аўтаматамі, лаяліся. Нехта наступіў Віцьку на ножку, і той адразу пачаў крычаць. Маці хацела нагнуцца над ім, адштурхоўваючыся ад людзей локцямі. Акімка азірнуўся і ўбачыў, што Баярын дагнаў каля самых дзвярэй цётку Ганорцю, схапіў яе за чорныя, распатланыя валасы і адкінуў у бок ад усіх іх.

Унутры зруба было цесна і страшна. Часу не адчувалася, ці доўга яны тут знаходзяцца, невядома. Час замёр. На руках знясіленай маці вісеў Віцька, шморгаў носікам і ціха плакаў, паціраючы ножкаю аб ножку. Акімка паглядзеў на малодшага брата, пагладзіў яго па плячы, і яму раптам так моцна захацелася есці, што ён выскубнуў са сцяны пахучы мох і паклаў яго ў рот. Але тут жа выплюнуў. Там, за сцяною, пачало нешта трашчаць і лескатаць, нібыта сто дужых буслоў адначасна заклекаталі і забілі крыламі па бярвеннях. Нехта штурхнуў Акімку ў бок локцем.

— Сынок!

Ён адчуў на сваім твары гарачае дыханне маці.

— Лезь! Сынок...

Акімка спачатку не зразумеў, пра што яна гаворыць, але нечакана ўспомніў. Якраз тут, дзе яны цяпер стаялі, былі забітыя дошкамі дзверы ў маленькую бакоўку. Некаторыя дошкі трымаліся зверху толькі на адным цвіку. Гэта Акімка ведаў, бо сам жа

іх некалі і забіваў. Маці пацісрулася бліжай да тых дзвярэй, намацала і адвяла ўбок самую крайнюю дошчачку. Помнячы, што ў бакоўцы яшчэ няма падлогі, Акімка асцярожна прасунуўся ў дзірку, ступіў на зямлю спачатку адной, потым другою нагою. Дошка за ім адразу ж тарганулася на сваё ранейшае месца. Ён чуў, што маці зноў закратала дошкі. Напэўна, хацела знайсці выхад і для сябе з Віцькам, але чамусьці цяпер у яе нічога не атрымлівалася. Акімка заплакаў ад страху — па сцяне раптам забарабанілі тысячы вялікіх жалезных кулакоў — і кінуўся ў бок ад дзвярэй, бліжай да вузенькага нізкага акенца, няшчыльна забітага дзіравай фанерынай. Намацаў шурпаты край, моцна рвануў фанеру да сябе і... ледзь не ўпаў. У твар ударыла мутнае святло і густы, як вата, камяк дыму. Акімка не разумеў, што адбываецца, але нейкая невядомая сіла зноў кінула яго да святла. І ён заспяшаўся, намацваючы вакол сябе хоць якую скрынку. Знайшоў, аднак, толькі некалькі цаглін, склаў іх каля сцяны, адна на адну, ступіў на верхнюю. Спачатку прасунуў у акенца плечы, потым жывот,— звесіўся, бы кацяня, уніз галавою. Каля самых вачэй пагойдваліся ружовыя чарнабрыўцы.

Вясною маці жартам сыпанула якраз пад гэтую сцяну жменю насення. А кветкі ўзялі ды і ўзышлі, падняліся. З цвёрдымі і тоўстымі сцяблінамі. Сапраўдны лес, а не кветнік. Акімка пазіраў на гэты ружова-зялёны лес зверху ўніз, і перад яго шырока расплюшчанымі вачамі трымцелі тонкія раскрытыя пальчыкі пялёсткаў. Недзе высока пачало страляць і шумець, у хаце за бакоўкаю дзіка закрычалі людзі. Сапраўдныя жывыя людзі, зусім не прывідныя істоты з жалезнымі кулакамі. І Акімку здалося, што з усяго гэтага енку ён вылучыў і добра пазнаў толькі два галасы — ахрыплы матчын і тоненькі Віцькаў. Закруціўшыся ўсім целам у вузкай шурпатай раме

акенца, Акімка рваўся з усяе сілы назад, да маці і Віцькі, але чамусьці паляцеў галавою ўніз, на пікі чарнабрыўцаў, абдзіраючы лоб і шчокі. Упаў спачатку на бок, потым перавярнуўся на спіну і застыў ад болю ва ўсім целе.

Лямант у хаце раптоўна заціх. Як нікога там і не было.

На твар Акімку, каля самых вуснаў, упала кветка, ён узяў яе і моцна сціснуў у кулаку. Зноў замёр, слухаючы, але хата маўчала. Паўсюль разлягаўся толькі даўкі траскучы гул. Смярдзела дымам і гараю. Тады Акімка лёг на жывот, вялы ад тупога страху і ўтомы, нарэшце падабраў пад сябе калені, прыўзняўся на руках і папоўз з гарачага кветніку, рассоўваючы галавою тоўстыя вільгатнаватыя сцяблі́ны. Далей ад водбліскаў полымя.

Поўз доўга. Памкнуўся стаць на ногі, але не змог. Поўз і поўз. Нарэшце ўсё ж падняўся і павольна, хістаючыся, затупаў наперад, не ведаючы, куды ідзе. Ішоў, абы толькі ісці. Яму здавалася, што ён ужо забрыў немаведама куды. Але калі апамятаўся, ледзь не лбом упёршыся ў сцяну, і добра агледзеўся навокал, здзіўлена пазнаў хутар Плішча...

Тут было ціха. Акімка адчуў, як дрыжаць ногі, прысеў і прыхінуўся плячамі да халоднай сцяны пуні. Хацеў разняць анямелыя, усю доўгую дарогу сціснутыя ў кулак пальцы. Але пальцы не слухаліся. У самых куточках паміж імі ружавелі пацямнелыя пялёсткі чарнабрыўцаў. Тады Акімка прысеў і пачаў сачыць за тоўстым чмялём з жоўтымі крапінкамі на спіне. Чмель заклапочана поўзаў каля шчыліны паміж бярвеннямі, і Акімка падумаў, што там, напэўна, ёсць мёд і яго трэба дастаць адтуль трэскай. Пасіліўся, але зноў не змог разняць пальцы.

На ногі пачаў сеяцца сляпы дождж. Акімка падняў галаву, пазіраючы на цьмянае сонца, і тут не-

далёка ад сябе ўбачыў цётку Ганорцю. Як не бачачы дажджу, яна хадзіла вакол заваленай студні, і яе чорныя валасы мокрымі пасмамі абвіваліся вакол шыі. Сіняя спадніца разарвалася на баку, але цётка чамусьці не саромелася гэтага. Хадзіла, як сляпая, і хагарнула да грудзей белы, бліскучы конскі чэрап. Хадзіла і спявала калыханку.

Акімка хацеў падысці да цёткі Ганорці, але раптам нехта вялікі і дужы схапіў яго ззаду за плечы, падняў над зямлёю і, павярнуўшы тварам да сябе, пачаў цалаваць. Гэта быў бацька. Акімка ледзь пазнаў яго чорны, зморшчаны твар, а пазнаўшы, закрычаў. Але не словы, а адно працяглае: «А-а... А-а...»

Да бацькі падбег незнаёмы чалавек з аўтаматам у руках, потым яшчэ нехта і яшчэ. І разам яны кінуліся да вёскі.

Акімка не баяўся дажджу, нават не выціраў з ілба дажджынкі, і тыя павольна скочваліся на асмяглыя вусны. Недзе зусім блізка ўсчалася страляніна. Ён не баяўся болей нічога, хаця каля заваленай студні ўвесь час хадзіла згорбленая вар'ятка з бліскучым конскім чэрапам у руках. Таксама не хаваючыся ад дажджу, ціха і ласкава спявала калыханку.



# ВЯДЗЬМАР

Рэчка падковаю агінала палову Астравічаў. Потым крута, быццам спяшаючыся, падавалася ад вёскі ўбок, пятляла вузкаю стужкаю паміж даволі высокіх берагоў, парослых вербалозам і сухенькім сітнікам, і хутка знікала з вачэй.

Аднак з супроцьлеглага боку астравіцкія хаты падціскала даволі нізкая гразкая лугавіна, дзе не раслі нават вербы, а яшчэ далей, за няроўнаю сцяною карчоў і чароту, спрадвеку царавала дрыгвяністае балота.

Рэчка, ціхая і паслухмяная ўлетку, а зімою прыціснутая да дна важкім панцырам лёду, вясною быццам узрывалася. За некалькі дзён яна зносіла ў шэрую далячынь крыгі, набухала, хавала пад сабою сенажаці. Падымалася і балота, пагражаючы крайнім дварам, але хутка, хутчэй за рачную паводку, аціхала і адпаўзала ў сваё старое логава.

Астравічы ў такую пару і сапраўды нагадвалі востраў. Дробныя хаты з бухматымі шапкамі буслянак на саламяных патыліцах распаўзліся па жоўтым пясчаным гарбе, але вада ўсё ж залівала гароды і падступалася да хлявоў. Сонца часцяком разганяла нізкія хмары, і тады паводка пачынала сляпіць

вочы. Людзі адразу весялелі. Усе ведалі, што паводцы, якой бы грознаю яна ні была, давядзецца адступіць. А сыдзе паводка, дык і рэчка паспакайнее, зробіцца ціхай і мелкай, што толькі вераб'ю, як кажуць, па калена...

Гэтай вясной астравічане ўзіраліся ў бясконцую, набрынялую вільгаццю прастору асабліва пільна. Людзі сачылі за паводкаю, і кожнаму здавалася, што разам з ёю сплыве з зямлі і ўся навалач, уся гэтая фашысцкая брыда. Рэчка, аднак, не хацела здавацца, у непагодны час уздрыгвала ўсім сваім вялізным непаслухмяным целам і кідала на сушу то зламаныя вёслы, то цэлыя бярэмы пачарнелага стажковага сена. Прыбівала да берага і тапельцаў.

Менавіта ў гэтакі трывожны час Стасю Іванчанку споўнілася семнаццаць. Веснавы вецер з кожным днём мацнеў і цяплеў, каля плота гусцела маладая крапіўка. Начамі ў небе віселі зялёныя і шурпатыя, бы ягадзіны агрэсту, зоркі. Дарога да раённага цэнтра ад вёскі падсохла, асабліва там, дзе яе жоўты рукаў слаўся па хвойных пагорках. І ўсё часцей у вёску пачалі наведвацца паліцаі.

Вось і сёння яны прыехалі ў Астравічы. Двое няпрошаных гасцей сядзелі на фурманцы з такімі ўчарнелымі тварамі, быццам іх чорт з рукава выпусціў. Вяскоўцы здзіўлена перашэптваліся, пазнаўшы ў адным з іх свайго, астравіцкага.

Гэта быў Васіль Малашчыцкі. Ніхто нічога не ведаў пра яго з самага пачатку вайны. Ніхто не сустракаў яго ні ў суседніх вёсках, ні ў Негарэлым. Нават на пахаванні маці, якая памерла яшчэ на першым годзе вайны, перад калядамі, Васіля не было. Мабыць, не ведаў пра бяду. Ягоны малодшы брат Язэп пасля матчынай смерці пабыў у Астравічах нядоўга. З'ехаў да цёткі ў суседні раён.

Якраз у той момант, калі фурманка праязджала

каля іхняй хаты, Стась выйшаў на вуліцу. Колы раз-пораз ускоквалі ў каляіны, запоўненыя халоднай і вязкай граззю, і стралялі ў бакі калючымі пырскамі. Конь ужо выбіўся з сіл і браў дарогу рыўкамі.

Паліцаі кіраваліся, пэўна, да старасты, у самы канец вёскі. Адзін з іх, звесіўшы ногі ў заляпаных чобатах, сядзеў ззаду. Кола ўскочыла ў глыбокую яміну на дарозе, чалавека падкінула ўверх, бы на спружынах, і ён падняў галаву. Ягоны твар быў шэры, быццам пасыпаны попелам, але пільны позірк лязом разануў па хлопцу. Стась пазнаў яго адразу, і ногі, здавалася, прыкіпелі да зямлі. Ён ледзь параухаў імі, адвярнуўся ад падводы і пабег назад, у хату. Ускочыўшы ў сенцы, зачарпнуў вады глыбокімі, бы човен, прыгаршчамі проста з вядра, стаў піць. Потым прыціснуў успацелы лоб да халоднага вушака.

— Стасё, ты чаго? — здзівілася маці.

— Не бачыла хіба?

— А-а-а... Няхай іх багнюка бачыць! І гэты, вядзьмар наш, з імі... Паявіўся.

— Паявіўся, мама... Яшчэ як паявіўся!

Ён ведаў, што маці яшчэ ні разу не называла ні старога Малашчыцкага, дзядзьку Андрэя, ні яго сына Васіля ведзьмарамі. Праўда, у Астравічах мала хто мянціў пра гэта языком. Але плётка была жывучая і распаўзлася нават па суседніх вёсках, асабліва пасля той перадваеннай вясны, калі стары Малашчыцкі ўтапіўся ў багне.

Якраз тады Васіль працаваў на чыгунцы ў Негарэлым. Аднойчы ў суботу ён прыехаў дахаты памагчы пасадзіць бульбу. Вясна выдалася на ўцеху. Рака ўжо амаль аціхла, і яе жоўтыя берагі прапахлі п’янкім вербавым дымам і салодкай ліпкай лазой. Вясёлыя вятры высока ў небе круцілі сонечны флюгер, з другога боку ад ракі, за вёскаю, здрадліва раскашавала купчастае балота. Вочы адбіраў кураслеп.

Адчайныя, схмялелыя ад навакольнага хараства хлапчукі пераскоквалі на балоце з купіны на купіну, стараючыся наблізіцца да сцяны карчоў і чароту, выпорваючы з травы качыныя гнёзды. Наядаліся яек так, што ў жыватах цэлы дзень igралі чортавы цымбалы.

Бацькі дзягамі адвучвалі малых ад такіх паходаў, бо калі хто, не дай бог, трапіць у багну, то ніякі вецер не данясе ў вёску нават самыя моцныя крыкі.

У тых карчах, у тым страшным кураслепавым балоце і загінуў стары Малашчыцкі. Даведаўшыся, што Язэп, малодшы з сыноў, пайшоў па качыныя яйкі, кінуўся на балота. Праз якую гадзіну туды ж пабег і ўстрывожаны Васіль, але хутка вярнуўся, па вушы перапэцканы ў руды мул. Ледзь перастаўляючы ногі, ён цягнуў на плячах амаль непрытомнага брата. Збегшыся да двара Малашчыцкіх, людзі толькі ціха перашэптваліся, смялейшыя заходзілі ў хату. Васіль нікога не бачыў і нічога не чуў — нібыта акамянеў на лаве. А калі пачынаў смяяцца, то здавалася, што ягоны глухі смех падае на людзей цвёрдымі грудкамі высахлай гліны.

Ужо назаўтра суседка Малашчыцкіх, Паланея Ліліпчук, лётала, як апечаная, па астравіцкіх хатах, расказваючы невядома адкуль уведанае. Быццам у багну трапілі адразу двое, бацька і малодшы з сыноў. Васіль па загаду бацькі спачатку падаў кій брату і, калі той выпаўз на цвёрдае, пачаў ратаваць бацьку. Але кій не вытрымаў цяжкага мужчынскага цела, трэснуў, і Васіль страціў раўнавагу. Калі ж ён падхапіўся на ногі, бацькі ўжо не было.

Менавіта ў тую вясну, настрашаная і агаломшаная смерцю на балоце, вёска ўсхадзілася ад размоў пра нейкую вядзьмарскую сілу Малашчыцкіх. Болей за ўсіх старалася набожная Паланея, усё тру-

біла пра перададзенае Васілю бацькава вядзьмарства, размахваючы перад астравіцкімі кабетамі доўгімі, як граблі, рукамі. Тыя толькі глыбей укопваліся ў прызбы і слухалі Паланеіны байкі са спалоханымі вачамі.

Дома Стась неяк загаварыў пра Паланею, але маці нечакана рэзка абарвала:

— Каб яе на вілах насіла, пасялуху... Ну, глянь-це вы, і ў хаце роднай няма спакою. Лапухі развесіў, слухае... Кавалер! — і адвярнулася.— Брахня ўсё гэта!

Стась не адазваўся, здзіўлены пачутым.

Маці таксама памаўчала, пасля раптам падхапілася, падбегла да печы і пачала вымаць чыгун са свіною бульбаю. Але Стась сам выцягнуў бульбу і вывернуў яе ў цабэрак. Да столі белым слупам паднялася вільготная пара.

— Ды Андрэй Малашчыцкі ніколі рук не шкадаваў! Ці дзень, ці ноч, а ён гарбеў, як той вол! От жа трудзяга быў... Нігды не забуду! І такі, знаеш, праўдзівы быў. Што пра каго думае, тое і рэжа ў вочы... От так... А Паланеі — што? У яе свой інтэрас...— маці ўзяла таўкач, схілілася над цабэркам і рашуча закончыла: — Прайдзісветка твая Паланея!

Чаму Паланея ягоная — Стась не разумеў, але пытаць не стаў. Выхапіў з-пад матчынага таўкача гладзенькую, як шарык, бульбіну, пачаў таропка лупіць яе і хукаць на апечаныя пальцы. Маці засмяялася — от яшчэ, як малы,— і неяк адразу палагаднела.

— Эх, Стасё, такое наша жыццё. А як цяпер помню... Вярнуўся Андрэй з фронту, у будзёнаўцы ды пры вусах. Герой! Зімой, перад калядамі, ці што... Такі, праўда, зранены, бы яго там заместа капусты шаткавалі...

Усміхнулася неяк сарамліва і сумна, як умеюць усміхацца толькі немаладыя вясковыя жанчыны. Пацiснула плячамі і нахілілася над бульбаю.

— Піліпчукі тады багатыя былі. Андрэй, як пачалі камуну збіраць, з прыезджым нейкім зайшоў да іх. Насенне, кажуць, вымагаў. А як выходзілі, у сенцах нехта Андрэя па галаве абушком і цюкнуў. Думалі, канцы ўжо. Піліпчук сама тады і збег, як у палонку праваліўся... От так было. А Паланея як асатанела. Ну, чыста змяя стала. Усё вядзьмар ды вядзьмар. Пляце... А ты, дурань, паўтараеш!

Маці ўжо замяшала парсюку і з вядром пайшла ў хлеў, Стась жа моўчкі сядзеў і думаў. Нечакана ўспомніліся тыя доўгія зімовыя вечары маленства, калі хлапчукі збіраліся ў іхняй хаце і зашываліся на печ. Нехта з хлопцаў прыглушаным ад страху голасам расказваў пра раскапаныя магілы і таямнічыя здарэнні з мерцвякамі. Пасля такіх расказаў многія яшчэ доўга не асмельваліся выходзіць на вуліцу і ісці дахаты. Нават цяпер, праз гады, тыя байкі не хацелі забывацца. Яны толькі прыглухлі ў глыбіні памяці. І ўсё ж у нейкія моманты раптам ажывалі і зноў сціскалі сэрца страхам...

Стасевы думкі зноў перакінуліся да Паланеі — як смешна і ў той жа час пагрозліва яна размахвала сваімі доўгімі рукамі перад жанкамі і сіпела: «Вядзьмар... Што праўда, то праўда! Гэта ж, людцы мае, і сыну перадаў! А як жа, перадаў!»

Стась выйшаў у сенцы, узяў старое, вышчарбленае вясло і падаўся ў гарод. Вада затапіла яго амаль напалову. З правага боку месца было вышэйшае, і туды, калі яшчэ пра паводку і вераб'і не шапталі, ён прыкаціў старую калоду, прывязаў да яе выцягнуты на сухое човен. Калі пачалася сапраўдная вясна, паводка падмачыла толькі чорнае прасмоленае днішча.

Стась ссунуў човен на ваду і пaціху павеславаў да старой кузні, што стаяла на вострым, бы горб, голым пагорку праз некалькі двароў адсюль. Тут паводка дзялілася на два рукавы: левы тапіў гарод астравіцкага старасты, правы — гарод каваля, які памёр яшчэ перад вайною. Недалёка ад пустой кавалёвай хаты і стаяла кузня. Пасля смерці гаспадара абедзве будыніны таксама нібыта памерлі. Нават сцены ўзяліся зялёнаю слізкаю бросняй.

Стась акуратна сеў на маленькую лавачку так, што качыны нос чоўна высока падняўся над вадою і дробныя хвалі рытмічна заляскалі аб днішча. Было ветрана. Цёмныя, зеленаватыя, бы жабурынне, ліпкія хмары апускаліся ўсё ніжай. Часам вада падносіла да чоўна жмені ўчарнелага сена. І хоць у іх, Іванчанкаў, ужо даўно не было каровы, Стась асцярожна падымаў сена і чакаў, калі ацячэ вада, потым рассцілаў яго на днішчы сохнуць.

Ён асцярожна паклаў вясло і прыціх, утуліў галаву ў плечы, нібыта баяўся, што на яго вось-вось наваліцца хмара. Сядзеў і ўспамінаў...

Так, так... Гэта быў ён, Васіль Малашчыцкі. Гэта быў ён... Але чаму разам з паліцаем Грынем?

Пасля той жахлівай бацькавай смерці Васіль не прыязджаў у вёску цэлае лета. Нават Паланея прыціхла. Вёска таксама жыла сваімі, толькі ёй адной блізкімі і зразумелымі клопатамі — надыходзіла касавіца. Неяк пад вечар у хату да Іванчанкаў завітаў сусед, дзядзька Хвядос, прапанаваў Стасю паехаць разам з ім падводаю па косы ў Негарэлае. Хлопец з радасцю згадзіўся. А ўжо назаўтра ранічкаю маці Васіля Малашчыцкага, сівая — бабуля, і ўсё тут — цётка Ніна, прынесла Стасю палатняную торбачку з яйкамі і салам. Папрасіла перадаць сыну. Турбавалася толькі, ці здолее Стась знайсці яго ў тым тлумным Негарэлым.

— Не іголка! Знайду, цётка Ніна. Ён жа на станцыі працуе? Ну во! Было б чаго плакаць!

Але чым настойлівей Стась супакойваў Васілёву маці, тым сумней яна пазірала ў акно, падносячы да вялікіх, напоўненых слязамі вачэй ражок хусткі.

З выездам крыху прыпазніліся, сонца ўжо разлівала па дарозе жоўты алей першых промняў. Але конь ішоў лёгка, і праз гадзіны дзве колы загрукацелі па местачковай брукаванцы.

Пасля нізкіх драўляных дамкоў зажаўцелі хаця і невысокія, але акуратныя цагляныя будынкі. Крама, каля якой яны спыніліся, у суседстве з імі здалася хаткаю на курыных лапах. Каля яе ўжо стаяла некалькі фурманак з суседніх вёсак.

Унутры крамы было цесна. Мужчыны гучна, бы на кірмашы, перамаўляліся і выціралі ўспацелыя твары вялікімі далонямі. Было так горача — хоць ты дзверы з петляў здымай...

Косы выбіралі доўга. Стаўшы перад акном і выцягнуўшы наперад руку з касою, што ледзь не ўтыркалася вастрыём у шыбіну, дзядзька Хвядос доўга глядзеў, прыжмурыўшы адно вока, на бліскучае лязо, потым пстрыкаў па ім сваім моцным пазногцем, прыслухоўваючыся да тонкага металічнага звону. Стась толькі назіраў за ўсім...

Нарэшце купілі і косы, і чыгункі, і цвікі, уладкавалі набытае на возе. Дзядзька адразу ж павесялеў і прабубнеў у доўгі нос, што хоча паехаць да сваяка. Стась ледзь не зарагатаў, ведаючы, што ўсе дзядзькавы сваякі тут — у бліжэйшай піўной. Але і ў самога была пільная справа — знайсці Васіля Малашчыцкага. Дамовіліся сустрэцца тут жа, каля крамы.

Саромеючыся спыняць незнаёмых людзей, Стась наўгад пайшоў спачатку па шырокай вуліцы направа, потым звярнуў з яе ў першы ж брудны завулак. І ледзь не адразу ж перад ягонымі вачамі зашарэў

высокі чыгуначны насып. З невялікай будкі на пераездзе смешна выкаціўся тоўсценькі жвавы дзяжурны, і Стась зразумеў, што станцыя недзе зусім блізка. Павярнуў да нейкіх доўгіх і чорных будынін без акон, каля якіх высіліся штабялі дошак. Паблізу іх, у тупіку, стаяла некалькі пашарпаных вагончыкаў.

Васіля ён угледзеў яшчэ здалёк: якраз выйшаў з дзвярэй прыгожанькага, як цацка, станцыйнага будынка — і ўзрадаваўся. Васіль, відаць, таксама заўважыў яго позіркам, бо адразу ж пабег насустрач.

Ледзь аддыхваючыся і паспяваючы адказваць на ягоныя пытанні, Стась з непрывычкі высока падымаў ногі, пераступаючы рэйкі. Нават не заўважыў, як падышлі да паравоза. А заўважыўшы яго, здзіўлена спыніўся. Так блізка бачыць гэты жалезны цуд яму давялося ўпершыню.

— Ну што, братка, харошыя ў нас жарабцы? — засмяяўся Васіль.

— І ты... Ты тэж ездзіш?

— Буду, братка, буду. А пакуль што гайкі толькі падкручваю. І гэта трэба, праўда?

Паравоз, як жывы, дыхнуў параю. У дзвярах, над Стасевай галавою, ужо стаяў машыніст, і на яго мурзатым і хітрым, як у цыгана, усмешлівым твары ажно бліщчалі белыя зубы.

— Р-работнічак, давай лапу!

Машыніст быў яшчэ зусім малады, не старэйшы нават за Васіля.

— Давай, давай, не бойся...

Стась пачырванеў, таропка падаў яму руку і тут жа, нечакана хутка для самога сябе, апынуўся наверсе, унутры паравоза. На мурзатым твары машыніста ўсё яшчэ свяцілася вясёлая ўсмешка, і Стась паціху супакоіўся і пасмялеў. Душу перапаўняла новае шчымлівае пачуццё гордасці, нават здалося, што варта яму зараз добра агледзецца тут, пакруціць

хоць бы вунь тое бліскучае колца — і вялікая разумная машына ажыве, задрыжыць, загрукоча коламі і панясецца па рэйках наперад. І гэтаму імкліваму руху не будзе ні канца, ні краю.

— Ну як, зямляча, спадабалася? Узяло? — Васіль таксама падняўся наверх і засланіў сваімі шырокімі плячамі святло ў адчыненых дзвярах.— Можа, працаваць хочаш у нас? То прыходзь, пасаблю...

Але Стась маўчаў...

...У Астравічы вярталіся вечарам. Дзядзька Хвядос быў нападпітку і адразу ж, як толькі выехалі за райцэнтр, разлёгся збоку на саломе і заснуў.

Стась амаль не кратаў лейцамі, конь сам добра ведаў дарогу і спяшаўся. Пачала насядаць камарэча і даймаць так, што Стась часам падымаўся на ногі, махаючы навокал пінжачком. Дзядзька хроп з глыбокімі груднымі ўсхліпамі, і па Стасевай спіне прабягалі непрыемныя мурашкі. Ведама, такім насішчам толькі пянькі ў лесе карчаваць!..

Цямнела. Рэдкія карчы каля дарогі праплывалі міма і таямніча, як жывыя, варушыліся. Гэта наганяла трывогу, і Стасю раптам захацелася крыкнуць на поўны голас. Жаданне было такім моцным, што здалося, быццам над чорнымі прорвамі блізкага балота, над гэтаю таямнічаю дарогаю сапраўды пралунаў крык. Ён разгайдаў туман, скруціў яго ў вільготныя клубкі і пагнаў па зямлі.

— Гу-а... Гу-а-а...

Не, гэта быў не проста голас, а звонкі паравозны гудок. Адкуль ён прыляцеў сюды? Стась не ведаў, але быў упэўнены, што гудок той ён сапраўды чуў.

— Стась... Стась! Заснуў ты там, ці што?

Стась уздрыгнуў ад нечаканасці, ледзь не выпусціўшы з рук вясло. І вярнуўся з успамінаў...

Човен адплыў ад кузні, і хвалі прыгналі яго ў гарод да старасты. Цяпер ён не гайдаўся, прыбіты

да мулкага берага. Зусім блізка, ледзь не чэрпаючы чобатамі чорную тарфяную жыжку, стаяў Васіль Малашчыцкі.

— Бачу, курсіруеш тут па гародзе, як па канале... Не баішся?

— Гэта каго мне баяцца, можа, цябе?

— Я-то я... А вось як вунь каля таго калка выплыве якая бомба, што тады?

Васіль блазнаваў, і Стась не сцярпеў:

— Можа, і выплыве! Толькі яшчэ невядома, каму баяцца!

— Ну, калі ты такі смелы, то, можа, скажаш мне, ці гавораць у вёсцы пра... пра гэта...

Стась падняўся, каб адпіхнуцца ад гразкага берага, але пры апошніх словах Васіля насцярожыўся, перапытаў:

— Пра што гэта...гавораць?

— Пра што? Га, пра што! Станцыю ноччу бамбілі!

Рукі ў Стася зрабіліся гарачымі і сухімі, а вясло пацяжэла.

— Хто?

— Ды, пэўна ж, не немцы! — Васіль скрывіўся і задумаўся. Нарэшце спадылба глянуў на Стася, рашуча загадаў: — Вылазь, братка, з чоўна, пойдзеш са мною...

— Ага, тэж мне! Пайду! Гэта куды?

— Таго самага лётчыка шукаць, што станцыю бамбіў. Кажуць, ён на парашуце спусціўся. Толькі не тут, а недзе за ракою...

— Чаго ж вы сюды...

— А што? Усяк бывае. Во Грынь лавіць яго прыехаў. Аднак жа, як казаў мой дружок Лявон, дай божа сляпой курыцы чарвяка злавіць!

Стась налёг з усяе сілы на вясло, каб зрушыцца з месца, але Малашчыцкі нахіліўся і, схапіўшы чо-

вен за нос, так ірвануў яго да сябе, што Стась ледзь утрымаўся на нагах.

— Ты чаго прычапіўся?

— Пачакай, не крычы ты...

Васіль пацямнеў тварам і адразу ж здаўся нейкім хворым, загаварыў глуха і даверліва, нібыта без яго, Стася, яму сапраўды ніяк не ўправіцца.

— Ты думаеш, што і я ў бобіках хаджу... От што ты падумаў! А я да Грыня толькі па дарозе падсеў! Ішоў, каб хоць на хату сваю глянуць... На магілу матчыну...

— Дык ідзі і глядзі... Чаго стаіш?

— А ты не кіпі! Тэж герой! Я, папраўдзе, дык і сам не ведаў, што Грынь бобік!

Васіль памаўчаў, абдумваючы нешта сваё, потым паглядзеў на Стася калючым запытальным позіркам. Пасля пачаў ціха, з ранейшым даверам:

— Як учуў, што Грынь едзе таго лётчыка шукаць, то й падумаў сам сабе... А што, калі і праўда? А калі тут той лётчык? Га? От-то! Хто можа сказаць? Грынь-то не верыць, спакойна прыехаў, адзін, для адчэпнага... Астатніх за раку пагналі... Шукаюць... А я вось падумаў, што ўсё можа быць. Грынь дурны, калі што якое — бяды наробіць! От так, Стась! Так што хадзі ты са мной! Памажы! Ну, прашу!

— А людзі што падумаюць?

— Што падумаюць! Што падумаюць?! Няхай конь думае! А мне ніяк не ўправіцца! — Васіль, здаецца, страціў цярпенне, рашуча звузіў вочы: — Пойдзем, Стась!

І Стась згадзіўся.

Яны былі ўжо на балоце.

Стась бег за Васілём, Грынь адставаў. Жыў Грынь у Негарэлым, але Астравічы ведаў, як улас-

ныя кішэні, бо перад вайною кожнае лета прыязджаў да сваёй цёткі Паланеі ў госці. Баючыся гарачага пяску, усё лета хадзіў у белых тапачках.

Цяпер гэта быў невысокі каржакаваты дзяцюк з тонкімі вуснамі і блакітнымі вачамі. Шчокі яго і нават невысокі лоб густа абсыпалі ружовыя прышчыкі.

Успомнілася, як Грынь аднойчы расказваў хлопцам пра вядзьмарства Малашчыцкіх, размахваючы гэтак жа, як цётка Паланея, рукамі і гэтак жа, як яна, паўтараючы: «Божа ж, мой божа, і не пакарае!» Нехта са старэйшых, падслухаўшы аднойчы тую балбатню, засмяяўся: «Гэта ж трэба, і словы Паланеіны рыхтык пазбіраў».

— Не, не магу, сэрца разарвецца,— прахрыпеў Грынь і апоўз на зямлю.

— Ладна, адпачнём,— згадзіўся Васіль.

Стась ляжаў на халоднай траве і папракаў сябе за тое, што ўступіў Васілю. Паўдня яны гойсаюць па балоце, як шалёныя сабакі, а ўсё дарэмна. Але, зрэшты, не ўтома мучыла яго, а пачуццё невядомасці, едкага сораму перад маці і вёскаю: яны ж нічога не ведаюць. Думаюць, напэўна, што Васіль таксама паліцай. І што ён, Стась, таксама з імі...

Стась пазіраў у сіняе глыбокае неба, адчуваючы разгарачанаю ўспацелаю спінаю свежы халадок вільготнай зямлі. І раптам падумаў, што ён зараз можа прастудзіцца, захварэць і памерці. Яго пакладуць у дамавіну і пад матчыны крыкі і плач закапаюць глыбока-глыбока. І тады ўсё добра скончыцца. Людзі скажуць... Стась падумаў, пра што могуць сказаць людзі, і стомлена, са стогнам павярнуўся на бок. Перад вачамі затрапяталі чырвоныя і чорныя мушкі. П'яніў рэзкі пах перагнілай балотнай травы і карэнняў. Але думка пра тое, што ён сёння, магчыма, памыліўся ў Васілю і, як сляпое кацяня, безда-

паможна слухаецца яго, засела ў горле, як корак, і душыла, душыла...

У Васіля замест сэрца, здавалася, была помпа. Ён нават не прысеў. Недалёка ад месца іхняга прыстанку была тая самая ведзьмарова купіна.

«Няўжо і туды пойдзем?» — пахаладзеў нутром Стась, заўважыўшы, як Васіль уважліва абмацвае вачамі паласу карчоў, за якімі пачыналася дрыгва.

— Ну, хопіць, хлопцы, уставайце...

Сказаў так, нібыта яны былі на звычайнай рабоце, на касьбе. Што трэба, маўляў, падымацца ды брацца за косы...

Усе трое ўтыркалі ў здрадлівую зеляноту доўгія кійкі, каб неспадзеўкі не трапіць у гнілую дзірку. Чым бліжай падступаліся да страшнага месца, тым часцей з-пад купін вырывалася з бульканнем і шыпеннем іржавая вада. Ішлі моўчкі. І раптам адтуль, дзе чарнелі карчы, пачуўся крык. Клікаў на дапамогу, няйначай, той самы лётчык, бо хто з мясцовых пойдзе туды ў такую пару.

Крык паўтарыўся, і яны пабеглі, не зважаючы на тое, што купіны пад нагамі хадзілі, як на спружынах.

... Лётчык быў сярэдніх гадоў з тонкімі вусікамі і вузкімі шчылінамі вачэй.

— Папаўся,— плюнуў праз зубы Грынь і пачаў сцягваць з пляча вінтоўку.

— Ціха! — крыкнуў на яго Васіль, падступаючы да чорнай лапіны ўсё бліжай, падаў лётчыку кій. Але той зноў закрычаў, тузануўся з усяе сілы, ажно навокал яго закалыхалася шараватая, з бліскучай гладкаю паверхняю, балотная гразь, і тут жа праваліўся па самыя грудзі.

— Кій бяры!

На шырокім лётчыкавым твары варухнуліся пабялелыя вусны. Ён падняў руку, але цела апускала-

ся ў студзяністую прорву ўсё глыбей. Васіль, не азірнуўшыся, загадаў хрыплым голасам:

— Давайце кії!

Ён нахіліўся, паклаў кії перад сабою, потым асцярожна, упіраючыся рукамі ў купіны, лёг на іх і пачаў павольна падсоўвацца да лётчыка.

Стась зразумеў, што адбываецца нешта нечаканае і небяспечнае, але таксама лёг на дрогкую зямлю, шукаючы каленямі цвярдзейшыя лапіны. Прайшла хвіліна. Дзве ці тры... Вось-вось павінна было здарыцца страшнае.

Васіль паспеў схапіць лётчыка за руку, калі той праваліўся ў багну па самыя плечы. Толькі адзін неасцярожны рух — і Васіль услед за лётчыкам мог усунуцца ў прорву. Трэба было нешта рабіць...

І тады Стась аберуч абхапіў Васіля за ногі, за чобаты, што чарнелі падэшвамі перад самым ягоным носам, і з усяе сілы тузануў іх да сябе. А потым гэтак жа неасцярожна і ўтрапёна, як ашалеўшы ад страху і злосці, пачаў адпаўзаць назад, цягнучы за сабою і Васіля...

Вырашылі ісці ў Каптонічы — да гэтай вёскі хоць і не так блізка, затое дарога была сушэйшая. Неслі лётчыка на плячах, па чарзе. На небе ўспыхнулі першыя зоркі, але ноч не спяшалася наступаць, было яшчэ даволі светла. І толькі балота, ужо за плячамі, ляжала чорнай нерухомай пустыняю.

Пачуўшы незнаёмых, каптоніцкія сабакі ажно заліліся тонкім брэхам. Грынь, мінаючы гароды, паціху кіраваўся да хаты тутэйшага старасты Якіма. Стукнуў у акно. Выскачыўшы на ганак і пазнаўшы гасцей, гаспадар толькі ляпнуў вялікімі рукамі па баках і здзіўлена пакруціў лысай і доўгай, бы гусінае яйка, галавою.

У хаце гарэла падвешаная да столі над сталом вялікая лямпа. Лётчыка пераапранулі ў сухое адзен-

не, звязалі на ўсякі выпадак рукі тонкаю вяроўчынаю. Бо так захацеў Грынь. Паселі, дзе хто мог. Васіль апусціўся на лаву каля стала змрочны, насуплены, засяроджаны. Стараста неяк па-дурному ўсміхаўся, але ні аб чым пакуль што не пытаў. Паставіў на стол пляшку гарэлкі і шклянкі, гліняную міску з агуркамі. Пачаў кроіць хлеб.

— Ну, вось што, хлопцы, нам тут,— Васіль абвёў насмешлівымі вачамі хату,— усім не ўлегчыся.

— Гэта чаму ж? — вяла запярэчыў Грынь.— Калі гэта людзям хаты не хапала?!

Не адказаўшы яму, Васіль перавёў позірк на старасту, кашлянуў у кулак.

— От, не заўважыў, ці ёсць у цябе лазня?

— Стаіць, а дзе ж ёй падзецца!.. Хаця халодная, страх!

— Нічога, ніякая халера яго,— Васіль кіўнуў у бок лётчыка,— не возьме. Варту паставім, каб не ўцёк.

— Гэта хто ж стаяць будзе? — з'едліва ўсміхнуўся Грынь.

— Каго пастаўлю, той і будзе!

— Ну, то сам і пастаіш! Начальнік мне знайшоўся... Кацiся адсюль, пакуль не позна. Я цябе наогул не клікаў!

Васіль нават галавы не павярнуў да Грыня, нібыта і сапраўды быў якім начальнікам, моўчкі разліў гарэлку ў шклянкі і адну з іх па-гаспадарску падаў старасту.

— На дарожку, весялей будзе... Пакуль светла яшчэ!

Стараста ахвотна выпіў, хруснуў агурком і глянуў на прысутных маленькімі, як у свінні, вочкамі.

— І дзе гэта вы яго злапалі?!

— У ведзьмаровай купіне! — зарагатаў Грынь, але, глянуўшы на Васіля, асекся.

— Ого, не дзіва! Сам гаспадар, пэўна, з таго пекла даставаў... Яму ж не ўпярвой! — смела блазнаваў стараста, цікуючы за Васілём. Бы дурным ілбом арэхі пляжыў.

— Штукар ты, бачу, Якім,— ціха прашаптаў Васіль, павярнуўшыся да яго.— Штукар... Ну, то бяры хутчэй каня запрагай ды шпар у Негарэлае. Можа, раніцаю ўжо і прыедуць.

— У Негарэлае? Ты што, з глузду з'ехаў?! Куды ж я, навач гледзячы? Учудзіў... Гэта ж, можа, не на гулянку табе?!

— І я пра тое, што не на гулянку... А ты што, хочаш, каб нас тут усіх... партызаны...

— Жартуеш,— усё яшчэ не верыў стараста,— куды ж такою парою?! Ты што?! Якія партызаны?!

— А ты,— Васіль зірнуў на Грыня,— павартуй яго трохі ў лазні. А то й праўда, калі партызаны, то мы ўжо са Стасем як-небудзь паспеем... Драла даць! А вы ўжо сядзіце там сабе ціхенька, век не знойдуць. Вось так...

— Не паеду я, хоць рэж, не паеду! — стараста глядзеў на ўсіх злосным позіркам.

— Паедзеш як міленькі! — павярнуўся да яго Васіль.— От так! Спяшайся, а то зусім сцямнее.

— Вядзьмар ты пракляты. Вядзьмар! — прасіпеў гаспадар, але пярэчыць болей не стаў. Хістаючыся, пайшоў да дзвярэй.

— Але чаму б нам самім не завесці яго ў Негарэлае? — Грынь кіўнуў на лётчыка.

— А калі і праўда партызаны? — ускіпеў Васіль.— Куды на балоце ўпячэш? Усё сарвецца!

Ён моцна ўдарыў далонню па стале, бы адсек усе пытанні і вырашанае ім было адзіна правільным.

Стась толькі цяпер пачаў пераапранацца ў сухое. Усунуў рукі ў кароткія, вузкія рукавы сарочкі і падумаў пра старасту: «Бач ты, сам тоўсты, нібы сноп,

а сарочка — як на дзіця. Зладзюга, удод смярдзючы!»

За ўвесь вечар Стась не мог выціснуць з сябе ні слова, нібыта ўсё, што адбывалася, яго ніяк не кранала. Нічога не мог зразумець. Хлопец, сеўшы за стол, падняў шклянку з гарэлкай, але хутка адсунуў яе ад сябе, бо ў горле ад першага ж глытка быццам закруціўся гарачы свердзел. Павячэраўшы трохі, прымасціўся на тапчане, вузкім і хісткім, бы кладка над раўчуком, з прыкрасцю думаючы пра тое, што Васіль яго проста падмануў, што ён таксама з імі... гэтымі... Але да канца верыць усё ж не хацелася.

Лётчык сядзеў на ўслончыку каля печы. Вочы, удзень чорныя, бы вугаль, пры бляклым святле газоўкі ці проста ад стомленасці і ўнутранага ўтрапення зрабіліся яшчэ вузейшыя і нейкія жоўтыя. Ён ужо зразумеў, у чые рукі трапіў. Зрэдку, калі за сталом пераходзілі на сварку, кідаў на прысутных вострыя насцярожаныя позіркі. Відно, слухаў усё ўважліва, бо, калі Грынь нехаця апрануўся і, клацнуўшы затворам, павесіў вінтоўку на плячо, сам падняўся з услончыка і павольна, апусціўшы галаву, пайшоў да дзвярэй. Следам за ім выйшаў і Васіль.

Хутка вярнуўшыся, Васіль падышоў да Стася, пакратаў яго за плячо. Але Стась не варухнуўся, нібыта ўжо спаў. Васіль патушыў лямпу і палез на печ. Было чутна, як ён там варочаецца, мосціцца. Потым, здавалася, заснуў, і яго густое дыханне не давала Стасю спакою: «Каб ты задушыўся там, вядзьмак пракляты! Казаў адно, а выйшла вунь як! Дурань жа я!» Стась ледзь не плакаў ад пакутлівай роспачы, ляжаў і прыслухоўваўся да нарастаючай за вокнамі непагадзі. Шыбіны спачатку лёгенька пазвоньвалі, потым па іх забарабаніў дождж. Ударыў першы гром, пасля якога ўся хата напоўнілася

грукатам. Здавалася, што над галавою была не саламяная, а гонтавая страха і па ёй гучна тупаў нехта ў вялізных чобатах. Толькі цяпер, упершыню за доўгі пачварны вечар, Стась успомніў пра маці. «А можа, уцячы адсюль?» Ад гэтай нечаканай думкі ён ажно падскочыў на тапчане. «А што, дарога — хоць каціся! Вось толькі лётчык... Як жа з ім? Як жа з лётчыкам?»

Дождж аціхаў. Хмара, мабыць, прайшла бокам, і ад далёкіх маланак вокны раз-пораз залівала яяркім блакітным святлом.

...Калі пачынала грымець, маці вешала на клямку старую анучу, правярала засланку ў печы. Вось цяпер яна, пэўна, села на лаву, прыціснула сухія, цвёрдыя кулачкі да грудзей, каб супакоіць растрывожанае сэрца.

Садзілася яна звычайна не каля самага акна, а трохі збоку, баючыся маланкавага святла. Ці, можа, зусім выйшла на ганак — стаіць пры адчыненых дзвярах і маўчыць. Стаіць адна-адненькая перад чорнаю сцяною дажджу. І моліцца за яго, за Стася.

Стась асцярожна, каб не зарыпеў тапчан, апусціў ногі і патупаў да дзвярэй. У куце на лаве намацаў драўлянае вядро з вадою. Нахіліўся і пачаў, ціха сёрбаючы, піць. Васіль, здаецца, прыціх. Але толькі на хвілінку. Яго хрыплае густое дыханне зноў пачало ўганяць у Стасеву патыліцу іголкі, ажно падступіла нудота. Стась яшчэ раз прыслухаўся, пасля нагнуўся, выцягнуў з-пад лавы абушок, які чамусьці прыкмеціў яшчэ звечара... Яго закалаціла як у ліхаманцы. Ціха адчыніў дзверы і выйшаў у сенцы. Пастаяў трохі, а праз хвіліну, паспеўшы азябнуць, рыўком кінуўся наперад. Наступаючы босымі нагамі на калючыя каменьчыкі, скрыгатнуў зубамі, перасільваючы непрыемны страх, які з кожным крокам напаўняў сэрца. Вось яна, лазня...

Было яшчэ трошкі відна. Стась абмацаў мокрыя, шурпатыя сцены, зусім блізка падышоў да дзвярэй. Спыніўся. Стаяў, не ведаючы, што рабіць далей. І раптам дзверы зарыпелі і пачалі павольна адчыняцца. Нехта, пэўна, Грынь, каму ж яшчэ тут быць, спыніўся і вылаяўся. Стась адарваў ад сцяны анямелае плячо, падняў абушок. «Я толькі аглушу... Аглушу яго!» — падумаўшы так, ён рэзка кінуўся наперад, але, мусіць, ступіў на мокрую гліну, паслізнуўся і спінаю грымнуўся вобземлю.

Грынь заенчыў, як падстрэлены заяц, і адскочыў убок. Стась таксама падхапіўся на ногі, няўцямна кінуўся за лазню, але тут жа апамятаўся, крута павярнуў да хаты. Дзверы ў сенцы былі адчыненыя, і ўнутры, ударыўшыся аб драбіну, Стась прыціснуўся да яе рэбраў плячамі, заціх.

З хаты, быццам і не спаў зусім, выскачыў Васіль. Сакануў промнем ліхтарыка па сенцах, так што Стась заплюшчыў вочы, выбег на вуліцу. «Не заўважыў!» — у Стася трывожна сціснулася сэрца, але раздумваць не было часу.

Кінуўшы пад лаву абушок, Стась сарваў са сцяны ручнік і пачаў ліхаманкава выціраць брудныя ногі. У сенцах затупалі. Стась кінуў ручнік да печы і як быў у мокрай халоднай вопратцы, так і ўпаў на тапчан, з галавою ўкруціўся ў радно. Усё цела, твар, нават валасы на галаве былі нібы абліты агнём. Рыпнулі дзверы, і ў хату ўваліліся Грынь з Васілём.

Запалілі газоўку. Васіль засмяяўся:

— На вось, герой, каўтні!

— Эх, не верыш ты мне... Дык я кажу табе, быў нехта!

— Ды хто там мог быць?.. У такую непагадзь! Кінь...

— Ат! — было чутна, як Грынь п'е гарэлку.— Няхай гэты падзяжурыць.

— Ды куды яму, сапліўцу... Пацярпі трохі, я заманю... Слухай, а Якім паехаў у Негарэлае?

— А як жа, паехаў.

— А што ж гэта я не чуў?

— Ды ў яго конь — у сястры, на другім канцы сяла...

— А, ну то добра... Гэта добра...

І тут Стась не вытрымаў і з усяе сілы чхнуў. Васіль засмяяўся, падышоў да тапчана і, садраўшы са Стасевай галавы радно, загадаў:

— Выпі!

Потым нахіліўся над ім і прашаптаў у самае вуха: «Нецярплівы ты, аднак... Эх, маладзён, ледзь не сарваў мне дзела...»

Васіль стаяў так, што сваім вялікім, шырокім целам засланяў Стася ад Грыневых вачэй. Стась прыўзняўся на локці, спалоханы, брудны, мокры, і адным духам выпіў шклянку гарэлкі; пякучая, як восеньская крапіва, вадкасць абдзерла вусны і горла. Зваліўся на падушку і зноў закрыўся з галавою. Ён ціха ляжаў пад смярдзючым радном, і мокрае цела паступова пачало саграваецца і моцна свярбець. Але не варушыўся. Ляжаў і пакутаваў. Думаў над Васілёвымі словамі. Толькі цяпер зразумеў, што той чакаў зручнага моманту, правяраў, ці сапраўды стараста паехаў у раён. Чакаў цемры. А ён, Стась, што падумаў... Дурань саплівы!..

Разам з гарэлкай у цела ўлілася сонная ўтома. Перад вачамі пачало трапятаць нешта чорнае, потым чырвонае, жоўтае, імкліва кружыцца, мяняць колеры. І ў гэтым мігатлівым трывожным сне выразна пачала акрэсліваецца вельмі знаёмая постаць. Яна павольна набліжалася, працягвала да яго рукі. «Мама... Мамачка...» Стась кінуўся да маці і — паляцеў.

Ён пачаў прачынацца, калі адчуў, што нехта падышоў і наклаў на ягоную галаву халодную руку.

Хацеў падняць павекі, але перад вачамі загайдаўся белы туман. Зноў з'явілася чыясьці постаць. Не, гэта была ўжо не маці... Гэта быў лётчык! Лётчык бег яму насустрач, падымаючы вялізную сякеру. Стась памкнуўся ўцякаць, але не мог адарваць ног ад зямлі. Ён хацеў расказаць лётчыку пра ўсё, але язык не слухаўся. Тады Стась з усяе сілы рвануўся, ускрыкнуў і... расплюшчыў вочы. Стомлены, быццам і не спаў зусім, ён ляжаў на тапчане, не разумеючы, куды трапіў і што з ім адбываецца. Сэрца шалёна калацілася. Хату ўжо запоўніла ранішняе святло. І тут ён успомніў увесь учарашні дзень і вечар, рэзка павярнуўся тварам да хаты...

Дзіва! Васіль Малашчыцкі ўжо быў на нагах і праз акно асцярожна пазіраў на вуліцу. Стась раптам заўважыў, што ягоныя чобаты заляпаны граззю. Ды і падлога ўся была затаптана бруднымі слядамі. Адразу ж кальнула здагадка, што Васіль, напэўна, не спаў усю ноч, недзе хаваў лётчыка. Можа, і ў Астравічах. А як жа Грынь? Дзе ён? Няўжо Васіль... Няўжо забіў яго?

— Эх ты, герой! — Васіль раптам павярнуўся да яго.— Як захроп, то я і дабудзіцца не мог. Сп'янеў, ці што?

Стась не ведаў, што адказаць, і Васіль зноў павярнуўся да акна.

— Во... Вылазяць ужо! Я ж думаў, што яшчэ й цябе паспею забраць. А я лётчыка, знаеш, ажно ў кузню даставіў... От так! Хай шукаюць!

Ён адвярнуўся ад акна і пачаў уважліва азірацца. Потым падбег да лавы, згроб з яе бруднае, яшчэ мокрае абмундзіраванне лётчыка, што так і праляжала тут усю ноч, чамусьці шпурнуў яго на печ.

Першым у хату зайшоў стараста Якім, за ім уваліўся Грынь, паціраючы на руках белыя палоскі, сляды ад вяроўкі.

Стараста насцярожана азірнуўся, нібыта чакаў убачыць у хаце лётчыка, але, працяўшы Стася злым позіркам, ссунуў бровы, ухмыльнуўся:

— Ладна! Разбірайцеся самі! А немцы во-во будуць!..

— Ты што, раней за іх паспеў? — здзівіўся Васіль.

— Ага, раней! Дурня знайшоў! Каб начамі лётаў! Ага... Пляменніка я паслаў, вот што. Яшчэранічкаю. Калі ты спаў тут!

— А я, можа, і не спаў.

— Бачу, падлюка! Усё бачу! Толькі мяне неча... Сам,— стараста павярнуўся да Грыня,— сам іх прывёў, сам і локці кусай! А мяне — неча!..

І моцна стукнуў за сабою дзвярамі.

— Ідзі-тка, Стась, адсюль. Ідзі-ідзі! Мы тут самі... разбяромся! — Васіль гаварыў гэта павольна, не зводзячы позірку з Грыня — пабялелага да сінявастых плям на шчоках, з шырока расплюшчанымі ад жаху вачамі.

— Ты чаго? Жоўтай гразі ў штаны напусціў?

— Не выхадзі! Страляць буду! Ах жа і гады...

Васіль ступіў наперад і стаў перад Грынем. Цяжка, гучна захрыпеў...

Грынь трымаў перад сабою вінтоўку, цэлячыся Васілю проста ў грудзі, і яго рукі трэсліся. Яшчэ раз віскатліва папярэдзіў:

— Не выхадзі! Стральну! Хай толькі парухаецца...

Стасю здалося, што ён пачуў не такое ўжо далёкае вуркатанне матораў. Немцы?..

— Ідзі, Стась! Ідзі, кажу...

— Няхай толькі... От хіба з табою разам! У пекла!

Вінтоўка ўпіралася ў самыя Васілёвы грудзі, і Стась застыў на месцы, нават баючыся варухнуцца. І раптам аж уздрыгнуў ад нечаканага гучнага рога-

ту. Апамятаўшыся, не паверыў вачам. Васіль трымаўся аберуч за ствол вінтоўкі:

— Давай, давай, Грыня... Страляй! Ну што ж ты... не страляеш?

Грынь, здавалася, ужо нічога не бачыў сваімі белымі ад страху вачамі і толькі бясцямна енчыў:

— Вядзьмак пракляты! От і стрэлю! Вядзьмак!.. Толькі ступі! — яго ўсяго калаціла.— Перадасць! Д'ябла свайго перадасць!

І гэтак жа часта, як некалі цётка Паланея, заміргаў мокрымі павекамі:

— Хай цябе суша!

Стась адвярнуўся. Злавіўшы слыхам недалёкае тарахценне нямецкіх матацыклаў, здзівіўся, што нічога не баіцца.

Грынь усё хліпаў носам. Сарваўся на плаксівы крык:

— Гэта ж перадасць...

Васіль рэзка, як захлынуўшыся, кашлянуў, з усяе сілы крутнуў вінтоўку ўверх і адразу ж вырваў яе з Грыневых рук.



# ТАРБА

Мужчынскі голас здаўся Тарбу злосным. Прастуджаны, ён гугнеў быццам з-пад зямлі. Параўнаць — дык галасок у палатнай сястры проста анёльскі. Мяккі, бы тая мазь, якую яму штодзень клалі на павекі і нават на пераноссе.

— Як-як? — перапытаў мужчынскі голас.

— Тарба... Алесь.

— Ну, вось і ўсе твае паперы, Алесь Іванавіч.

Дужыя рукі падхапілі лёгкі салдацкі мяшок і засунулі ў яго паперчыны: шу-шух! Тарба раўнадушна маўчаў. Стаяў, падняўшы галаву так, што на шыі выпіраўся вялікі кадык. Нібыта ўсё — і прастуджаны голас, і шарготкія паперкі, і мяшок з небагатым салдацкім набыткам,— усё гэта яму патрэбна як залеташні снег.

— Асцярожна, тут прыступкі,— у голасе незнаёмага нешта як стрэліла. Быццам трэснула туга нацягнутая льняная нітка. Ці трэска, што даўно ляжала ў падпрыпечку і якую нечакана разламалі. «Кашляе, бы на фронце»,— падумалася Тарбу. Ён ведаў, што да цягніка яго павязуць на машыне. Але не хацелася нічога гаварыць, не хацелася нават думаць.

Калі, нарэшце, селі, ён нервова павёў плячамі, адчуў халадок скуранога сядзення. Затарахцеў матор, цёплая хваля пакацілася па твары. І Тарба адразу супакоіўся.

— Як вам, таварыш Тарба? — застраляў прастуджаным голасам праважаты.

— Добра,— нехаця адказаў салдат і шырокаю спінаю ўціснуўся ў сядзенне.

Колькі памятае сябе Тарба, ён быў толькі Тарбам. Нават дзед Каленік, каля якога ён гадаваўся, бубнеў з раніцы да вечара: «Тарба, прынясі... Тарба, падай...» Мала хто з аднавяскоўцаў ведаў, што Тарба не імя, а прозвішча, што сапраўднае яго імя Алесь.

Аднак сваё «Алесь Іванавіч» ён пачуў толькі на фронце. Тут, у ваенным шпіталі. Лежачы на цвёрдым ложку амаль нерухома, бо даўно не вылазіў з бінтоў, ён меў час успамінаць пра Ганну. Успомніў аднаго разу і пра той вечар, пра які, па праўдзе кажучы, згадваць не хацелася. Тады ён, яшчэ зусім малады, але высокі і дужы, ледзь не пакалечыў добрага чалавека, свайго сябра Андрэя Бурвана. Нават траха не забіў хлопца за тое, што таму кінулася ў вочы Ганна. Падсцярог у ціхім месцы і знянацку наваліўся на яго.

Позна ўвечары, калі добра сцямнела, пад запаветнаю яблыняю Ганна цалавала Тарбу ў вусны, тонкія і сухія, горача дыхала ў твар. Потым, успомніўшы пра бойку, адштурхоўвала яго і злосна пыталася:

— За што ты Андрэя? З глузду з'ехаў...

— Няхай не чэпіцца!

— Не чапляўся ён, далібог. Чаго ты кідаешся на людзей? Божачка мой, божа...

Тарба толькі адчайна шаптаў:

— Сам не ведаю чаго. Пройдзе, Ганначка, у яго, зажыве...

Успамін толькі развярэдзіў душу, як кожны

ўспамін пра тое, ранейшае, здавалася, такое далёкае жыццё. Далёкае сваімі колерамі і гукамі. Тарба пачынаў усведамляць, што цяпер яму гэтыя прывідныя малюнкі сталі нечым важным, патрэбным, неаддзельным ад кожнага шпітальнага дня.

Па кроках здагадаўся, што да ложка падышлі двое, медсястра і яшчэ нехта, напэўна ўрач.

— Здаецца, усё... Здаровы... Толькі ж, самі ведаеце...

Тарба хацеў каторы ўжо раз расплюшчыць вочы, але павекі зноў не паслухаліся. Здавалася, на іх навалійся вялізны камень. Той самы камень, што здаўна вылежваў цёмны бок на гародзе за хатай дзеда Каленіка. Яны з Ганнаю пасяліліся там яшчэ перад вайною, пры жыцці дзеда. Хацелі выкаціць з гарода той камень, але так і не наважыліся.

Тарба яшчэ раз з усяе сілы паспрабаваў падняць набрынялыя важкай гарачай цемрай павекі і раптам, нібы паслізнуўшыся на глінянай кручы, паляцеў. Ляцеў, крычучы і стогнучы, уніз, падаў і падаў. Але не адчуў нават лёгкага штуршка, калі паваліўся бокам на цвёрдае, утаптанае дно акопа. Усхапіўся на ногі. Немагчыма было зразумець, адкуль даносіцца густы, працяжны гул бою. За два-тры крокі ад яго нерухома ляжаў лейтэнант Лёгенькі і далонямі засланяў твар. Тарба азірнуўся, убачыў танк, які ўparта поўз на акоп, і адразу кінуў гранату. Жалезная пачвара крутнулася на месцы, задрыжала і зноў папаўзла проста на яго, на Тарбу. Але гэта ўжо быў не танк, а вялізны матыль з чырвонымі бліскучымі крыламі. Матыль упарта сунуўся наперад, і салдат голымі рукамі пачаў адбівацца ад пачвары, якая цэлілася проста ў вочы сваім вострым, бы шыла, доўгім носікам. Матылёў рабілася ўсё болей і болей. Яны налягалі на акоп з усіх бакоў, махаючы крыламі і апякаючы твар. І тады, калі, здавалася, не было

ўжо ніякай сілы, Тарба, як апантаны, кінуўся на іх, і матылі адразу адступіліся, усё меншалі і меншалі. Потым, склаўшы крылы, пачалі падаць у бяздонную прорву, мільгаючы дзесьці там, углыбіні, зіхатлівымі зоркамі.

— Алесь Іванавіч, вы чуеце мяне?

Тарба ўздрыгнуў, бо сапраўды пачуў, як яго паклікалі. Ляжаў нерухома, не абзываючыся, імкнучыся што-небудзь зразумець, потым успамінаў, дзе ён і што з ім. Так, гэта шпіталь, шпіталь...

Павольна намацваючы складкі коўдры, ён павёў рукою і дакрануўся пальцамі да невялікай цёплай рукі. Яна была цвёрдая, бы ў мужчыны. Адпак Тарба не сумняваўся, што рука жаночая. І, не ўяўляючы твару жанчыны, якая сядзела побач з ім, не разумеючы самога сябе, напаўняючыся злосцю і адчаем, сляпы салдат з усяе сілы сціснуў гэтую маленькую руку. Ажно скрыгатнуў зубамі.

Медсястра глуха застагнала, быццам хацела схаваць свой боль, быццам зразумела нясцерпную душэўную тугу гэтага вялікага, дужага, але такога бездапаможнага чалавека.

Жанчына, якая праводзіла яго ад цягніка, нокнула на каня, і калёсы загрукалі па круглых бярвёнах моста.

— Алесь Іванавіч, ад моста, здаецца, направа?

— Направа,— машынальна паўтарыў Тарба, але спахапіўся.— Ды не, налева ж, налева ад моста... Там, дзе вярбіна старая.

— Вярбіны няма,— уздыхнула жанчына.— Але абгарэлая качарэжка стаіць. Значыць, правільна. Я, знаеце, даўно тут не была... Ой, даўно!

Па стомленым, абыякавым, нават не жаласлівым, а нейкім незадаволена насцярожаным голасе Тарба

намаляваў сабе высокую, дзябёлую, з рэдкімі валасамі і шырокімі бровамі кабету.

Напэўна, выехалі на пясчаны шлях, бо колы сталі шаргатаць і яго мякка і пяшчотна пагойдвала. Лёг на духмянае сена, якое п'яніла водарам мятлічкі і асакі. Цёплае паветра паплыло па твары і грудзях, абуджаючы ў ім нейкую даўнюю, глыбокую насцярожанасць. Як тады, перад жаніцьбаю, калі ён ляжаў вось гэтак жа, на спіне, адчуваючы лапаткамі вузлаватыя сеці на дне чоўна. Трымаўся рукамі за халаднаватыя барты. Глядзеў на Ганну. Цёмныя валасы яе былі гладка зачасаныя назад, прабор пасярэдзіне хваляваў і прасіўся на пацалункі, лёгкая паркалёвая блузка свіцілася на загарэлых плячах. Ён запытаў ціха:

— Няцяжка?

— Не-а!

Ганна засмяялася, высока падняла над вадою вясло, і на яго твар зляцела некалькі сцюдзёных, калючых кропель, апякаючы ўсё цела. Як жарынка пакацілася ўнутр.

— Я ўжо буду...

— Бяры...

Вясло стукнулася аб драўляны борт. Ён сеў, пасунуўся трохі, даючы ёй месца побач. Потым абхапіў дзяўчыну за плечы і прыціснуўся тварам да грудзей. «Няйначай так будзе, няйначай так! Не выкруцішца...» Тое, што ён пакутліва таіў у сабе і свята шанаваў у Ганне ўсё лета, зрабілася раптам пустым і нікчэмным, знікла ў далёкай, халоднай смузе. Не хацеў, болей не мог слухацца яе, не разумеў яе ўпартых рук, ускіпаў шалёнай злосцю ад яе непадатлівасці.

«Змяя. Падкалодная... Задушу зараз, задушу. Любая...»

Ганна змагла нарэшце ўлавіць той зручны момант,

калі ён аслабеў. Вырвалася. Дрогкі човен пагрозліва захітаўся, зачарпнуў бортам вады, і Ганна, не думаючы, адчайна кінулася ў раку.

А ён усё яшчэ сядзеў на сецях і сачыў, як Ганна павольна выходзіць з вады на бераг.

Вечарам, калі ўсё, што здарылася, адплыло за раку, астудзілася ў памяці, Тарба чакаў Ганну пад маўклівай яблыняю амаль што да раніцы. Стаяў і чакаў, увесь час стрымліваў жаданне пабегчы праз усю вёску да Ганнінай хаты. Спачатку не мог спакойна ні пра што думаць, перапоўнены сваім гнятлівым чаканнем, але кропля за кропляй яго цяжка напаўняла непрыемнае пачуццё абражанага, пакінутага, пакрыўджанага. Ды яшчэ тою, каго хацеў весці ў сваю хату!

Але гэтая насцярожаная крыўда раптам паплыла з душы і сэрца, зашчымела ад невераемна трывожнага ўсведамлення страты. «Дурань! Сілком хацеў... Кажан сляпы!» Ён застагнаў, нібы апёкся тварам аб халодную чорную цішыню, і пабег, важка ступаючы адзеравянелымі за ноч нагамі па зрошанай зямлі. Спыніўся толькі каля Ганнінай хаты, патупаў цераз двор. У хаце было ціха і сонна. Ён прыліп ілбом да нечакана халоднай шыбіны, сіліўся, не баючыся, хоць каго-небудзь убачыць. Але дарэмна. І раптам бразнула клямка, ціха і асцярожна зарыпелі дзверы. Тарба кінуўся ад акна і прыціснуўся спінаю да сцяны. Чакаў, што выйдзе бацька ці маці, ліхаманкава прыдумваў словы апраўдання. Але на ганак выйшла Ганна...

Колькі разоў Тарба ўспамінаў тую далёкую ноч. І кожны раз сэрца сціскалася ад хвалявання. Толькі сёння чамусьці на душы было спакойна і неяк ціха, мёртва.

Воз упарта закалыхваў. Напэўна, жанчына падумала, што Тарба і сапраўды заснуў; нясмела пакра-

тала яго за плячо. Тарба сеў, правёў рукою па салдацкім мяшку, правяраючы, ці давязе шаўковую хустку жонцы, павярнуўся да вазніцы. Пракашляўся.

— Дык вам у Закоп'е?.. Ага... Дык я каля рэчкі злезу.

— Ну што вы, даражэнькі, давязу ж...

— Не, не трэба, сам дайду!

Адчуў, што жанчына яшчэ раз хацела запярэчыць, але не сказала ні слова, а толькі ўздыхнула.

Калі саскочыў з воза, яшчэ не ведаў, як будзе дабірацца дахаты, але паспешліва развітаўся з жанчынай, якая няўмела паказвала накірунак. Воз павольна ад'язджаў ад яго, і Тарбу здалося, што жанчына сапраўды не ведае дарогі, бо чамусьці паехала не ў той бок. Колы нейкі час рыпелі, як здалося, перад ім, у тым баку, куды трэба было спяшацца яму, а не ёй. Хацеў крыкнуць, папярэдзіць, але не асмеліўся. Ішоў упэўнена, хоць і павольна, хвілін дзесяць. Потым сышоў з цвёрдага і разгубіўся. Стаяў, шырока расставіўшы ногі, трымаў у анямелай руцэ мяшэчак. І раптам падумаў, што вяртацца яму не трэба было. Уся назапашаная, затоеная ў глыбіні душы горыч у адзін момант скруціла яго, і здавалася, што ён зараз упадзе. Але выстаяў на нагах, трымаючыся рукою за свой лёгенькі салдацкі мяшок. Як за хісткую адчайную надзею.

— Тарба... Тарба...

Голас, падобны да Ганнінага, чуўся аднекуль здалёку.

— Ба-ба... Ба-ба-а-а-а...

Здалося, што Ганна кліча яго з-за ракі. Не верылася, што яна можа быць недзе блізка. Ён яшчэ мог бы пабегчы назад, да таго моста з пакалечанай вярбой, а потым — да чыгункі. Ад хвалявання выцер з ілба пот. Пад пілоткаю чуб таксама ўзмакрэў. «Бы ў лазні, чорт!»

— Тарба!

Сонца, мабыць, высока-высока, калі такая духата. За поўдзень яшчэ не пераваліла, вядома ж, не перавеліла, сама абедаць касцам. Гарачы клубок пакаціўся па грудзях, па горле, у роце было суха. І нельга дыхнуць на поўныя грудзі.

Нечыя чужыя моцныя рукі абхапілі яго за плечы. Чужая мокрая шчака непрыемна тыцнулася ў шыю, і Тарба захацеў нават адштурхнуць. І раптам як ударыла: «Ганна! Яна, Ганна...» Тарба адчуў, як затрапятала спалоханае сэрца, зашчымелі пальцы на жончыных плячах. Адразу, бы скінуў з плячэй важкую ношку, забыў пра страх, што ўсю дарогу прыліпаў да сэрца мокрым слізняком і высмоктваў з яго кропелькі спакою.

— Жывы... Жывы...

Ганна моцна прыціснулася да яго. Падбег нехта з аднавяскоўцаў, ткнуў яго вострым кулаком у плячо. Потым пачалі падбягаць яшчэ і яшчэ...

Вечарам таго ж дня Тарба пасля лазні сядзеў за сталом і думаў, пра што ж трэба будзе гаварыць з людзьмі, трывожна чакаў спачуванняў. Пачалі збірацца сваякі і суседзі. Няўмела ціснулі руку і гэтак жа стрымана, але, адчувалася, шчыра цалавалі ў паголеную шчаку. Адна толькі векавуха Вольга с парога пасыпала жартамі і, прыгарнуўшы яго за плечы, моцна і гучна пацалавала ў вусны. Увесь час з таго самага моманту, калі Тарба выйшаў удзень з лазні і ўдыхнуў па-сапраўднаму сваё вясковае, амаль забытае даваеннае паветра, грудзі сціскала ад вострага паху аеру. Напэўна, Ганна нарвала травы. Балотны пах паколваў у ноздры, асядаў унутр як нешта густое, даўкае. І з гэтым аерным водарам у душу ўладарна пачаў уліваццa спакой.

За сталом пра нешта гаварылі, успаміналі, час ад часу жартавалі. Але Тарба маўчаў. З самага пачат-

ку ён яшчэ спрабаваў неяк падтрымліваць агульную гаворку, хоць успамінаць пра нядаўна перажытае не хацелася. А калі стомлена паваліўся на ложак, здалося, што апусціўся на мяккую, усланую шарготкім аеравым лісцем падлогу, як некалі даўно-даўно. І нібыта не ляжаў зусім, а пагойдваўся ў вялікім мігатлівым коле з прамення, водараў і ціхіх, тоненькіх, як званочкі, гукаў. Не было адчування, што недзе там, за хатаю, ужо ноч. Тарба ўвесь быў у раніцы і праз уяўнае ранішняе святло з мігатлівымі пылінкамі, што радасна снавалі над галавою, з нечакана высокаю столлю ў хаце, з бліскучымі шыбінамі, з усім тым, што пазірала, насоўвалася на яго аднекуль зверху, усё вяртаўся і вяртаўся дадому. Але спакою не было, хоць сон браў яго ўсё смялей, і Тарба заснуў. Праваліўся ў свой новы, але нейкі знаёмы ўжо, як бачаны раней, свет.

...За дзедам Каленікам ён ідзе на луг. Густое паветра ўвабрала ў сябе водар палявых кветак. Яны рассыпаліся навокал, як асколачкі вясёлкі. Шчацініцца дзядоўнік у пышным цюрбане — натапырвае ва ўсе бакі свае вострыя пікі. Прыветна мільгае мятлічка... Тарба нясмела наступае на вострую і шорсткую траву босымі нагамі, але не адчувае ні болю, ні цяпла, ні холаду. З дзедам Каленікам яны косяць траву гэтак жа зацята, як рабілі гэта яшчэ да вайны, яшчэ да смерці дзеда. Пад касу кідаюцца ўсе кветкі, якія ён калі-небудзь бачыў. Ужвік... Ужвік... Каляровыя пялёсткі гойдаюцца перад ім, засцілаюць вочы. Дзед Каленік ужо даўно адстаў, а Тарба ўсё косіць і косіць. Гоніць няспынна свой даўжэзны пракос, бо ведае, што там, удалечыні, яго чакае Ганна. Жоўтыя, чырвоныя, блакітныя пялёсткі пачынаюць кружыцца перад яго вачамі, бы ў карагодзе, потым робяцца вострымі і калючымі. Яны з лёту ўтыркаюцца ў твар. Тарба хоча засланіцца далонямі, каб

затуліць вочы, але не можа выпусціць з рук касы. І тады вочы пачынаюць балець, шчымець. Ён бяжыць як шалёны, бяжыць на край свету і раптам падае. Але падае не на лугавыя кветкі, а на цвёрдае дно свайго акопа. Каторы ўжо раз нахіляецца над пачлейтэнантам Лёгенькім. Каторы ўжо раз кідае ў пачвару гранату. Каторы ўжо раз адбіваецца голымі рукамі ад чырвоных матылёў і падае разам і імі ў бяздонную прорву.

...Ён прачынаўся менавіта тады, калі пачынаў ляцець уніз. Кожную раніцу пражытага года. Сёння таксама. Прачнуўся, выцер з твару халодны пот, уздыхнуў і хацеў падняцца, як раптам пачуў, што Ганна з некім ціха гаворыць. Голас мужчыны быў густы, басавіты, добра знаёмы. «Бурван... Андрэй!» Тарба не чуў усёй размовы, але ад таропкага, усхваляванага, як здалося, Андрэевага: «Ты ж прыходзь, Ганна, не пазніся» яго закалаціла, абліло варам.

— Прыйду, ды што там,— засмяялася Ганна.— Ты пачакай трохі, з Тарбам перамовішся...

— Не,— абарваў яе Андрэй.— Няхай гаспадар твой спіць.

«Хай спіць, значыцца...» Краем вуха, здаецца, Тарба ўлавіў, што Ганна ўздыхнула.

— Ён што, так і не бярэцца за работу? Та-а-а-ак! А быў жа залатыя рукі, дай бог кожнаму...

— Ціха ты, Андрэй!

Ганна, напэўна, затуліла яму рот рукою, хутка зашаптала, бы гарохам пасыпала:

— Абыдзецца, як-небудзь абыдзецца, абыдзецца, абыдзецца... А як жа!

«Не, галубка, не абыдзецца! Не абыдзецца...» Тарба пачуў, што за госцем бразнула клямка, і сціснуўся пад коўдраю. Калі жончына рука легла на галаву, запытаў, нібы нічога не чуў:

— Здаецца, прыходзіў нехта?

— Ды брыгадзір, Андрэй... На лён трэба. Уставай ужо, Алеська, пара...

Тарба і сам ведаў, што раніца даўно ўвабралася ў сілу, бо з гарода валіў густы пах кропу. Ганна завіхалася каля печы. Стукала, бразгала, шорхала. Тарба незадаволена заварочаўся на ложку, і той, яшчэ даваенны, драўляны, жаласна зарыпеў пад ім.

— Крупнік тут, паеш... Ох, божачкі, яшчэ на работу і не сабралася, а рукі як дзеравяныя...

У яе голасе чуўся папрок, але Тарба маўчаў.

...Напэўна, гадзіну ён сядзеў на лаве каля акна. Прыслухоўваўся да таго, як гараць пальцы, якія ён апёк сёння раніцаю варам. Каля самага акна закубыкаў певень, быццам вада ў саганку закіпела. І адразу ж аднекуль збоку пачулася жаласлівае і стурбаванае кудахтанне. «От, няма на яе немачы... Зноў села!» Тарба ляніва падняўся з лавы і падаўся зганяць з кубла квактуху. Апоўдні ён загнаў у хлеў карову, сам падаіў, не чакаючы Ганны, працадзіў малако і вымыў даёнку. Ганна прыйшла позна ўвечары, калі на дварэ павільготнела, і адразу, як сноп, звалілася на ложак. Прынёс ёй малака і акраец хлеба, яна засмяялася, паднялася і павячэрала, не пытаючыся нават пра хатнія справы, быццам ведала, што ўсё тут ў парадку. Не правярала.

Ён ляжаў побач і маўчаў. Жончыны словы даляталі да яго, як праз густы дождж, гублялі сваю звонкасць і важнасць, перакочваліся ў паветры, як размяклыя васковыя шарыкі.

— Мані Саўчыкавай уюн у бот... Ха-ха! Ой, пацеха. А Лёнька з Залесся, кажуць, зусім азвярэў. Як нап'ецца, лупіць Насцю па чым папала. От вырадак, прасці госпадзі...

Тарба ўпарта сціскаў сухія тонкія вусны і маўчаў. Не растуліў іх і тады, калі Ганна раптам падхапілася: «Ну, што ты ўсё маўчыш, што ты маўчыш?!»

Потым уткнулася ў ягонае плячо, плакала: «Няма шчасця... Ці ж я не раблю? Ці ж я не гляджу? Ці ж я не пешчу? І малое, дзякуй богу, хутка будзе... А як жа вось так гадаваць? Га?»

Тое, у чым зараз прызналася Ганна, ударыла салодкім болем. Тарба нават спачатку не паверыў. Сцяміў толькі, што пачуў нешта для яго вельмі важнае. «Ты што, Ганна, ты ж не смейся, Ганна. Як гэта малое?»

Апоўначы, шчаслівы, ён з любасцю прыціскаў да сябе жонку, шаптаў узрадавана: «Я думаю, пара мне за сапраўдную работу брацца. Залатыя ж рукі, кажуць... Мне б толькі вось гэтымі залатымі ды знайсці... Дрэва знайсці...»

Ганна шчасліва смяялася. А Тарба, уткнуўшыся носам у шчаку, буркнуў жонцы:

— Ты ж мне толькі сына, Алеську...

Назаўтра прачнуўся раней за Ганну. Можа, яшчэ і раніца не пачыналася. Выпіў вады, апрануўся і ў сенцах заткнуў за дзяжку сякеру. Калі выйшаў з двара, патупаў па вуліцы ў той бок, дзе за вёскаю, па яго памяці, павінен быць малады лясок. Ішоў — нібыта бачыў перад сабою жоўтую сцежачку, што вяла з вёскі. А не бачыў жа, але ўсімі мускуламі, што пачалі напінацца і гудзець ад нечаканай патрэбы знаходзіць у цішыні і цемры адзіна правільны накірунак, усімі пачуццямі, усім целам, якое здавалася цяпер зусім голым, усёй сваёю істотаю стаў выбіраць шлях наперад. І ў гэтым адчайным напружанні пачыналі працаваць сляпыя вочы. Яны таксама «бачылі» перад сабой яркімі колерамі, што адстаяліся ў памяці за ўсё доўгае жыццё. Прайшоў нейкі час, і Тарба зразумеў, што гэта вярталіся колеры не столькі ягонага юнацтва ці сталасці, але найперш маленства. Спачатку рэхам абазвалася дзедава: «Каб не гойсаў доўга! Глядзі мне!» Але сцежка ўзнікла

ў свядомасці толькі на кароткі міг, асляпіла жоўтым і адразу ж прапала. Потым востра забалелі пальцы на назе, бо вось тут, вядома ж, вось тут ён ударыўся некалі нагою аб камень на дарозе. Перад вайною, калі сталі адна за адной хадзіць машыны, камень знеслі ўбок. Той далёкі боль прайшоў праз яго, адчуваўся амаль фізічна, і сцежка зноў з'явілася і ўжо не знікла. Ён ішоў павольна, асцярожна робячы крок за крокам, а пасля, нібыта баяўся страціць нешта нечакана знойдзенае, нагнуўся і зняў абутак. Нагам стала холадна, спакойна і добра.

Ганна ўжо, напэўна, прачнулася, стала яго шукаць, пытацца ў суседзяў, і Тарба заспяшаўся.

Ён абуўся толькі ў лесе. Закрываючы твар левай рукой, правай абмацваў ствалы дрэў, мокрыя і шурпатыя, гладзіў далонямі кару, пакуль не знайшоў тое, што трэба. Гэта была бярозка. «Нічога, што бяроза,— падумаў спакойна.— Для пачатку няхай і бяроза». Ссек яе, мяккую і падатлівую, прывычнымі ўдарамі сякеры, абцерабіў добра і пайшоў назад. І раптам, калі, здавалася, прайшоў амаль палову дарогі, спыніўся: адчуў недзе блізка небяспеку. Працягнуў вольную руку наперад і нечакана намацаў дрэва. «Эх, трэба было разуцца спярша!» — падумаў з горыччу. Ведаў, што заблудзіўся. Кальнула здагадка, што вярнуўся назад. Але не верылася. Павярнуў галаву ўбок, нібыта хацеў убачыць, куды трапіў, потым павольна падаўся налева. Дрэў не было. Кінуўся ў іншы бок, не баючыся аб што-небудзь ударыцца, але пад рукі нічога не трапіла. Значыцца, тут была толькі адна сасна. Вядома, сасна, бо пальцы пахлі смалою, хоць сасну тую цяпер ён таксама не знайшоў бы. Нібыта аглух, анямеў, адзеравянеў, страціў адчуванне прасторы. Але на адчайнае запытанне сабе самому: «Дзе ж я?» памяць адразу адгукнулася ўспамінам. І тады пачалі гарэць вушы, палаць ад болю і

сораму, як у далёкім маленстве. Ад шурпатых, цвёрдых рук дзеда. «Колькі казаць, галаштанцы? Не хадзіце сюды, не хадзіце, а то заб'ю!» Але яго, малога, так цягнула да гэтай сасны, што аднойчы падгаварыў суседчынага Віцьку і збег з хаты. Казаў, што па шышкі. Але ж не па шышкі зусім, а проста так, ад неўсвядомленага пратэсту. Зусім блізка, рукой падаць ад той сасны, пачыналіся тарфяныя кар'еры, затопленыя бруднай карычневай вадой. Дзед Каленік і слухаць не хацеў клятвы хлапчукоў, маўляў, яны і не збіраліся ісці да тых кар'ераў, няшчадна накруціў абодвум вушы і павалок у вёску. Ісці было кіламетры два, не меней.

...Пакратаўшы гарачыя вушы, Тарба стомлена сеў на зямлю, апусціў ссечанае дрэва перад сабой. Супакоіўся трохі, пачаў абмацваць халаднаваты цвёрды ствол. У пальцы заказытала вузенькімі саломінкамі скручаная скурка на кары. Вось тут быў сучок. Выпуклае пругкае кольца, гладкае і, вядома ж, бліскучае, з ямінкай унутры. У глыбіні душы пачала свяціцца не тое каб забытая, але схаваная пад напластаваннямі болю і адчаю прага. Невераемная прага работы. Пальцы захадзілі, затрапяталі ад саладкага дотыку, і Тарбу нечакана захацелася згладзіць гэты сучок. Каб ні трэшчынкі, ні стрэмкі. Як раней умеў. Ён таропка выцягнуў сякеру, стаў нецярпліча прыладжвацца і цюкаць па дрэве. Сядзець было нязручна, і Тарба апусціўся на калені.

Потым ускочыў на ногі, узрадаваны, і амаль подбегам кінуўся туды, дзе павінна была быць вёска. Не думалася, што ідзе напэўна няправільна. Хоць ведаў, што адчуванне дарогі знікла, як быццам раней і не было таго нечаканага азарэння. Напэўна, можна было б мацаць перад сабою дарогу ссечанай бярозкаю, але яна была цяжкаватая і не слухалася. Ішоў без страху. Нібыта галаву і ўсё цела абляпіў

вільготны туман. І раптам нечакана адчуў пад сабою няпэўнасць, трухлявасць, дрогкасць. Спярша падагнуліся ногі і павольна пасунуліся ўніз, здзіраючы абцасамі старых чаравікаў падатлівую тарфяную глебу. Тарба рвануўся назад і — сеў! Сеў на край кар'ера, на рухомы, здрадлівы бераг. Яго апушчаныя ногі амаль да каленяў сціснула халодная, нейкая густая вада. Сядзеў, баючыся варухнуцца, зрушыць з месца гнілы тарфянік. Сядзеў, не маючы сіл пракаўтнуць горкі камяк у горле. Баяўся клікаць на дапамогу. Сядзеў і чакаў Ганну, нібыта ведаў, што яна абавязкова прыйдзе. І Ганна прыйшла...

Тарба працаваў ужо тры гады. Працаваў упарта, зацята. Але калі пілка ці сякера выпадалі з рук, як чужыя, і падымаць іх чамусьці не хапала ні сілы, ні ахвоты, адчужаўся ад паху дрэва, ад сваіх пачуццяў, ад яе, Ганны, ад сонечнага цяпла і пяшчоты. Такое цягнулася тыдні, а часам месяцы. Потым зноў хапаўся за работу, не ведаючы ні дня, ні ночы, ні спакою.

Асабліва любіў працаваць, калі побач сядзеў малы Алеська, смешна стукаў малатком па нейкай дошчачцы, збіваў пальчыкі. Абодва заклапочана маўчалі.

Неяк у суботу пасля доўгага, няўдалага тыдня работы, калі дубовыя дошкі чамусьці не даваліся ў рукі, вырашыў адпачыць.

Ганна шаравала падлогу дзеркачом. У хаце адразу павільготнела. Тарба пайшоў у гародчык. Сядзеў пад акном, доўга грэўся, ловячы тварам лёгкі ветрык.

Недзе пад страхою, высока-высока, цвіркаталі ластаўчаняты. Тарба падняў галаву, нібыта хацеў убачыць шэрую калысачку гнязда. Да жаўтадзюбых, пэўна, прыляцела маці, бо тыя нечакана дружна запішчалі. Так і хацелася крыкнуць:«Цыць, гарлапаны

хвастатыя... Акыш!» Але не паварухнуўся нават, хоць сядзець было нязручна. Даводзілася ўвесь час падціскаць ногі, каб не зачапіць грады. Па руцэ пабегла нейкая казюрка, балюча ўкусіла каля локця. Мурашка, халера б яе. Намерыўся падняцца на ногі, але праз адчыненае акно пачуў, што ў хату зайшлі. Пазнаў жонку, хто быў другі — не зразумеў.

— А твой куды пацёгся?

Ага, гэта Вольга, суседка. Зноў прыйшла ляскаць языком.

— А да Сымона, па нажы.

«І не ўбачыла, што вярнуўся?!»

— Дык мо спаліць каторыя, суседачка? — у Вользіным голасе чулася насцярожанасць.— Каторыя добрыя, дык аддай на сяло. А то ж заваліла гэтымі крэсламі ўсё гарышча. Цыбулі не пасушыш.

— От,— паспешліва запярэчыла жонка,— пацярпець не можаш!

— Яно, вядома, мужыку работа трэба...

І тут Тарба зразумеў: гаварылі пра яго, зробленыя вось гэтымі рукамі, табурэткі, якія найбольш купляла Вольга. Зразумеў і ледзь не самлеў ад сораму.

Ганна, нібы адчуваючы перамену ў Вользіным настроі, пачала кавацъ гарачае:

— Волечка... Ты вазьмі грошы во. Падыдзі да майго. Га? Ну, папрасі што зрабіць ці прадаць... Ну?

Тарба пачуў, як Ганна дастае з шуфляды грошы і яны шалясцяць, шалясцяць на ўсю вялікую, нядаўна памытую хату. І ад гэтага страшнага шалясцення перасыхае ў горле.

Па вуліцы Тарба ішоў павольна і моўчкі, не чуючы, што з ім вітаюцца. Ішоў па дарозе, на якой ведаў нагамі кожную выбоіну, кожны гарбок ці ямачку. Ён хадзіў па ёй у краму па хлеб. Ногі часам траплялі ў мокрае: ноччу ішоў дождж. Калі пачуў вурка-

танне матора, адступіў ўбок, даючы дарогу, цярпліва чакаў, калі машына пройдзе. Яна і сапраўды паляцела хутка, бразгаючы кузавам. Кола трапіла ў глыбокую каляіну з гразёю, і халодныя прыкрыя пырскі даляцелі да самага Тарбавага твару.

Дадому ён вяртаўся гэтак жа павольна, прытрымліваў рукою паўлітэрак, што вытыркаўся з-за пазухі.

— Ой, а Ганна чакала, чакала цябе...— пазнаў Вользін голас.— Да Сымона вунь пайшла. Ці яшчэ мо да каго...

Тарба не адказаў, зачыніў дзверы ў сенцах на засаўку. Знайшоў на прыпечку запалкі, намацаў у кішэні ватоўкі кісет, што праслужыў яму ўсю вайну, і пайшоў у кладоўку. Нават не зачыніўся. Хацеў выпіць, седзячы на падлозе ў кутку, прынесеную гарэлку. Проста з бутэлькі. Але не змог. Чуў, як падаў у нервовую непрытомнасць, і бокам паваліўся на падлогу, сам сабе чужы і прыкры.

...Яны ішлі з дзедам Каленікам па сваіх пракосах, плячо ў плячо. З кожным узмахам касы пад ногі Тарбу слалася серабрыстая трава. Сінія і жоўтыя пялёсткі плылі перад вачамі, дакраналіся да твару.

Раптам да Тарбы падбег Алеська. Сынок, мабыць, застрэміў ножку, бо пачаў гучна плакаць і клікаць яго. Тарба нахіліўся над сынам, шукаючы ў пятцы стрэмку, але не мог яе разгледзець. Вочы забалелі, засланіся дымам, едкім і гарачым, як на фронце.

Тарба схапіўся за твар, пачаў кашляць і адразу прачнуўся. Дыхала горыччу. Па хаце нехта бегаў і клікаў яго. Здаецца, суседчын Косцік. Чаго гэта? Але не, не Косцік, а Бурван, брыгадзір. Бурван крыкнуў некаму, што ў хаце ні яго, Тарбы, ні Алеські няма, і тупаніна заціхла. Дым зноў схапіў Тарбу за горла, сапраўдны дым. Гэта не снілася. Ці, можа, усё ж снілася? Тарба ўскочыў на ногі, хацеў паклікаць людзей, але нечакана для сябе самога абмяк

і знясілеў. Захацелася на свежае паветра, на вуліцу. Ён кінуўся наперад, але паслізнуўся на гліняным таку і ўпаў. Балюча выцяўся галавою аб нейкі востры вугал і на імгненне страціў прытомнасць.

Тарба ачуняў адразу, як толькі ўсяго яго пранізала страшная здагадка: Алеська ў хаце, Алеську шукалі, але не знайшлі. Падумалі, што няма. А калі...

Вядома ж, вядома, як ён не здагадаўся, што хата загарэлася не тут, дзе ён курыў, а там, унутры. Напэўна, малы сцягнуў у яго запалкі...

Дрыжачымі рукамі Тарба пачаў чапляцца за нейкія палічкі, каб падняцца. Намацаў глечык з малаком. Узрадаваны, схапіў глечык аберуч і выліў сабе на галаву. Халоднае малако асвяжыла. Кінуўся ў хату праз пекла, пачаў шукаць. Але ні пад ложкам, ні на печы малога не было. Ліхаманкава ўспомніў, як не так даўно Алеська схаваўся ад яго пад печ. Але дзе яна, тая печ? Цяпер Тарба чамусьці нічога не мог знайсці. Ён бегаў, як паранены звер, выцягнуўшы перад сабою рукі. Не зважаючы на тое, што на грудзях пачала тлець сарочка. І, можа, якраз у самую апошнюю хвіліну, калі ўсім целам адчуў, што полымя вось-вось наваліцца з усіх бакоў, намацаў рукамі шорсткія бакі печы...

Алеську знайшоў адразу. Выцягнуў яго, беспрытомнага, абмяклага, важкага. Сцяна была блізка, і Тарба адразу ж намацаў і зняў з цвіка нейкую апранаху, укруціў у яе малога. Моцна прыціснуўшы да грудзей сына, пайшоў хісткаю хадою туды, дзе павінна быць акно. Акно было на месцы. Неяк бокам Тарба is вываліўся на зямлю і пакаціўся... Ён ужо не адчуваў болю, не чуў, як з ягоных рук выхапілі сына і як роспачна крычала Ганна.



# ЛЕС

Насця, адзіная Раініна дачка, была самаю вабнаю дзяўчынаю ў вёсцы. Чорныя, бліскучыя валасы, быццам Насцю з маленства пагладжвалі па галаве, былі як намаляваныя вакол акуратнага смуглявага тварыку. Нейкае раптоўнае ўтрапенне раз-пораз прабягала па вішнёвых вуснах, якія Насця не-не дый пакусвала роўнымі зубамі. Асабліва прыгожымі, густымі і цёмнымі былі вейкі шырока расплюшчаных вачэй. Нават здавалася, што гэта птушыныя крылцы падняліся ў лёгкім трапятанні і застылі. Насця і сама была падобная да птушкі, якой ужо так неспакойна-блізка да выраю.

Усе ў вёсцы чакалі Насцінага вяселля з калгасным шафёрам Косцем Лемяшом.

Будучы зяць Раіне падабаўся. І што быў светлачубым і прыветлівым з людзьмі, і што не жлукціў праклятую гарэлку, як большасць халасцякоў, гарланячы пасля на ўсю вёску нязменнае: «Скакаў казак цераз даліну...» Адным словам, дачка не прагадала. З такой радасці Раіна нават надумалася перасыпаць і падняць хату: сваю халупку з насупленаю саламянаю страхою, што ледзь выглядвала на вуліцу з-за нізкаватага лазовага плота. Трэба было за-

мяніць трухлявы вянец, а можа, пераслаць нават падлогу, аб якую, здаецца, сам чорт вастрыў зубы.

Зрэшты, і Косцік, такі шчыра-вясёлы, такі заўсёды шустранькі, як мураш, таксама загарэўся гэтаю перабудоваю. І не дзіва. Як ні круці-вярці, а пасля вяселля жыць яму з Насцяю выпадала толькі ў Раіны. Хоць у прымакі ніколі не збіраўся, а дзецца не было куды. Стары Сымон Лямеш, як бугай, заўпарціўся, нават і слухаць не хацеў пра Насцю. Пра яе, Раініну, адзіначку... Раіна ўнурылася і перастала спаць начамі — усё думала. Ці не таму ён гэтак зацята стаіць на сваім, што ўсяго толькі год назад пахаваў сваю другую жонку? Напэўна, моцна маркоціцца... Аднак успомнілася Раіне і даўняе,— як яшчэ зусім малады ганарысты Сымон Лямеш вынес з яе хаты гарбуз! На вачах усяе вёскі... Але ж калі тое, людцы мае, было? Ды і ці варта ўспамінаць цяпер колішняе?..

Косцік жартаваў, аднак усе бачылі, што незразумелая бацькава ўпартасць яго таксама насцярожыла. Раіне нават падалося, што хлопец узрадаваўся, калі яму нечакана, у сярэдзіне красавіка, прынеслі вайсковую павестку, якую меўся атрымаць толькі восенню.

З вяселлем вырашылі пачакаць да першага ж прыезду Косціка з арміі. Ды і бацька, можа, да таго часу ўсё ж памякчэе... Адно было само сабою зразумела, што рана ці позна, але гэтыя маладыя ўсё роўна павінны пабрацца. Надта ж харошая пара!..

Вяселле чакала, але хату Раіна рашыла паднаўляць. Выпісала трохі лесу, нагледзела добрых майстроў. Памочнік знайшоўся хутка — рыжы Сёмка, ці, як яго празвалі ў вёсцы, «залаты электрык», які ўжо цэлы месяц кватараваў у іх. Разам са сваім напарнікам, такім жа ўвішным, як і сам, хлопцам з су-

седняй вёскі, Сёмка праводзіў электрычнасць. У вёсцы яго любілі, амаль штодня саджалі да стала і частавалі. Раіна ўжо не помніла, хто менавіта накіраваў да яе гэтага рыжага Сёмку — ці нехта з сельсавета, ці нават сам старшыня калгаса. Спачатку адмаўлялася ад лішняга клопату, баялася, што гэтае кватаранства можа не спадабацца Лемяшам, асабліва бацьку. Але не мінула і тыдня, як Лемяшоў Косцік і «залаты электрык» пасябравалі і ледзь не абдымаліся пры сустрэчах.

Яшчэ да свайго адыходу ў армію Косцік дамовіўся з рыжым Сёмкам, што той паможа Раіне хоць бы перасыпаць і падняць яе старую халупу. І калі Раіна толькі загаварыла, што трэба прынесці з лесу дзве-тры пошкі моху, Сёмка адразу ж згадзіўся...

У той дзень, паснедаўшы хіба што млявым салодкім пазяханнем, усе трое — Раіна, Насця і рыжы Сёмка — выбраліся ні свет ні зара да Лагвянкі па мох. Спачатку папраставалі праз калгасны двор, потым, жартаўліва перамаўляючыся, заспяшаліся праз лугавіну, збіваючы дробную расу размашыстымі крокамі. Абмінуўшы могілкі, хутка ўвайшлі ў глухі лес — навокал адразу ж пацямнела. Заўважыўшы крыху спалоханы Раінін позірк, Сёмка страсянуў вогненным чубам і засмяяўся. І Раіна ажно засаромелася свайго страху.

Лагвянскі лес быў хоць і немалады, але здаровы і моцны. Чабаровая замятуха была тут калючая, бы сплеценая з параскіданых паўсюль, сашчэпленых паміж сабою тонкіх спружынак. Раіне здавалася нават, што чабор, пасля таго як яна праходзіла па ім, порстка і звонка распрамляецца і патрэсквае. Гэтаксама патрэсквалі і каляныя, бы выразаныя нажніцамі з зялёнай бляхі, узорыстыя парасончыкі папаратніку. Усё навокал абуджалася і бушавала ранішнімі гукамі і пахамі. Дзяркатае парыпванне ствалоў,

бясконцыя шоргаты, дрымотныя і рэзкія ўскрыкі ці свісты чуліся з усіх бакоў, нябачна абвіваліся вакол сасонак, разам з туманам падымаліся і выцягваліся з лесу ў неба праз зялёныя коміны паміж вяршалінамі.

Раіну ажно вадзіла ў бакі. Напэўна, ад таго, што дыханне забіў сваім гаркаватым пахам раннік-матачнік — такі яшчэ маладзенькі, з бліскучым, серабрыста апушаным варсінкамі, лісцем.

Старая сасна каля самай дарогі ўтаропіла ў Раіну чорную вачніцу круглага дупла: якраз тут і павінна было пачынацца мохавае балота. Раіна прыцішыла крокі і азірнулася. Намацаўшы вачамі нізкія кучаравыя карчы буякоў, узрадавалася, што знайшла патрэбную прыкмету, але тут жа спынілася. У нос раптам ударыла рэзкай церпкасцю — няйначай, недзе блізка, раскашуючы, паслала па зямлі сваё доўгае і вузкае, як навостранае з абодвух бакоў, лісце даволі рэдкая ў Лагвянскім лесе пахкая зуброўка.

Насця, якая ішла следам, таксама, відно, учула гэты рэзкі водар, бо засмяялася, крыкнула Раіне, што хутка вернецца. Тут жа саступіла з дарогі і схавалася за рудавата-зялёнаю сцяною.

Рыжы Сёмка «аукнуў» да Насці, але адказу чакаць не стаў — пабег за ёю следам, за тыя самыя буяковыя карчы і дрэвы. Раіна раззлавалася, пачуўшы, што яны недзе блізка перамаўляюцца, папярэдзіла, каб доўга не бавіліся, і пашоргала праз папаратнік да Лагвянкі. Ішла не азіраючыся, раз-пораз нагіналася за позняй чарнікаю і задаволена смакавала яе церпкі сок. Лес пачаў радзець, і Раіна зразумела, што трэба ўзяць трошкі лявей.

Насця з Сёмкам усё яшчэ адставалі, Раіна прыпынілася, нягучна паклікала дачку, спадзеючыся, што тая недзе блізка. Але не, ніхто ёй не адказаў.

Тады яна пачала клікаць Насцю ўсё грамчэй, пера-палохваючыся раптоўным страхам, кінулася спачатку ў адзін бок, потым у другі, паляцела праз лес, не паспяваючы адхіляцца ад нізкіх калючых галінак. Аббегала амаль усё ўрочышча і дарэшты выбілася з сіл. І раптам спынілася, раздумалася, здагадала-ся... І толькі тады заплакала.

Насцю яна знайшла праз гадзіны дзве. Якраз ка-ля самай кручы, пад якою ледзь бачным струмень-чыкам паміж двух іклаў-камянюкаў выбулькваля ці-хая Лагвянка.

Прабіўшыся праз мохавае балотца, рачулка ад-ваявала сабе ладную яміну з чорнаю вадою, абкіда-ную па куп'і берагоў вішнёва-карычневымі ніткамі журавін. Далей зноў рабілася маленькай і вузенькай. Нават самыя заядлыя ягадніцы баяліся совацца да той лагвянскай дзюркі, толькі здалёку абмацвалі ва-чамі журавінавы россып над саменькаю вадою, з жа-лем прыцмоквалі языкамі, але набліжацца не асмель-валіся.

Насця сядзела пад кручаю, выцягнуўшы, як хлап-чанё, перад сабою босыя ногі. Недзе, пэўна, згубіла боты. Добра, што яшчэ так цёпла, бы ўлетку.

Рыжага Сёмкі нідзе блізка не было відаць.

Раіна нават перахрысцілася, калі нечакана ўба-чыла, што дачка ўся мокрая, як выцягнутая з бочкі. Сарвала з сябе старэнькі пінжачок, забегала вакол дачкі, не чуючы пад нагамі зямлі. Але Насця нават не заўважыла матчынай таўханіны і бегатні. Яе цём-ныя, але нейкія пустыя, як выпітыя Лагвянкаю во-чы, здавалася, ужо нічога перад сабою не бачылі. Праз нейкі час Раіна злосна запытала, што здарыла-ся, але Насця пачала неяк нервова, ледзь не зады-хаючыся, усхліпваць.

Раіна прыкусіла язык. Чакала, калі Насця, кры-ху адтаяўшы, раскажа ўсё сама.

І дачка расказала. Усё чыста. Як на споведзі. Расказала пра тое, што адбылося ў гэтым лесе паміж ёю і рыжым Сёмкам, «залатым электрыкам»... Не ўтаіла і таго, што хлопец пачаў заляцацца да яе адразу ж пасля ад'езду Косціка.

Раіна засіпела Насці абразы, потым пачала трэсці яе за плечы і праклінаць таго «паскуднага» кватаранта.

Нарэшце стомлена прысела каля дачкі і зашаптала, як сама сябе супакойваючы:

— Не тыя цяпер парадкі... Усё будзе як след... От падла! Ніч-чога! Жэніцца! Жэніцца, пранцы яго!..

Насця нават не парухалася.

Вяртацца дахаты трэба было вечарам, каб не было чужых вачэй. І Раіна, зрываючы раз'едзеную гразёю скуру на пальцах, пачала дзерці стары мох. Натаптаўшы ладную ношку, нават не заўважыла, якая яна цяпер цяжкая. Іншым разам і не ўсцягнула б такую на плечы. Але цяпер нават не адчула цяжару, які валакла на сваіх плячах з гэтага мохавага, амаль затопленага вячэрняй шэрасцю лесу.

Насця, як дамовіліся, павінна была вярнуцца дахаты толькі з прыцемкамі, і гэта таксама трывожыла, пякло душу.

Раіна стрымлівала, як магла, слёзы і горкую, што жоўць, прыкрую злосць на кватаранта. Ды і на Насцю таксама. Крыўда здавалася непрымірымай, але дзесьці на палове шляху цяжкая мохавая ношка ўсё ж так знясіліла, што Раіна быццам патухла ўнутры і супакоілася. Падумаўшы, вырашыла пагаварыць з рыжым Сёмкам без лаянкі і пагроз. Усё, што вытварылася ў лесе, ужо не бачылася Раіне такім безвыходна-жахлівым, якім здавалася раней. Але жаночая здагадлівасць і растрывожанае сэрца падказвалі ёй цяпер, што трэба спяшацца з апошняе сілы, ляцець, як на крылах. І Раіна ледзь не пабегла дахаты, са-

гнуўшыся пад праклятаю ношкаю, часта дыбаючы дрыжачымі ад стомы нагамі, нават не выціраючы са скроняў гарачы пот.

І ўсё ж не паспела. Як і баялася, як яна і здагадвалася, рыжага Сёмкі ў вёсцы ўжо не было...

Мінула некалькі месяцаў. Спачатку Раіна ўважліва сачыла за дачкою, але тая быццам скамянела. І Раіна зрабілася абыякаваю, усё часцей суцяшала сябе тым, што нічога страшнага на самой справе і не адбылося. Дасць бог, забудзецца.

Пачалася зіма, Раіна вярталася са свінарніка, дзе працавала, толькі позна ўвечары. Раніцаю таксама ўсхоплівалася з другімі пеўнямі і ляцела на калгасны двор. Не бачыла дачку цэлымі днямі.

Не бачыла Раіна і таго, што ведала ўжо амаль уся вёска,— яе Насця была цяжарная. Толькі яна, маці, хадзіла, як у дыме нейкага дзіўнага забыцця, у тумане, што засланіў ад яе ўсім бачную праўду. Потым, праз некалькі гадоў, Раіна ўспомніць пра гэта і здзівіцца сваёй незразумелай слепаце. Але гэта ўжо будзе пасля...

Перасохлы мох, прынесены восенню з балота, ляжаў сабе на гарышчы, і Раіна часцяком чула, як там да самай раніцы пішчаць мышы. У адну з такіх бяссонных начэй яна не вытрымала, паднялася, каб паглядзець, што робіцца ў хляве. Апошнім часам там гаспадарыла найбольш Насця. Запаліўшы ліхтар, выйшла з хаты і зарыпела валёнкамі па снезе да хлява. Штурхнула дзверы. Дзве авечкі-недаросткі, чорненькія і маленькія, як блошкі, адразу ж паціснуліся ў куток. За зіму яны нарасцілі сабе трохі воўначкі, але Раіна ў адной заўважыла каля вушэй невялічкія, бы прысыпаныя закарэлым попелам, лапінкі каросты. Занепакоілася: «Бяда!» Ад каросты, ды яшчэ ў такую пару, як бач выцягне ногі. Авечку трэба было зарэзаць. Ужо вярнуўшыся ў ложак і чую-

чы, што пасля двара пачынае імгненна засынаць, Раіна заклапочана падумала, каго ж паклікаць на дапамогу. І тут жа ўспомніла пра Сымона Лемяша — гэты зробіць усё як след.

На наступны дзень пасля абеду Раіна падмянілася на рабоце і пайшла са свінарніка раней. Не завярнуўшы дамоў, адразу падалася да Лемяшовай хаты.

Адчыніўшы дзверы, Раіна спачатку нічога не зразумела — адхіснулася назад, быццам ударылася аб нясцерпны кіслы дух і гаркату перагарэлага тлушчу. Пасля таропка, гучна павіталася. Сымон нават не павярнуўся да яе, толькі скасіў вочы. Які ён скнара, Раіна чула ад суседзяў яшчэ раней, але тое, што ўбачыла цяпер, яе ўразіла. У хаце не было нават звычайнай лямпы.

На прыпечку замест яе стаяла вялікая бляшанка з растопленым тлушчам, запалены кнот быў умела прымацаваны зверху дроцікам. Жоўтыя водсветы ад агеньчыка мігцелі на сценах і століі, на бліскучых рэбрах вялізнага цэбра, пасярэбранага звонку густа выступіўшай соллю. З брудна-шэрай мяшанкі ў цэбры вытыркаліся краі скур. Сымон з няголенымі шчокамі і шараватымі вуснамі, нібыта іх таксама абсыпала шурпатая соль, выціраў потнае аблічча рукавом. З-пад вялікага, што камень, пукатага лба на Раіну раз-пораз зіркалі маленькія насцярожаныя вочы.

Усё было закопчана тлустым чадам, усё быццам плавала ў жоўта-шэрым тумане, перакрыўленае і перайначанае. І сам гаспадар у блішчастай, дарэшты выцертай скураной камізэльцы паверх шарачковай сарочкі сядзеў пасярод хаты на шырокай лаве. Як на кані. Каленямі ён моцна прыціскаў да лавы размяклую аўчыну і абскрабаў яе касою. Сутулаватая Лемяшова постаць таксама прывідна пагойдвалася

ў рудым тумане, і Раіна ажно спалохалася, хоць некалі ў маленстве сама бачыла, як яе бацька вырабляў скуры.

Сымон быў майстрам на ўсе рукі. Гатовыя аўчыны прадаваў, а са скур і сам умеў што зрабіць на ногі. Вяскоўцам за бульбу ці за тлушч рабіў найчасцей скураныя лапці.

Адступацца было неяк, і Раіна, пракашляўшыся ад задухі, ступіла бліжай да лавы. Ледзь не перавярнула маленькія начовачкі з карычневаю хвойнаю мукою, войкнула.

Сымон быццам ужо ведаў, дзеля чаго яна прыйшла, пэўна ж, сачыў, у каго ў вёсцы ёсць авечкі. Крэкчучы, выпрастаў спіну, паклаў уздоўж лавы касу з рудою поўсцю на лязе і нарэшце падняўся. Зацёклыя ногі, відно, яшчэ не слухаліся яго. Але праз хвілінку Сымон падышоў да прыпечка, на якім ляжаў самаробны нож з шырокім лязом, узяў і схаваў нож ва ўнутраную кішэню камізэлькі. Запаліўшы лучыну, пацягнуўся ў сенцы. Раіна бачыла перад сабою толькі шырокую Лемяшову спіну, спатыкнулася ў парозе. Ступіўшы ў сенцы, здзіўлена ўтаропіла вочы ў развешаныя на сцяне пад самаю драбінаю скуры. Намазаныя дзёгцем, яны блішчалі ў бляклым святле, як чорныя распятыя начніцы. Сымон, зноў моўчкі, палез на гарышча па рассохлай драбіне, трымаючы агеньчык над самаю галавою. Сапучы, усунуўся ў чорную прарэху гарышча, пачаў нечым там шаргатаць, нешта намацваць. Потым запытаў:

— Колькі будзеш?

Раіна адразу зразумела, што ён пытае пра авечкі, паспешліва адказала:

— Адненькую... Пакуль што.

Тады Сымон кінуў ёй зверху пару перавязаных матузкамі скураных лапцяў, і яны звонка ляпнуліся аб падлогу. Гэта, пэўна, была аплата за аўчыну. Раі-

на нават узрадавалася, што ўсё так добра ладзіцца.

Цямнела хутка, і яшчэ па дарозе яны вырашылі зрабіць усё пры святле, у сенцах. Каб не пашкодзіць скуру. Адправіўшы Сымона ў хату, Раіна адразу ж пабегла ў хляўчук. Пераступіўшы праз невысокую загарадку, намацала рукамі тую самую, з пархатымі плямкамі каля вушэй авечачку, аддзяліла і прыціснула яе нагою да сцяны. Потым асцярожна, як немаўлятка, падняла авечачку на рукі і панесла ў хату.

Дзякуй богу, у хаце было цёпла і чыста прыбрана. Раіна падштурхнула авечачку ў куток пад лаву, кінулася вымаць з печы чыгун з вадою і раптам падумала з трывогаю, што стары Лямеш і Насця даволі доўга прабылі ў хаце адны. Аб чым гаварылі яны тут? А можа, спрачаліся, успамінаючы Косціка? А можа... Але ж не, не, з Насці цяпер, хоць забі, ні слова не выцягнеш пра тое лясное здарэнне. Тут не пажалішся, не паспавядаешся!

Спахапіўшыся, Раіна хуценька азірнулася. Спачатку на Сымона, потым на дачку. Насця стаяла каля печы ўся чырвоная, але чырвань яе неяк няроўна, як праз марлю кроў, праступала праз бледныя, пасівераныя шчокі. Зноў, як тады ў лесе каля кручы, Насця пазірала перад сабою шырока расплюшчанымі няўцямнымі вачамі. Нечакана для сябе Раіна заўважыла, якая яна поўная ды гладкая, і раптам ледзь не прысела ад здзіўлення. Утаропілася ў Насцю, не верачы, але жах не развейваўся. Так, дачка была цяжарная... Лямеш, напэўна, таксама паспеў усё ўбачыць і зразумець, бо рэзка падняўся з лавы, і тая адразу як бы прысвіснула, схаваў дрыготкімі рукамі прыгатаваны для авечкі нож ва ўнутраную кішэню камізэлькі і сказаў з нейкаю спакойнаю злосцю:

— Ну то вот што, «нявестачка»... Каб да маёй хаты — ні блізка! На пушачны выстрал... Паняла?

Прыйдзе, і Косціку скажу... Набраўся сораму да вяселля, то няхай сам і гадуе... А я вам не дзед!

Лямеш уздыхнуў, пераводзячы дыханне, і дадаў з'едліва:

— Няўжо ж па-людску нельга было?

Насця яшчэ больш пачырванела і адвярнулася. Раіна раптам адчула, што яшчэ некалькі рэзкіх папрокаў — і дачка не вытрымае, прызнаецца, што Косцік невінаваты. Схаладзеўшы ад страху, яна падалася наперад, да Насці, але раззлаваны Лямеш ужо тупаў з хаты, гучна ўганяючы чобатамі ў падлогу сваю непрымірымую крыўду. Найперш на сына, які, з'ехаўшы, пакінуў па сабе такую памяць. Аднак жа і яго, бацьку, абняславіў на ўсё сяло.

...Ні горды Лямеш, ні атарапелая ад нечаканай бяды Раіна, ні цяжарная Насця яшчэ не ведалі, што наперадзе іх чакае самае страшнае і што толькі адна вясна аддзяляе ўсіх іх ад вайны.

Першы дзень вайны запомніўся Раіне цалкам ад раніцы да вечара. Праўда, не толькі таму, што вёску аглушыла страшная навіна. Была яшчэ адна прычына: якраз у той чэрвеньскі дзень і нарадзіўся ўнучак. Нарадзіўся вечарам, калі сонца ўжо садзілася за абліты крывавую ружовасцю лес. Была паводка. Сонца смаліла цэлы месяц, аднак вада не ападала. Старшыня калгаса яшчэ ўдзень паляцеў на маторцы праз неўтаймаваную раку ў суседнюю вёску, каб адтуль ужо дабрацца да райцэнтра. Можна было б і на падводзе ці матацыкле — праскочыць лес і там, дзе рака амаль заўсёды была вузкая і неглыбокая, перамахнуць праз новенькі мост. Але казалі, што рака паднялася так высока, што нават схавала пад сабою мост.

Услед за старшынёю ў райцэнтр кінуліся ўсе, хто

меў хоць які човен. Людзі не верылі, што і сапраўды настала бяда. Не хацелі верыць, баяліся пра тое і думаць. Да таго ж паводка пратрымалася так доўга, што ў многіх звяліся запасы солі, цукру, круп.

Раіна схапілася за галаву. Ёй бы таксама трэба было накупляць усялякіх прадуктаў, але дзе цяпер узяць цэлы човен? У сваім дно было дзіравае, што сіта. Да таго ж — пачалося ў Насці. Усю раніцу і амаль цэлы дзень дачка заходзілася ад стогнаў і крыку. Раіна мітусілася, супакойвала і яе, і сябе, маўляў, усё добра, усё так і павінна быць. Зрэшты, даставацца ў гарадскую бальніцу ўсё роўна няма на чым. Ды калі б цяпер які човен і знайшоўся, то як жа на ім Насцю везці? Кідаецца во, як у гарачцы, яшчэ, не дай бог, перакуліць човен...

Прыбегла старая Гэлька, потым суседка. Напалілі печ, заставілі яе чыгунамі з вадою. І самі, не вытрымаўшы Насціных крыкаў, узяліся за справу.

Жывенькі і здаровенькі хлопчык нарадзіўся пасля таго, як Насця толькі ціха стагнала, убіўшы ў столь балючы позірк. Старая Гэлька спалохалася, пачала ліць у рот парадзіхі зеленаватую смярдзючую настойку палыну. Але Насця толькі заплюшчыла вочы.

Першым з райцэнтра вярнуўся суседчын Андрэй, і Раіна стала ледзь не на каленях прасіць яго, каб зноў садзіўся ў човен і плыў па доктара. Набліжалася чорная, без месяца і зорак, ноч. Андрэй разважыў, што нават калі прыладзіць да чоўна ліхтар, то ўсё роўна нічога не ўбачыш. Вада — не дарога. І ўсё ж супакоіў Раіну, паабяцаў адплысці з самай раніцы, як толькі зашарэе.

Ледзь не кожныя паўгадзіны Раіна вылятала з хаты, узіраючыся ў цёмнае неба. Ніколі яшчэ ноч не здавалася ёй такою бясконцаю. Нарэшце пачало трохі святлець, і яна рашылася пабудзіць Андрэя. Той,

цяжка ўздыхаючы, але не гаворачы ні слова, адамкнуў човен і бразнуў аб днішча вяслом. Нарэшце, ускочыўшы ў човен, адпіхнуўся ад берага — і адразу ж знік у шэрым тумане. Чуліся толькі ўдары вясла аб драўляны борт. Затым і яны сціхлі. Раіна падлічыла, што дарога да райцэнтра ў паводку доўжыцца ўдвая і што Андрэй прывязе доктара толькі пасля абеду.

Так яно і сталася.

Немалады, нейкі вельмі ж тонкі і руды, як высушаны ўюн, доктар, відно, быў напалоханы ракою, але, глянуўшы на Насцю, адразу апрануў белы халат і пачаў мітусіцца каля яе, бясконца прыгаворваючы: «Аднак жа! Аднак жа...»

Трэба было хоць чым заняцца, і Раіна, ледзь стрымліваючы слёзы, вырашыла абмыць навародка, які ўжо недавольна пакрэктваў. Вада ў цэбры — сама праверыла яе локцем — была добрая, мякенькая.

Навародак ляжаў на яе, Раіным, ложку. Палатняныя пялёнкі ўжо намоклі, і Раіна злёгку ляпнула голенькага хлопчыка па ружовай пругкасці ніжай спіны. Потым зірнула на галоўку, змеціла над лобікам вогненна-рыжыя кучаравыя валаскі і аж здрыганулася ўся. Нібыта прачнулася, згадваючы нядаўна бачаны страшны сон. І той лес, дзе ўсё пачалося. І Насціну зуброўку... І тую кучаравую рыжую шавялюру Сёмкі — «залатога электрыка», які так ні разу і не аб'явіўся ў вёсцы.

Раіна ўжо не магла дыхаць.

Узяўшы навародка на рукі, яна сціснула зубы і раптам, не думаючы, апусціла яго ўсяго ў цэбар, амаль поўны вады. Патрымала... А навошта шкадаваць, скажыце? Як прыйшоў, так і пойдзе... Чаму яе Насця так пакутуе? З-за каго? З-за гэтага рыжага... Але праз імгненне, калі маленькае цельца нечакана моцна тарганулася ў яе руках, Раіна апрытомнела і

ледзь не захлынулася ад жаласці, выхапіла малое з вады і хутка павярнула яго тварыкам уніз, націскаючы пальцамі на ўспучаны жывоцік. Малы каўкнуў, і Раіна ўзрадавалася, нібыта сама нарадзіла гэтага рыжага пузатага найдзёна, нібыта вось цяпер выратавала яго ад смерці, вырвала з нечых чужых і злых, а не ўласных рук. Азірнулася цішком на доктара, але той нічога не бачыў. Не адыходзіў ад Насці.

Насця памерла ноччу. Доктар, развітваючыся, пашкадаваў, што не мог дастацца раней, хоць бы перад абедам. Можа, паспеў бы памагчы...

Недзе праз тыдзень пасля таго, як Насцю занеслі на могілкі, Раіна раптам з горыччу падумала аб тым, што адной ёй выгадаваць унука будзе вельмі ж няпроста. Жыць было цяжка, і яна як ашалела каля свайго рыжага хлопчыка, якога назвала Уладзікам. Усхопрівалася ноччу нават на самы слабы піск, ні аб чым ні з кім не раілася. Нікому малога не давярала. Цяпер да яе заходзіла толькі старая Гэлька, але ўсё больш маўчала і ўздыхала. Быццам была ў нечым перад Раінаю вінаватая.

Калі ў вёску наехалі немцы, Раіна яшчэ больш пачала дрыжаць за малога. Нават у двор з ім вытыркалася вельмі рэдка, хваравіта ловячы на сабе варожыя, як здавалася ёй, насмешлівыя позіркі суседзяў. Разам з хлебнаю суслаю малы ахвотна смактаў тоненькія скрылікі сала, і Раіна кожны тыдзень перахоўвала апошні жоўты брусок.

Менавіта ў тую трывожную пару яна і пачула ад старой Гэлькі, што ўся вёска бацькам Уладзіка лічыць Косцю Лемяша. Спачатку адмахнулася — няхай сабе памянцяць языкамі. Зрэшты, а як інакш людзі павінны гаварыць, калі ўсе чакалі вяселля яе Насці з Косцікам?

Але потым Раіна разважыла, што не так усё гэта і добра. Бо як уваб'ецца што паганае ў галаву палі-

цаям, асабліва шаляпаватаму Гаўрылку, які зроду ненавідзеў усіх Лемяшоў, то хто тады заступіцца?..

Падумаўшы так, Раіна спалохалася яшчэ болей. І недарма...

Неяк вечарам да яе сапраўды ўваліліся двое паліцаяў. Той самы, каго асабліва баялася, таўстагубы Гаўрылка і яшчэ нейкі незнаёмы. Бухаючы ботамі па падлозе, абодва п'яна матлялі галовамі, як сляпыя коні. Асабліва зверыўся Гаўрылка. Тыцкаючы растапыранымі пальцамі ў вогненна-рыжую галоўку Уладзіка, ён доўга рагатаў і пытаўся, дзе гэта ягоны бацька. Пасля, перавярнуўшы ў хаце ўсё ўверх дном, вывеў і ўпіхнуў Раіну ў пограб.

Аднак хутка і выпусціў. Яшчэ не верачы ў збавенне, як аслепшы, Раіна нават забыла, у які бок кінуцца. Таўстагубы Гаўрылка стаяў перад ёю, трымаючы ў руках новенькія боты, і па-ранейшаму брыдка рагатаў, потым вылаяўся і паплёўся з двара. Уляцеўшы ў хату, Раіна здзівілася, калі ўбачыла там старога Сымона Лемяша. Але нават не павіталася, адразу ж кінулася да асіплага ад крыку ўнука, прытуліла яго да грудзей. Стары Лямеш, відно, пакрыўдзіўся і незадаволены, не сказаўшы ні слова, бразнуў дзвярыма.

Толькі на наступны дзень Раіна даведалася, што гэта Сымон Лямеш і ўлагодзіў паліцаяў. Новымі ботамі і самагонам. Хацела пабегчы і падзякаваць, але раптам асунулася на лаву, умомант зразумеўшы самае галоўнае. Стары Сымон Лямеш таксама не сумняваецца ў тым, што Уладзік яго родны ўнук. Можа, каб ведаў, што ўсё не так, дык і не прыбег бы ратаваць, не слаўся б лістам перад Гаўрылкам! Яшчэ ніхто ў вёсцы не бачыў, каб Сымон Лямеш гнуў перад кім спіну. Хоць пілуй гэтага ўнурыстага крата, а слязы не даб'ешся. Тое ў вёсцы ведалі добра...

І ўсё ж аднойчы, недзе праз год, калі вайна ўжо

закончылася, Раіна ўбачыла старога гордага Лемяша зусім іншым. Помніцца, была субота. Першая субота пасля таго, як прагналі немцаў. У вёсцы было сапраўднае свята. Але першым, каму тады прынеслі пахаронку, быў якраз Сымон. Ягоны Косцік, як аказалася, загінуў яшчэ ў самым пачатку вайны, пад Львовам...

Праз некалькі дзён гордага Лемяша цяжка было пазнаць. Страшна п'яны, ён хадзіў па ўсёй вёсцы, чапляючыся за платы, але стараўся не падаць, памядзведжы шырока расстаўляючы ногі. Ногі былі босыя і ажно бурачковыя.

Раіна адразу адчула небяспеку для сябе і Уладзіка. Затаілася. Але праз тыдзень Сымон перастаў піць, як адрэзаў. І адразу ж прыйшоў да Раіны. Уваліўся ў хату раніцаю і, толькі павітаўшыся, сеў на лаву. Такі, здавалася, цвёрды ўвесь, як выкаваны з жалеза, ажно на плячах патрэсквала сарочка. Сядзеў і доўга курыў, запаўняючы хату горкім тытунёвым смуродам. Чорныя вочкі з-пад навіслага лба бегалі па ўсёй хаце, утыркаючыся то ў чалеснік, то ў падушкі на ложку. Раіна зразумела, што Сымон хацеў згледзець Уладзіка. Нібыта толькі цяпер, страціўшы сына, ён раптам перамяніўся натураю, памякчэў і пачаў ліхаманкава ўспамінаць тых, каго любіў некалі ягоны Косцік. Напэўна, Сымон Лямеш цяпер кідаўся ад адной згадкі да другой, намацваў хоць якія нітачкі, без якіх яму нельга было ўтрымацца ў жыцці, адолець страшнае гора. Зразумела Раіна яшчэ і тое, што цяпер самаю моцнаю жыццёваю нітачкаю стаў для Сымона Лемяша яе Уладзік.

Лямеш амаль не зважаў на Раіну. Сядзеў і чакаў, як у сябе дома, калі ж з'явіцца малы. Не пытаў, дзе ён, ці гуляе, ці спіць, а толькі чакаў.

І Раіна спалохалася. Здаецца, была ўжо гатовая да гэтай сустрэчы і ўсё абдумала. Яшчэ раней цвёрда

вырашыла расказаць Сымону пра тое здарэнне з Насцяю ў лесе. Абы адчапіўся. Навошта тлуміць чалавеку галаву, калі Уладзік сапраўды не Касцікаў. Хоць крычы, хоць па зямлі качайся, а не Лемяшоў.

Не чакаючы, калі Сымон загаворыць, Раіна першаю кінулася ў наступ. Спачатку няўпэўнена, паволька цэдзячы словы, пачала свой расказ пра кватаранта, «залатога электрыка» Сёмку, потым пасмялела. І раптам нечакана для сябе самой успыхнула ад сораму. Раіну ахапіла такое адчуванне, быццам над яе душою пачало ўладарыць нешта вельмі моцнае, добрае, большае за яе ўласную крыўду. Яно не толькі заходзілася болем у Раініным сэрцы, але існавала цяпер усюды, было ўжо ў хаце, сапло сонным Уладзікам з печы, стукала са сцяны ходзікамі...

Стары Лямеш таксама маўчаў. Нарэшце, страціўшы надзею ўбачыць Уладзіка, выняў з кішэні ватоўкі і паклаў на стол загорнутыя ў газету грошы. Сказаў, што гэта для ўнука.

І Раіна чамусьці не абразілася, пашкадавала яго.

Якая ж яна дурная тады была. І з той жаласцю, і са сваім незразумелым маўчаннем. Быццам сама, па сваёй ахвоце, падзяліла ўнука на дваіх.

Прайшло некалькі гадоў. Уладзік, падрастаючы, усё мацней цягнуўся да Сымона. Раіна гэта бачыла і ажно задыхалася ад крыўды і рэўнасці. Сымон жа мякчэў перад малым, як воск, купляў у магазіне ўсё, на што той паказваў пальцам. Першы раз Раіна правучыла ўнука крапівою за новыя, купленыя дзедам сандалікі. Вунь, свае яшчэ добрыя. Як цяпер помніць, закінула той Лемяшоў падарунак на гарышча, але ўпарты малы ледзь не біўся з ёю. Дажылася! Хоць бяры да спаласуй дзягаю! Усё дзеда яму дай...

А дурны Лямеш пазнаваў у малым і сынавы вочы, і сынавы вусны, і нават быццам бы Касцікаў чубчык.

Уладзік быў ужо ў трэцім класе. Амаль кожны дзень, не дачакаўшыся ўнука са школы, Раіна бегла ў Лемяшоў двор і валакла яго адтуль дахаты, злосна сіпела. Яна нібыта не разумела, што гэтаю дурною лаянкаю толькі адваджвае ад сябе ўнука. Вечарам, перад сном, упарта ўбівала ў шалапутную рыжую галаву, што самая родная душа ў яго — гэта яна, яго баба... А такога дзеда, як дзед Сымон, ім і куры на сметніку выграбуць!

Але назаўтра Уладзік зноў тырчаў на Сымонавым двары.

І Раіна не вытрымала. Несучы неяк раніцаю вядро з вадою, раптам выпусціла яго з рук, павалілася прама ў выплюхнутую ваду.

Ачалюмалася ўжо ў раённай бальніцы. Мацаючы позіркам нейкія бліскучыя трубачкі і шкляныя бомбачкі, Раіна некалькі дзён была як чужая сама сабе, сваім адчуваннем і сваёй памяці. Нібыта ад усяго пражытага жыцця ў яе застаўся толькі рэзкі, ні дыхнуць, боль у левым баку. Доктар і медсястра ўсміхаліся ёй, але неяк вінавата, перагаворваліся паміж сабою толькі не зразумелымі Раіне словамі. Калолі, паілі нечым горкім, абяцалі, што яна абавязкова паздаравее, калі не будзе так надрывацца і хвалявацца.

Адна нянечка, такая ж, як і Раіна, вясковая кабета ў насунутай на вочы белай хустцы, бясконца ўздыхала і жалілася. Бедавала, што за ўсе свае доўгія гады бальнічнай працы ніяк не прывыкне ні да хворых, ні да мёртвых. І што дзівіцца Раінінаму шчасцю... Гэта ж добра, маўляў, што хутка прывезлі ў бальніцу... А то б не выграблася!

Раіна пабачылася з унукам толькі праз два тыдні. Прывёз яго Сымон, ды і то на некалькі хвілін. Раіна ведала, што цяпер у бальніцы каранцін і ў палату нікога не пускаюць, але вінавяціла ва ўсім

толькі Сымона. Не падумала аб тым, што ён і так, відно, доўга ўпрошваў сястру, каб прапусцілі...

Толькі цяпер, пазіраючы ўверх са свайго жалезнага ложка, яна заўважыла, які гэты Сымон высокі і яшчэ моцны. Дужы, што камель. На белай столі рэзка выдзяляліся яго чорныя, яшчэ не вельмі пасечаныя сівізною валасы, яго шырокія, што дзверы ў гумне, грудзі. Захацеў бы, як бач ажаніўся б. Любая маладая ўслед пабяжыць, каб толькі пальцам кіўнуў. Гэта ёй, Раіне, без унука — хоць жыўцом у труну! Не прадыхнуць.

Пасля выпіскі Раіну прывезлі дахаты на бальнічным «газіку». Яна выйшла знарок у самым пачатку вёскі. Мінуўшы цэлую вуліцу, завярнула ў Сымонаў двор і забрала Уладзіка.

За доўгія дні хваробы, спакутаваная толькі адною самаю важнаю сваёй думкаю пра ўнука, Раіна змянілася. Не тое каб агрубела і распалілася ў злосці, а проста пасмялела. Надумалася нарэшце адкрыць горсаму Лемяшу праўду. І яшчэ — сабраць апошнія сілы і хоць напаследак паднавіць хату. А то і праўда цёмна, нізка. Дзіва, што гэты рыжы верабей лётае да Сымона.

Яшчэ ні аб чым не пагаварыўшы са старшынёю калгаса, не папрасіўшы ні лесу, ні гонты для страхі, яна наважылася спачатку зрабіць лягчэйшую работу. Як некалі да вайны — надраць моху. Потым якнебудзь прывязе прычэп лесу і зоймецца вянцом.

Доўгі час Раіна не хадзіла ў Лагвянскі лес нават па ягады, жалілася суседкам на боль у крыжы. І ёй, вядома, верылі, бо радыкуліт дапякаў усіх жанок. Цяпер жа Раіна махнула рукою на ўсё: і на радыкуліт, і на крыж. Не мінула і тыдня пасля выхаду з бальніцы, як яна сама завяла Уладзіка да Сымона на цэлы дзень і пайшла ў лес. Пайшла адна, знарок нікога не ўзяўшы ў кампанію.

Ужо даўно выгналі кароў, жанкі палолі соткі, і ніхто ісці з ёю не набіваўся.

Раіне пашанцавала: раніца выпала мяккая і чысценькая, пасля расы прыемна падсушаная сонцам. Лес таксама стаяў перад ёю высокі і празрысты. Раіну непакоіла толькі адно: ці знойдзе яна патрэбную мясціну? Бо была ж тут, дай бог памяць... Колькі ж гэта? Уладзіку якраз дванаццаць гадкоў... Вось і лічы, што ў гэтым лесе Раіна была яшчэ вунь калі... Разам з Насцяю... Гадоў трынаццаць назад!

Успомніўшы дачку, Раіна ледзь не задыхнулася. Горла забілі даўкія балючыя слёзы, ад якіх трэба было хоць крыху адпачыць і супакоіцца. Але расседжвацца не было калі. Нарэшце, асабліва не блудзячы, Раіна натрапіла на тыя самыя буякі, пасля якіх і пачыналася мохавае балота.

Яна адразу заўважыла, што ранейшыя мохавыя мясціны густа зараслі высокімі карчамі воўчых ягад. Над кожным з карчоў ядавіта-дрогкім шараватым воблачкам трымаўся туман, калыхаўся ўваччу. Усё балота хваравіта дыхала багуном. І буякі, і воўчыя ягады не даспелі і бела выблісквалі з рудаватых лісточкаў. Паміж замшэлымі купінамі ў дзіковых слядах стаяла гнілаватая вада.

Раіна так бы і не асмелілася прадрацца праз буяковую сетку, але сонца, падняўшыся высока, раптам вырвалася з-за воблака і ўдарыла па гэтай балотнай чэзласці, з усяе сілы сыпанула на шэрыя купіны жмені залатых падковак. Атрутны чад імгненна развеяўся, і з куп'я адразу ж вызірнулі ярка-чырвоныя і ружовыя, з фіялетавымі сярэдзінамі, сыраежкі, напінаючыся, усё пыжыліся парваць жылкі травы сваімі крохкімі шапачкамі.

Азірнуўшыся на ўсю гэтую раскошу, Раіна незадаволена хмыкнула. Тут моху і са свечкаю не знойдзеш. Па-буслінаму высока падымаючы ногі, яна па-

волі, асцерагаючыся ямін, накіравалася ў той бок, дзе павінна была працякаць Лагвянка. Нарэшце ўбачыла знаёмую кручу, такую ж лабастую, як і раней, але добра палыселую і пажаўцелую за гэтыя гады, з новымі норамі. Раіна ведала, што за кручаю, ажно ўзлазячы ёй на самыя плечы, з таго боку разрастаецца малады здаровы сасоннік, але сама там ніколі не была.

Прыгледзеўшыся, узрадавалася таму, што Лагвянка не аддала нахабнаму кустоўю сваю глыбокую яміну, і вакол яе цяпер раскашавала чадная зелянота, аплеценая бляклымі нітачкамі журавін. Мох тут яшчэ не выдзерлі. Узрадаваная, Раіна падаткнула спадніцу, тут жа апусцілася на калені і пачала выбіраць і кідаць мох у разасланую паблізу посцілку. Справілася надзіва хутка, праз якую гадзіну, не болей. Натаптаную ношку перанесла ў сухое месца пад самаю кручаю. Потым прысела на цвёрды грудок і ўткнулася плячом у цёплую, што грубка, гліняную сцяну кручы. Ношка з мохам таксама нагрэлася і пачынала парыць.

Невядома адкуль, ці не з-за гэтай самай кручы, данеслася нясмелае, яшчэ ціхае салаўінае цёхканне. Раіна здзівілася і падумала, што ёй здалося. Але ў тое ж імгненне да першага поклічу дабавіўся цэлы птушыны хор, ажно залажыла вушы. Раіна хацела стаць на ногі, але не змагла, распешчаная пякучым сонцам. І раптам, быццам упершыню ў жыцці чуючы гэткае шалёнае, бязладнае птушынае ціўканне і шчоўканне, узрушаная ім, Раіна падумала, што ўсё ж калі гаварыць праўду, то нават цяпер яна хоча ўтаіць сама ад сябе самае важнае. Бо не толькі ж дзеля гэтага во моху яна так доўга перлася сюды па карчах і багне. Не толькі... І няма ўжо як і перад кім ёй таіцца, няма куды ўцякаць ад свайго штодзённага зацятага болю, ад гэтай перапоўненай чорнаю

вадою Лагвянкі, што, здаецца, выцякае з-пад саменькага хворага Раінінага сэрца. У фіялетава-серабрыстай балотнай парнасці Раіне захацелася ўбачыць і нанова адчуць усё, што так даўно перашкаджае ёй спакойна і ціха жыць. І дзеля чаго яна прыйшла сюды, прыйшла, каб яшчэ раз успомніць і зразумець...

Як бы пачуўшы нечы таемны загад, Раіна задзерла галаву і ўбачыла проста над сабою, на самым версе кручы, кашчавую і бліскучую воўчую морду. Сэрца адразу ж моцна затахкала, Раіна ажно заплюшчыла вочы і з усяе сілы ўціснулася плячом у цёплую гліну кручы. Раней, магчыма, яна па-сапраўднаму спалохалася б, але зараз толькі раззлавалася. Не, калі б не ўнукава ўпартасць, калі б не той настырны дурны Лямеш, ні за якія грошы не ўсунулася б яна ў гэтае праклятае ведзьміна логава! Што тут мудраваць — ёй адной хапіла б і старой хаты. Яшчэ і прывычней, спакайней!

Раіна аддыхалася і яшчэ раз зірнула ўверх — а ці не з'явіцца на кручы тая самая, не дай бог, ашалелая ваўчыца? Але там ужо нікога не было. Пэўна, здалася ёй тая шэрая зяпа над галавою...

А можа, здаліся, прысніліся Раіне і тыя лясныя чары, і далёкая, амаль забытая ўжо Насціна ўтрапёнасць, і налітае да краёў, слюдзяна-чорнае лагвянскае вока, якое ўжо трынаццаць год сочыць за Раінаю сваім дрымотным дзікім позіркам...

Але каб жа ды так! Каб жа хто сказаў Раіне, што ўсё мінулае і сапраўды прыбачылася, прыснілася, прытрызнілася! Каб жа...

Раіна стала на ногі, усцягнула на спіну мохавую гарачую ношку і, сагнуўшыся пад яе цяжарам, пабрыла цераз балота. Да чыстага лесу яна дасталася хутка, дыхаць было трошкі лягчэй. Але праз якія паўкіламетра млявасць і слабасць зноў разліліся па ўсім целе, перашкаджаючы ісці.

Ах, Уладзік, Уладзік... Малы яшчэ, а бач, паганец, падтачыў, бы крот, зямлю ў яе пад нагамі. Дзіця неразумнае. Што бачыць, што думае, пра тое і балбоча. «У дзеда Сымона лепш! Цяплей! А ў нас столія зусім нізка. А не светла... Нельга ўрокі вучыць...» Як хто яму нашэптвае, шчуру малому. Паддалася, дурніца, на гэтае мэканне, вось і прыся цяпер з гэтаю ношкаю, быццам у яе чорт ведае чаго накладзена. Аж плечы рве!

Здаецца, сам лес, наліты дурнап'янам багуну, усім сваім цяжарам цяпер наваліўся на Раініны плечы, і яна раз-пораз спалохана падымала галаву, пазіраючы ў блакітныя акенцы-прагалы паміж вяршалінамі дрэў. Падумала, што ў гэтым вялізным лесе яна стала дробненькаю мурашачкаю ці пчолкаю, таму, напэўна, сосны і здаюцца такімі высокімі. Нябесныя акенцы ўверсе таксама былі недасягальныя, ажно кружылася галава, і думалася — як жа доўга трэба ляцець душы праз гэтыя прагалы да святога неба і да тых вунь пуховых бесклапотных аблачынак...

Лес не парадзеў, але зрабіўся святлейшым, таямніча гайдаў галлём і шоргаў калючымі сасновымі лапкамі па вялізнай ношцы.

Раіна нарэшце патрапіла на добрую, пасыпаную шышкавым пер'ем дарогу, узрадавалася. Цяпер можна было нават агледзецца навокал.

Раіна сапраўды глянула ўбок і раптам спалохана спынілася. Па высокай папаратнікавай траве зусім блізка шахнула быстрая, як страла, ваўчыца. Гэта была, напэўна, тая самая, з кручы. Значыць, сачыла, бегла следам. Няўжо і сапраўды ашалела? А можа, проста палюе тут на якую-небудзь амярцвелую ад страху заечую костку для сваіх ваўчанят.

Падтрымліваючы ношку рукамі знізу, Раіна

пяўклюдна пабегла па слізкай ад сыраватага карэння дарозе, ловячы вуснамі салёныя слёзы. Урэшце, што яна хацела знайсці ў гэтым лесе, акрамя невыносна горкіх пякучых успамінаў? Страчанае здароўе? Дык яго ўжо нічым не дастанеш. А можа, якое-небудзь прываротнае зелле, якое верне ёй унука? Каб любіў толькі сваю адзіную родную бабу і нікога іншага, каб бегаў за ёю, як гусяня! Каб ніколі больш не хваліў дзеда Сымона, каб...

Урэшце, гэта ж чаму яна, Раіна, павінна шкадаваць гордага Лемяша? У яе самой вунь нікога няма, нават далёкай радні, усіх па свеце раскідала... Калі б не Уладзік, была б — як палец. Сам жа Лямеш ад Уладзіка, яшчэ не пушчанага ў свет, адцураўся. Сам! А цяпер во што робіцца! Горш і не прыдумаеш...

Раіна ўсё бегла, спатыкаючыся аб карэнне, быццам баялася, што не паспее і што нехта назаўсёды звядзе і схавае ад яе адзінага ўнука, а тады шукай управу! Яна нават на імгненне паверыла ў тое, што ў вёсцы з Уладзікам без яе здарылася нешта благое. Паверыла і памкнулася бегчы хутчэй, але раптам востры боль з левага пляча ўдарыў па ўсім целе, і здзіўленая Раіна вяла асунулася ўніз, сутаргавымі глыткамі хапаючы паветра. Яно, праўда, было цяпер густым і пякучым, як расплаўленая смала, ажно балелі вусны. Сцягнуўшы з плячэй ношку, Раіна асцярожна легла на дарогу. Якраз спінаю на вузлаватыя вяроўкі карэння.

Раіна ляжала доўга, быццам страціла прытомнасць. Над самаю галавою ледзь бачна варушыла галінамі старая вольха. Чырвоная, з доўгім цельцам мурашка поўзала па трымтлівым лісціку. Раіна замерла, з гідлівасцю падумала, што мурашка можа сарвацца і ўпасці проста ёй на твар...

Навокал стаяла таямнічая цішыня. Раіна чакала.

чакала доўга, аж пакуль не прыглух боль, і ўсё навокал адразу ж ажыло і пасвятлела.

Павольна, але ўсё больш упэўнена Раіна пачала знаходзіць у сабе тое галоўнае, дзеля чаго вось сёння, праз столькі гадоў пасля Насцінай смерці, вярнулася да маўклівай лясной Лагвянкі. Гэтае галоўнае было нечакана простым і прынесла Раінінай душы толькі радасць. А ўсё ж добра, яшчэ як добра, што яна, Раіна, стрымалася, так і не сказаўшы нікому праўду пра Уладзіка. Як гэта добра!..

Зрэшты, ці патрэбны таму ж Сымону Лемяшу яе праўда і яе шалёная памяць? Што б ні здарылася з Раінаю, усё ў жыцці будзе так, як і было. Уладзік жа, дзякуй богу, не памрэ разам з ёю, а будзе жыць, яшчэ доўга-доўга расці, набірацца розуму. Няхай сабе і ў Лемяша.

Падумала Раіна і аб тым, што тая даваенная пякучая зуброўка болей не адступіцца і ўжо вельмі хутка дойме, дарве яе сэрца, дагоніць на паўдарозе сваім едка-салодкім хмельным чадам. Але няхай ужо толькі яе, Раіну, толькі яе адну...

Упіраючыся локцем у цвёрдую дарогу, яна асцярожна павярнулася на бок, села перад сваёй вялізнаю разлезлаю ношкаю і пачала развязваць яе. Потым стала на ногі і вываліла з посцілкі разапрэлы мох. І тут убачыла, што разам з ім на дарогу выпала шэранькае, ледзь жывое ваўчаня. Раіна ўсміхнулася, залюбаваўшыся яго чорненькай пыскай. І калі гэты ваўчок запоўз у ношку? Напэўна, яшчэ на балоце.

Бедная ваўчыца...

Ваўчаня тыцкалася ў далоні вільготным носікам і дрыжала. Але ваўчыца не паказвалася, чакала, відно, калі чалавек адступіцца. Раіна адчула, як з-за блізкіх карчоў за ёю цікуюць халодныя, зялёныя вочы вечнага лесу. У сэрца яшчэ раз, як швайкаю, кальнуў боль, але тут жа адступіў. Як нічога і не

было. Праз Раіну, такую спакойную і прасветленую, праходзілі цяпер усе лясныя гукі і пахі, усярэдзіну, здаецца, плыў хмель сасновай жывіцы. Перакінуўшы цераз плячо посцілку з шызымі кудзеркамі моху, Раіна рушыла наперад, асцярожна пераступаючы карэнне. Потым, ужо блізка каля краю лесу, спынілася і азірнулася, як быццам усё яшчэ нешта шукала за сабою сумным позіркам.

А можа, яе, Раіну, паклікала ў гэты лес успамінаў даччына душа? Каб нарэшце паспавядацца і паспавядаць. І распытаць аб усім...

У Раініным лесе стаяла яшчэ недзе блізка тое пявучае дрэўца, на якім зазелянела лістотаю, прыляцеўшы да родных людзей з далёкага краю, чыстая душа Косціка Лемяша, загінуўшага на вайне Сымонавага сына...

Дрэвы ўсё шчыльней абступалі Раіну. Пільна ўзіраліся ў яе пражытыя гады, у яе напоўненыя жыццём і смерцю вочы, у яе збалелае сэрца. Яны падступаліся бліжай і ўсё шапталі, шапталі нешта лагоднае і таямнічае, але сёння нарэшце ўсё ж разгаданае Раінаю.

Дрэвы цягнуліся ў вышыню. Да неба і памяці. І ўсё гэта былі яе, Раініны, і яшчэ нечыя дзеці. Яе і яшчэ нечыя ўнукі і праўнукі. Яе і яшчэ нечыя крыўды і праўды.



# ЧУЖАЯ

Здадзеную людзьмі бульбу прыёмшчык Раман Каравай буртаваў тут жа, каля калгаснага прыёмнага пункта. Хаця і немалады ўжо, але высокі і дужы, Раман быў да таго ж не брыдкі і з твару — тонкія сухія вусны і прамы нос на смуглявым худым твары, да якога хораша пасавалі коратка падстрыжаныя сівыя валасы.

Сёння, як на тое ліха, на пункт прыязджалі адны ўдовы і «пакідзюнкі», кабеты, разведзеныя з мужамі, і ўсім ім даводзілася памагаць. Найчасцей, самому разгружаць вазы.

Жанчыны адчувалі сябе перад Раманам вінаватымі і ўдзячнымі, аднолькава збедавана ўздыхалі і запрашалі на пачастунак: «Гэта ж у лаўку віно прывезлі... Зайшоў бы!» Нібыта ўсе раптам забылі, што ён, Раман, не бярэ ні кроплі.

Цяпер, калі дзень канчаўся, тыя запрашэнні надакучылі і раззлавалі: «Зайду! На святыя нігды! Хоць бы адна дадумалася грошы заплаціць...»

Некалькі бульбяных капцоў у рэдзенькім яшчэ мігатлівым прыцемку холадна блішчалі сваімі пукатымі, прысыпанымі знізу жвірам і завершанымі саломаю, бакамі, гарбаціліся і цяпер здаліся Раману

палеглымі на адпачынак, натомленымі копьмі. Часцяком налятаў калючы вецер, ад якога саламяныя грывы на капцах дыбіліся і суха шапацелі.

Ноч набліжалася па-восеньску хутка, і разам з яе халоднаю цемраю ў Раманаву душу запаўзала глухая незразумелая трывога. Трэба было ўжо збірацца дахаты — Раман праверыў замок на дзвярах пункта, міжволі зірнуў на капцы. Усё было ў парадку. На небе неяк раптоўна заблішчалі частыя нізкія зоркі, Раман яшчэ раз прыгледзеўся да вастраверхіх, як медныя вежы, капцоў і неяк глуха, ледзь не стогнучы, уздыхнуў: «А ўжо ж і нацягаўся, ліха яе матары!»

Нарэшце засунуў важкія, як налітыя волавам, рукі ў кішэні старога бушлата, рушыў напрасткі да калгаснага кароўніка, за якім пачыналіся платы першых вясковых двароў. І тут жа, толькі ступіўшы некалькі крокаў, спыніўся: перад ім даволі выразна пачулася таропкае жаночае ноканне і хрыплаватае фырканне каня.

Настрой сапсаваўся зусім.

«У Вазнюка, напэўна, калёсы выпрасіла. Не рыпяць, хал-лера!»

Трэба было вяртацца і зноў адмыкаць дзверы...

Праз якую хвіліну ў няяркім святле запыленай лямпачкі і сапраўды паказаўся нізенькі Вазнюкоў конік. Раман звыкла абмацаў позіркам наладаваныя на возе мяхі з бульбаю: не меней, як восем.

Каля воза подбегам тупала Анюта Байкава. У светлай хустцы і ў пругка-цеснаватай, быццам пашытай з бліскучага жылавіння, ватовачцы яна выглядала даволі зграбнай і не па гадах маладой.

— Царыца нябесная! Добра, што не пайшоў яшчэ, Раманка! Гэта ж я бульбу вязу...

— Бачу, што не капусту!

— А што, ты і капусту прымаеш?

— Ну, глядзіце на яе!

Сумеўшыся ад гэтай нечаканай злосці, жанчына здзіўлена падняла на Рамана свае вялікія, па-дзяво-чы цёмныя вочы. Паднесла маленькую далоньку да рота, нібыта хацела апраўдацца. Але раптам упарта, нават крыху крыўдліва, накапыліла вусны і яшчэ вышай узняла галаву. Нібыта гэта ён, прыёмшчык, быў вінаваты ў тым, што яна спазнілася са сваёю бульбаю.

І Раман ускіпеў: «Пані заморская! А от жа калі прывезла сярод ночы, то цярпі. Цярпі! Як сам на-цярпеўся і намучыўся некалі. Бульбу сваю каравую прывезла...»

Ён думаў, што вось-вось выкажа ёй усё, што на-балела ў душы і ўзрушылася цяпер, але замест гэ-тага, нечакана для сябе самога, махнуў рукою, па-дышоў да воза і падцягнуў бліжай самы верхні мех. Узваліўшы мех сабе на плечы і папраўляючы, Раман падкінуў яго так моцна, што ў кожнай бульбінкі, здаецца, ажно нешта ёкнула ўсярэдзіне. Раман так-сама кракатнуў, павярнуўся і патупаў да вагаў ня-спешнымі шырокімі крокамі, быццам цягнуў разам з гэтым важкім мяшком свой уласны, амаль забыты і раптам вось цяпер нечакана вылузаны з душы, тры-вожна-балючы ўспамін...

Анюта ўсё яшчэ такая ж прыгожая... Бач, якая... Гэткая ж самая спраўная і ганарыстая маладзіца, якою была і тады, дваццаць пяць гадоў назад...

Раман усё ніжай згінаўся пад праклятым, як на-бітым каменнем, недзе ўжо чацвёртым па ліку буль-бяным мяшком, жаласна і роспачна дзівіўся сваёй нечаканай пакорлівасці. На вочы пачала наплываць салёная гарачыня, апякаючы скроні і шчокі...

Дваццаць пяць гадоў назад, якраз у чэрвені, Ра-ман вярнуўся з фронту, жывы і здаровы. З медалём

«За адвагу» і двума ордэнамі. Вярнуўся, як цяпер помніць, раніцаю. І доўга, як мёртвы, спаў. Здаецца, да самага вечара. Абудзіўшыся, адразу ж запытаў у маці пра Анюту... Пра каго ж яшчэ яму было пытаць? Вядома, пра Анюту...

Але маці быццам не пачула гэтага ягонага пытання, замітусілася, затузала ражкі хусткі і чамусьці пачала расказваць пра Сцяпана Байку. Маўляў, вярнуўся той з фронту з пустым рукавом — бяда бядою. А тут яшчэ, праз год, і зусім бабылём астаўся, гадуе цяпер дзвюх дачушак. Адна нічога, большанькая, затое другая — зусім груднос дзіця.

Раман набраўся цярпення і слухаў маці не перабіваючы — дойдзе ж яна да канца! Нарэшце дачакаўся. От яно што! Яго Анюта ў Сцяпана... У гэтага бязрукага...

Ён, вядома, не паверыў. Выйшаў з хаты ахалонуць, але не вытрымаў. Пабег, падстаўляючы грудзіну ў расхрыстанай гімнасцёрцы ўжо цвёрдаму вечароваму ветру, на другі канец сяла. Спяшаючыся, нават прамінуў Байкаў двор, крыху вярнуўся назад. Нарэшце спыніўся і так стукнуў кулаком у зялёную брамку, што тая ажно рыпнула. Гэтак жа, кулаком, з усяе сілы бухнуў і ў дзверы...

Сам Сцяпан моўчкі стаяў за сталом, каля акна, і пусты рукаў яго аж загайдаўся ад скразняку. Пасярод хаты вісела калыска, прывязаная вяроўчынаю, як пупавінай, да пабеленай столі. Анюта, убачыўшы Рамана, нахілілася над дзяўчынкаю, асцярожна выняла яе і ласкава прыціснула да грудзей. Як родную.

Раман глядзеў і не верыў сваім вачам. Бачыў, як на Анюцін лоб падаюць густыя светлыя валасы, з непаразуменнем і шчымліваю роспаччу ўзіраўся ў празрыстае ад стомленасці, яшчэ прыгажэйшае, чым раней, Анюціна аблічча.

Ён глядзеў на яе і — не пазнаваў. Не разумеў:

як жа яна рашылася на двое чужых дзяцей і на гэтага бязрукага Сцяпана... Ды хоць бы хата была як хата, а то ж пограб нейкі! Галеча! Анюта нават не азірнулася на яго. Ну, што ж, не азірнулася дык не азірнулася. Значыць, так і трэба было! Затое пазней, недзе праз гады чатыры, ужо застаўшыся ўдавою, Анюта стала іншай.

...Мяшок раптам саслізнуў з Раманавых плячэй і гупнуўся долу. Але ён толькі скрыгатнуў зубамі і павалок яго на вагі па зямлі.

Амаль як тады, у далёкую цёплую восень, калі Анюта папрасіла яго ссыпаць у лёх накапаную бульбу.

Пасля смерці Сцяпана яна ледзь зводзіла канцы з канцамі, шыла зімою з рукавоў старой ватоўкі буркі для старэйшай падчаркі. Меншай было яшчэ толькі гадоў пяць. Праўда, людзі казалі, што надта ж слабая яна і кволая, наўрад ці выжыве...

У той восеньскі пагодны дзень з самай раніцы Раман пачаў крыць сваю новую хату. Седзячы на латах, радасна ўдыхаў моцны сасновы пах, змешаны з саладкаватым балотным пахам чаратовых снапоў. Уздоўж крокваў, якраз наўкруг цёмных, як вавёрчыныя вочкі, згабляваных сучкоў, пацяклі празрыстыя, ліпкія і бліскучыя, што мёд, пацерачкі свежай смалы. Раман дакранаўся да іх пальцамі і адчуваў, як пасля кожнага дотыку яго душа напаўняецца тонкаю пявучаю радасцю.

Новую хату Раман ставіў разам з будучым цесцем, калгасным брыгадзірам, на самым крутым беразе рэчкі. Адсюль, з гэтага берага, усё наваколле бачылася Раману незвычайна бязмежным і прыгожым.

Хата была на ўсё сяло. Не тое што ў гэтай дурніцы, якая не дачакалася... Зрэшты, чым яго Манечка горшая? І ўдалая, і бацька во — брыгадзір! Не-не дый падкіне чаго...

Задумаўшыся, Раман і не заўважыў, як да будоўлі падышла сама Анюта, якраз пацягнуў да сябе чарацяны сноп. Але той раз'ехаўся і пагрозліва зашаргацеў пад самыя Анюціны ногі. Раман аж сумеўся ад нечаканасці, адчуў, што твар яго абліваецца, як у нейкага там блазнюка, гарачым сорамам. А яна гэтак шчодра ўсміхаецца, нават закрылася ад сонца рукою, пазіраючы знізу на Раманаву страху. Тоненькая і зграбная, уся як бы цягнулася да яго ўверх.

Раман думаў, што будзе з ёю па-мужчынску грубы і строгі. Але варта было Анюце папрасіць яго прыйсці і падсабіць па гаспадарцы, адразу ж згодна кіўнуў галавою. Нават не здзівіўся, што яна просіць дапамогі менавіта ў яго. У каго ж яшчэ?! Праўда, як толькі Анюта знікла з вачэй, ён астыў і пашкадаваў, што згадзіўся.

Ды і як гэта ён пойдзе амаль праз усю вёску на вачах у людзей? Ім — абы прычына, абы знак! Адразу ж заплешчуць языкамі. Не ўжо, няхай лепш пашукае іншага памагатага! Не разумеючы, што ж яго так гняце, Раман працаваў як шалёны. Вечарам, змучаны работаю і рознымі думкамі, ледзьве злез са страхі і рашыў адразу ж ісці дахаты. Але ногі, толькі ступіўшы на зямлю, раптам перасталі слухацца яго і самі павярнулі ў той бок, дзе быў Анюцін двор. Раман ішоў моўчкі, рэзкімі кіўкамі галавы адказваючы на прывітанні вяскоўцаў.

Убачыўшы Рамана, Анюта неяк спалохана пагладзіла па галаве меншую з падчарак, Светку, гэтак жа даверліва, як раніцаю, заўсміхалася. Светка не па-дзіцячы насцярожана зірнула на Анюту, потым адвярнулася і натупала, шукаючы дзе б лацвей сесці. Была яна ў вялізным, пэўна, бацькавым, пінжаку, і над грубым каўняром ажно свяцілася саламяная галоўка. З шырокіх закасаных рукавоў вытыркаліся брудныя пальчыкі. Малая села на груд іржавага

бульбоўніку і зацíхла. Раман прыгледзеўся да маленькага, як бобінка, тварыку і рэзка адвярнуўся, не разумеючы, адкуль у яго такая раптоўная непрыязь да гэтай Анюцінай падчаркі. Думаў рознае, але не мог пабароць у сабе злосці, быццам усё благое і несправядлівае, што зрабіла з ім і Анютаю жыццё, вось цяпер увасобілася ў гэтым няшчасным дзіцяці. Прымушаў сябе пашкадаваць яе, гэтую кволую дзяўчынку, але дарэмна. Усё было яму чужое.

Пасля таго як насыпалі добры капец, Анюта паклікала Рамана на вячэру, спрытна падхапіла Светку на рукі («Бач ты, вялікую, а на руках цягае!» — падумаў Раман) і, падбіваючы на хаду вялізнымі, таксама, мусіць, яшчэ мужавымі, чаравікамі пазелянелыя бульбіны, амаль пабегла ў хату. І Раман, як сляпы, патупаў услед за ёю, асцярожна, каб не набіць гузакоў, нагнуў у парозе галаву. Але ўсё роўна балюча выцяўся.

Яшчэ не было прамоўлена ні слова, але Раман адчуваў, што тое, даваеннае, не аджыло, а толькі стаілася, схавалася недзе ў самай глыбіні душы, чакаючы тае хвіліны, калі яны з Анютаю сыдуцца і разбяруцца ва ўсім...

Анюта нарэшце паўкладала дзяцей — старэйшую на печы, малую — на тапчане. Раман усё сядзеў за сталом, абхапіўшы галаву рукамі. Нейкая даўкая хваля жаласці да сябе самога і да Анюты выплывала з сярэдзіны, падступала да горла. Некалькі разоў перад вачамі ўспыхнулі яркія жоўтыя сцены новай хаты на высокім беразе, але нават яна, хата, цяпер здавалася недарэчнаю і непатрэбнаю. Усё было як у паўсне, і ён, седзячы за сталом, не мог павярнуць галавы, не мог азірнуцца, але чуў, як Анюта ходзіць каля ложка, уся імклівая, лёгкая, родная...

Апоўначы ён прачнуўся ад дзіцячага плачу. Анюта тут жа, як і не спала, саскочыла з драўляна-

га ложка, нахілілася над растрывожанаю нейкім страшным сном малою, пачала супакойваць яе ла-годным шэптам. Такая начная тузаніна, відаць, бы-ла тут прывычная, і Раман незадаволена адвярнуўся.

Ноч прабівалася праз два маленькія акны месяч-ным ззяннем. Сцены і крыжыкі вокнаў ледзь бачы-ліся ў жоўтым мораку, і Раман прыўзняўся на локці, прыгледзеўся. Яму раптам прымроілася, нібы яны з Анютаю ў двары і быццам яго Анюта нячутна сту-пае праз густы, засеяны крышталікамі расы туман, асцярожна расхінае рукамі кудлатыя цені прывідна-га вербалозу. Ён жа — толькі пагойдваецца ўслед, хапаецца за доўгую сарочку, цягне ўніз, у сваё слюдзяное марыва. Раман крутнуў галавою і зноў упаў на падушку, як уцякаючы ад наслання. І рап-там уздрыгнуў ад рэзкага, невыноснага плачу дзяў-чынкі.

Стала цесна і душна, і ён пачаў сціху азірацца, нібыта хацеў разгледзець тое, чаго не ўбачыў раней, пры святле, зразумець, што ж перашкаджае яму быць тут па-сапраўднаму шчаслівым. Лежачы, запэўніваў сябе, што не зможа пражыць без Анюты ні дня, а та-му трэба быць цярплівым. З часам яны зладзяць добрую гаспадарку, паставяць новую хату. І ўсё ў іх будзе, будзе, будзе...

Але нешта моцнае, прыкрае ўпарта падмывала яго ўпэўненасць.

І раптам Раману здалося, што ён зразумеў усё. А зразумеў ён тое, што нават тады, калі рыхтаваўся да вяселля з брыгадзіравай Манечкай, увесь час толькі і чакаў гэтай гаворкі з Анютаю. Зра-зумеў, што павінен вырашыць усё цяпер жа па-муж-чынску рашуча. Спачатку Раман пачаў распростваць плечы, стараўся ўвабраць у сябе паболей паветра, чуў, як пахруствае ўсярэдзіне, быццам там звонка

рваліся сухія травінкі, і нарэшце растуліў зліплыя ад хваляванння вусны.

— Нашто яна табе, Анюта?

Анюта памаўчала трошкі, напэўна, думаючы над Раманавымі словамі, але так нічога і не ўцяміла, перапытала:

— Ты пра каго гэта, Раманя?

— А пра малую,— ён ажно прыўзняўся на локці.— Яна табе хто? Старэйшая — няхай сабе. Хутка сем класаў кончыць. А з гэтай што? Чужая... Лепей у дзетдом, чым на нашых руках!

Раман хацеў яшчэ нешта сказаць, але па тым, як у хаце зрабілася ціха, нават дзеці не так гучна пасопвалі насамі, адчуў, што лепш памаўчаць. Адкінуў коўдру і асцярожна саскочыў з ложка, зарыпеў на ўсю хату масніцамі і пасунуўся да акна.

Празрысты стог месячнага праменя стаяў на двары такі вялізны і дрогкі, што вось вазьмі ды выйдзі, пакратай яго рукамі, і ён адразу зварухнецца з месца, прасочыцца праз плот і павольна паплыве праз усю вясковую вуліцу. Раман прыціснуў далоні да халоднай шыбіны, як астуджваючы нечаканае ўзрушэнне, вяртаючыся да явы. Анюта таксама паднялася, накінула на плечы хустку і стала побач, узіраючыся ў зменены ноччу двор. Потым прыхінулася да Рамана плячом і ціха, з болем сказала:

— Яна не чужая мне, Раманя. Як жа я такую... Хвораныкую... Невядома, як без маці...

— У дзетдоме вылечаць... Яшчэ лепш за цябе... А то, крый бог, што здарыцца, што тады? Га?.. Звінаваціць!

Ён стараўся гаварыць мякка, але Анюта ўсё роўна адчула ў ягоным голасе цвёрдасць.

— А што людзі скажуць?

— А што мне твае людзі? Што яны, карміць яе

будуць? Паіць? Ага! Ты, значца, добрай хочаш быць... Для чужых...

— Раманя, ну што ты?

— А я, значца, звер?

— Раманя...

— Раманя, Раманя... Ты глянь, у гэтай жа нары не павернешся... Дзе жыць будзем?

— Як і ўсе... І яна з намі пабудзе... Не стопча падлогу...

— А беднота якая! Хоць ты ў парахні калупайся!

— Чакай...

— Як сабе хочаш! — Раман ужо не мог спыніцца. Як не мог цяпер да канца зразумець і гэтую сваю злую рашучасць, і гэтую насцярожаную нецярплівасць да ўсяго, што Анюта бараніла.

— Як сабе хочаш... А я так сказаў: аддасі дзіця, усё добра будзе. Зусім не тое. І табе, і мне. Жыццё — не цукерка...

...Цяпер, згадаўшы тую гаворку, Раман упершыню здзівіўся, чаму тады ні пра яго блізкае вяселле з брыгадзіравай Манечкай, ні пра новую хату каля рэчкі Анюта нават не ўспомніла. Ды і ён таксама...

«Жыццё — не цукерка...» Ледзь варушачы вуснамі, Раман яшчэ раз паўтарыў амаль забытае «жыццё — не цукерка...» і азірнуўся. Убачыў, што Анюта ў прыцемках збірае з зямлі рассыпаную бульбу.

— Ды што ўжо тут, як гады свае збіраеш. Хто яе тут возьме, бульбу тваю... Сёння ўсё роўна вазіцца з ёй не буду. Позна.

— Я-то раней прыехала б... Ды во паштарка спазнілася. Пакуль пісьмо прынесла...

— Заўтра ўзважу, заўтра! От, гарыць!

Рамана ахоплівала нейкая ўпартасць, ён пачаў соваць рукамі па кішэнях, шукаючы ключы.

— Светка пісьмо прыслала...

— Ага, успомніла цяпер! А што я табе казаў?

Успомніла. Век з чужою будзеш валаводзіцца, да смерці рукі не атрасеш!

— Ты не злуй, Раманя, не злуй... Нашто ўжо? Піша, мастыт у яе, ляжыць з дзіцяткам у бальніцы. Прыедзь, піша, мамка, памажы, а назад я цябе сама адпраўлю.

Раман абцёр шурпатаю далонню ўспацелы лоб, стараючыся не зважаць на яе жаласлівы голас, але Анюта не магла стрымацца:

— Думала, бульбу здам, грошы будуць. Усіх аббегала, пазычыла трохі. А туды ж білет, ва Уладзівасток гэты, дарагі такі...

— Я грошы за бульбу не даю.

— Як гэта, Раман, а як жа?

— А я толькі паперчыну выпісваю, а грошы ў праўленні даюць. І не кожны дзень, галубка.

Раман злавіў сябе на тым, што ён нібыта радуецца Анюцінай няўдачы, нават пачырванеў.

— Але як жа гэта? Я ж думала...

— Думала!

— Мне б толькі рублёў трыццаць. А там як-небудзь... Старэйшая што, у яе ўсё ладзіцца. А Светка, ластавачка мая... Яна ж...

Раман не мог больш чуць яе голасу, не мог бачыць гэты расчараваны твар. Выняў з кішэні кашалёк і стаў лічыць, хоць добра помніў, што там было роўна трыццаць рублёў. Сёння якраз з'ездзіў у горад і зняў з кніжкі, спадзяваўся, што сусед, які працаваў на складзе, нарэшце дастане даўно абяцанае каляровае шкло для веранды.

Грошы шалясцелі, як наэлектрызаваныя, рукі не слухаліся. Ды што тут лічыць?!.

Але ў самы апошні момант Раман чамусьці ўзяў з кашалька толькі дзве дзесяткі, ткнуў іх у худзенькія цвёрдыя далоні жанчыны. Пайшоў, нават не азірнуўся, далей ад сваіх вагаў, ад падслепаватай, за-

плямленай мухамі электрычнай лямпачкі над імі, ад Анюціных радасных падзяк.

Не помніў, па якой справе ён апынуўся ў цесцевай хаце, не помніў, чаго бег да крамы: зусім забыў, што ў такі позні час яна ўжо зачынена.

Ледзь стрымаўся, каб не зайсці да якой удавы на абяцаную вячэру...

І толькі пасля таго, як Раман цішком пракраўся ў Анюцін двор, ён пачаў супакойвацца. Стаяў, прыціснуўшыся плячом да хісткага плота, і пазіраў у няяркае аконнае святло хаты.

Ноч была незвычайная. Усё навокал павялічвалася трапяткою цемраю і падступалася да чалавека ўсё бліжай. Адно толькі яркія зоркі-ягадзінкі ў глыбокім небе ледзь трымаліся каля нябачных лісточкаў, парваныя воблакі бязладна плылі за сонную вёску, і ўяўлялася, што там, у недасяжнай вышыні, гайдае сваім бухматым голлем стары, пачарнелы лес. А паміж яркімі кропкамі, пабліскваючы зорнай пацярухай, то распростваліся, то зноў сціскаліся празрыстыя нябесныя змеі. З неба на зямлю капала густымі кроплямі начная таямнічасць, прабівала яе наскрозь, нават патрэсквала пругкая зямная абалонка. Раману здалося, што гэта яго душа, аплываючы ўніз, праходзіць праз зямную кару, напаўняецца такою салодкаю музыкаю. Ён трывожна ўслухоўваўся ў начныя шолахі. Нават не ў думках, а недзе ў патаемных сховах душы нараджалася адчайная гатоўнасць узяць вось і рашуча павярнуць усё сваё жыццё. І няхай будзе што будзе!

...«Добрую хату маю? А цяпер ва ўсіх добрыя хаты! Няма тут чаго нос дзерці...»

Раман махнуў рукою, нібы адганяючы ад сябе камарэчу, але свежая трэшчынка ў душы зашчымела зноў.

«Думай што хочаш, суцяшайся, але ж во пражыў

век, як бабыль. Нават горш за бабыля. І не пажалішся нікому. Хіба аднаму сабе...»

Раман ажно ўздыхнуў.

«Век пражыў з Манечкай, ні на кога больш і вокам не кінуў, а сям'і няма. Хоць бы аднаго нарадзіла! Ялавіца!»

Застаялая мужчынская крыўда падымалася і захліствала горла. Але жаласць да самога сябе паціху замянялася злосцю.

«Падманвай, галубок, каго хочаш, толькі не сябе. З Манечкаю жыў, а пра Анюту думаў!.. А што работы было па горла, дык гэта не прычына, ва ўсіх работа! Першыя гады над новымі соткамі каля лесу біўся... А потым? Сарваўся, як з ланцуга, у Сібір, на заробкі! Сем гадоў! Не штука, ліха матары!.. Пра ўсіх, здавалася, забыў. І пра Манечку, і пра Анюту...»

Раман схамянуўся: «Няўжо і пра Анюту? Вядома, забыў. Калі б не трэба было прыехаць маці пахаваць, то зусім бы астаўся ў Сібіры... А што, работа ўсюды работа... А можа, проста схаваўся ад Анюты? Збег, як блазнюк? Каб не бачыць яе, не сустракацца ўсюды, нічога пра яе не чуць...»

Раман пастаяў яшчэ некалькі хвілін, потым выняў з кашалька тую апошнюю дзесятку, таропка, няўмела завязаў яе ў белую насоўку, каб не згубілася ў цемры, і паклаў на лавачку пад акном. Не разбіраючы дарогі, кінуўся з Анюцінага двара дахаты, слізгаючыся, як п'яны, на выбоінах. І толькі на ганку ўласнай хаты, пастаяўшы крыху, супакоіўся, пракашляўся і адчыніў дзверы...

— Ага, мы тут ледзь упраўляемся, а ён, ваўчыска, па чужых лагвах бадзяецца!

Суседка Волька, высокая і грудастая, весела згрызала аб тарку свежую вільготную моркву. І зу-

сім нічога не паказвала на тое, што яна надта ж змучылася. Але Раман прамаўчаў.

Уся веранда была завалена ацярэбленым капусціннем, а на стале хрусткаю горкаю высіліся крамяныя качаны.

«От, халера, забыў, што сёння капусту шаткуем»,— прамільгнула ў Раманавай галаве. Не адказваючы на суседчыны кпіны, ён моўчкі ўзяў вялізны таўкач і адразу пачаў трамбаваць нашаткаванае. Бочка глуха забулькала, абдала яго рэзкім кменным духам і капусным сокам.

— Ого, якая капуста дабрэнная. Бач, як напілася за лета,— задаволена рагатнула жонка, яго Манечка, высокая і хударлявая. З-пад хусткі выбіліся рэдкія, нейкія брудна-рыжаватыя валасы, да расчырванелай шчакі прыліпла ўжо высахлая капусная лапінка. Не разгледзеўшы, Раман падумаў, што гэта гліна ці яшчэ які бруд, і яму стала гідка. Быў стомлены, але біў і біў таўкачом у нутро бочкі і не разумеў, чаму свята шаткавання, такое светлае і радаснае з маленства, зрабілася цяжкім і нядобрым.

Абцярэбленыя верхнія лісты, яшчэ не прыбраныя, ляжалі на падлозе, пакрэсленыя цёмнымі ніточкамі-жылкамі. Раман баяўся наступаць на іх, каб не чуць звонкага хрусту. Зрэдку ён пазіраў на вясёлую суседку, потым пераводзіў позірк на Манечку, нібыта параўноўваў іх. І зноў, каторы ўжо раз, упэўніваўся, што ў жонкі нават тады, калі яна радавалася, такія адчайна сумныя вочы. Яны, гэтыя вочы, усё часцей здаваліся Раману цёмнымі норкамі, адкуль раз-пораз, бы палахлівыя звяркі, выглядвалі ці то расчараванне, ці злосць, ці звычайная самота. Ведама, бяздзетная жанчына...

Нарэшце Раман закончыў работу і пачаў адцягваць у кут веранды бочку, потым накрыў яе марляю. Волька маўчала, нібы праглынула свае зляжа-

лыя жарты, пачала збірацца дахаты. У гэты момант Раман пачуў, як да іхняга двара пад'ехала машына. Праз хвіліну ў праёме адчыненых дзвярэй узнік Андрэй Канаплянік — без шапкі, у пацёртым пінжачку, з чорнымі і бліскучымі, бы намазанымі алеем, бровамі на такім жа бліскучым успацелым твары.

— Ну, суседзе, ідзі глянь! Во хлопцы шкло прывезлі... Чырвонае, аж гарыць!.. Ідзі, ідзі глянь!

Раман, узрадаваны, памкнуўся да дзвярэй, але ўспомніў, што ў яго няма грошай, і хрыплым ад расчаравання голасам запытаў:

— А за колькі?

— Ды драбяза! Я ж казаў... Трыццатку за ўсё кінь — і до! Ды ты ідзі глянь спярша...

— А што я там убачу? — Раман раздражнёна прыкусіў губу і махнуў рукою.— Слухай, Андрэй, а можа, заўтра... Ну... Шкло сёння вазьму, а грошы заўтра аддам... Ты разумееш, тут...

— Ты што, суседзе,— адразу ж пасумнеў Андрэй,— ды каб жа ім во цяпер грошы не былі патрэбны, то сталі б яны гэтае бразгоцце везці!

Андрэй злосна плюнуў. Манечка раптам ускінула галаву і запытала:

— Як жа гэта грошай няма? Ты ж у горад ездзіў.

— Ну і што? Ездзіў, ездзіў...

Раман не чакаў, што жонка загаворыць з ім так сярдзіта, ды яшчэ пры людзях.

— А ў цябе самой што, нічога ў панчосе не схавана?

— Сам ведаеш... Ні капейчыны...

— Ага, ведаю! Можна паверыць! Гэта мне ўсё аднаму, як дурню, трэба. Грошы — зарабі, шыферу — дай, веранду — зашклі!

Раман нешта хацеў яшчэ сказаць, але раптам як спатыкнуўся аб яе пякучы, амаль бясцямны позірк.

— Адчапіцеся вы ад мяне. Усе адчапіцеся! Сам жа па грошы злётаў! А куды дзеў? Куды?!

— Сам знаю, куды... Мая кніжка, хачу — бяру з яе, хачу — не!

— А хата чыя? Таксама твая?

— Хай яна згарыць, гэтая хата! Разам з табою!

Раман бачыў, як пабялела напалоханая Волька, як насупіў бровы сусед. Зразумеў, што перабраў, і прыкусіў губу. Абняўшы Манечку за плечы, суседка павяла яе з веранды, бразнуўшы дзвярамі. Мужчыны засталіся адны, закурылі. Адчувалася, што Андрэю няёмка, ён пакашліваў у кулак, нават пачаў апраўдвацца, быццам сам быў вінаваты ў тым, што ў Рамана няма грошай. Потым пашукаў і выняў з кішэні дваццаць рублёў.

— На, да заўтра... А дзесятка ж, можа, ёсць?

На вуліцы прасігналіла машына, пэўна, хлопцам надакучыла чакаць. Выскачыўшы з веранды, Раман крыкнуў Андрэю, каб той трохі пачакаў, паслізнуўся на нейкім мокрым лісце і ледзь не ўпаў. Але не спыніўся. Паляцеў да Анюцінай хаты.

...Брамка рэзка рыпнула ў цішыні, але Раман нават не звярнуў на гэта ўвагі. Спыніўся толькі каля лавачкі і адразу ж убачыў, што яго белай насоўкі з дзесяткаю не было. Ён схапіў рукамі гэтую маленькую лавачку і пачаў з усяе сілы тузаць яе. Потым кінуўся на калені, абмацваючы навокал кожны лапік зямлі.

«Дзе ж яна, гэтая дзесятка праклятая? Няўжо не знайду?..»

Разнерваваны, ледзь не драпаў калянную ад начной сырасці траву анямелымі пальцамі.

«Можа, яна сама ўбачыла і ўзяла? А што, як хто іншы? Ідзі вось цяпер шукай, дурань... Прыйшоў, згледзеў і — на табе! У кішэньку... Так табе і трэба,

Каравай дурны! Эх, каб жа хлопцы не паехалі! Каб не паехалі... Столькі чакаў гэтае шкло!»

Раман то круціўся на месцы, то, хутка перастаўляючы калені, поўз наперад, ажно пакуль не ўткнуўся галавою ў цвёрдую штыкеціну.

І толькі тады спыніўся і — як прачнуўся. У вушах пачулася жаласлівае Анюціна: «Старэйшая што, у яе ўсё ладзіцца... А Светка...»

Зямля была халодная, і Раман ледзь падняўся на здранцвелыя ногі, зірнуў у глыбокае нямое неба: «Што ж гэта са мною? Навошта ж я так? А, каб ты згарэла!»



# ПАЦЕРКІ ДЛЯ ВЕРЫ

У свае пятнаццаць год Вера была вялікая і дужая, але здавалася равесніцам нязграбна худой, чужой і адзінокай, бы тая калючая, недагледжаная дзічка за вёскаю. Яна саромелася свайго непрыгожага аблічча з маленькімі насцярожанымі вачамі, што хаваліся пад канаплянымі бровамі, свайго шырокага твару з тоўстымі вуснамі.

Не магла прывыкнуць і да новага адчування нейкай важнай страты, нібыта аднойчы зірнула сама на сябе збоку, перайначылася, перамянілася і выглядам і нутром, спалохалася змене ў сабе і адгарадзілася ад усіх нябачнай, бы тоўстая шкліна, перагародкаю. Спачатку хадзіла як у прывідна таямнічым сне, успрымаючы гукі і колеры, даўно знаёмыя абліччы і словы зусім па-новаму. Людзі ў хатах і на вуліцы пра нешта ўвесь час гаварылі, то расцягваючы вусны, то сціскаючы рот у вільготную каробачку жоўтага гарлачыка. Яна спачатку хацела прагнаць ад сябе гэтае непрыемнае відовішча, але нарэшце прымірылася, супакоілася, адчула, што пра яе згрызоты ніхто не здагадваўся.

За перагародкаю нязвыклага адчування даросласці Вера часам бачыла і сябе ранейшую, адчайна

бесклапотную, даўганогую, з растапыранымі хвосцікамі заплеценых косак. Але з гэтай мамчынай дачушкай не хацелася развітвацца — яна ўжо жыла ў абалонцы амаль дарослай дзяўчыны, толькі час ад часу нібыта аддзялялася, знікала, выплывала менавіта ва ўспамінах, бачылася ўжо за той мяжой, што так балюча рассекла і думкі, і клопаты, і ўсю жывую душу на дзве амаль варожыя палавіны.

Вера даўно ведала, з якога часу і як пачала расці перад ёй гэтая сцяна-перагародка...

У пачатку лета, калі толькі-толькі пачыналі купацца, дзяўчынкі іхняга гурту чамусьці пачалі вельмі саромецца хлопцаў і хоць і купаліся ў сарочках, але выбіралі сабе на возеры асобнае месца, атуленае з бакоў густымі лазнякамі. Каля самага берага, праўда, было гразка, але праз метры два дно цвярдзела і, здавалася, пахруствала пад нагамі. Не было тут здрадлівых ямак, у якія можна было боўтнуцца з галавою, са дна, падціскаючы пальцы на назе, можна было браць цвёрдыя і калючыя, бы шрот, дробныя каменьчыкі. Купаліся доўга і весела, але няўмела, баючыся заплываць на глыбокае, хоць кожнае лета бавіліся толькі вось гэтым возерам, што ляжала сярод высокіх берагоў вялізнай блакітна-хвалістай хусткай. Па гэтай дрогкай азёрнай хустцы, няроўна адстрочанай цёмнымі лазнякамі, пазначанай вузламі старых вербаў, плаўна і бясшумна, амаль не пакідаючы за сабою слядоў, праплывалі чаўны. Нават ямачка ад кінутага каменьчыка так хутка знікала, што Веры здавалася, быццам пад гэтым бліскучым, як напятым у ціхае надвор'е шоўкам вады павольна і важка круціцца вакол сваёй восі нейкае вялізнае кола. Варочаецца, бы ў яме, зацягвае ў свой калаўрот усё жывое і ў сваім няспынным руху ў адзін момант сцірае з паверхні возера глыбокія раны ад вёслаў, кругі і шырокія палосы ад нагружаных чаўноў.

Азёрнае кола пачынала шалець толькі ў навальніцу. Яно быццам сілілася вырвацца з глыбіні, рыпуча паварочвалася з боку на бок, гнала да берага вялікія хвалі, і ў дзявочую душу ўрывалася нешта трывожнае. Страх, аднак, не пускаў на бераг, і яна толькі назірала здалёк, як чаўны, прыкутыя ланцугамі да калоды, то грозна падымаліся, то імгненна апускаліся на хвалях, моцна стукаліся, церліся бартамі, павольна запаўняліся вадою і нават ішлі на дно.

Але аднаго разу, калі вецер пагнаў па возеры зусім невялікія хвалі і здавалася, што навальніцы ўсё ж не будзе, Вера ўзяла сваю шчаслівую на ўдачу рыбацкую дарожку, нацягнула старую штапельную кофту з доўгімі рукавамі, каб не было холадна, і пайшла на бераг. Падумала, што, можа, і не варта цяпер ганяцца за тымі шчупакамі, не тая пара, але потым адчайна махнула рукою, ускочыла ў човен і, прымасціўшыся зручней, пагнала яго на самую сярэдзіну. А там, раскруціўшы дарожку, зачапіла лёску за вуха і, трымаючы яе зубамі, з усяе сілы замахала вяслом. Храшчыкам вуха чула, як недзе ў канцы лёскі дрогка круціцца жалезная плотачка з вялізным, на шчупака, зазубцам. Вера прагнала човен спачатку ў адзін, потым у другі бок, шырокае вясло грызла пашарпаны борт, расцінала пругкую і халодную ваду, нос задраўся ўверх, і аб яго рытмічна пляскаліся частыя сустрэчныя хвалі.

Нечакана з цёмнага неба пайшоў дождж,наляцеў густы вільготны вецер, і Вера надумала вярнуцца, але самалюбства прызнанай у вёсцы рыбачкі клікала наперад. Там, пад вяслом і днішчам чоўна, пачало свой важкі ход разбуджанае непагаддзю азёрнае кола, і яно павольна стала падымацца са дна, вытыркаючыся на паверхню вострымі рабрынамі хваляў. Вера вяла хісткі човен праз гэтыя жы-

выя хвалі, сціснуўшы ў зубах тоўстую лёску, слухаючы толькі адно — дрогкае трапятанне зманлівай плотачкі на другім канцы дарожкі. Высокая хваля гучна разбілася аб задзёрты нос, за шыю, пераляцеўшы цераз увесь човен, пакаціліся пырскі.

І ў гэтае імгненне страх і агіда раптам боўтнуліся ў ваду, бы грудкі гліны, бо лёска нечакана наструнілася, задрыжала і адразу зляцела з вуха. «Шчупак!» — Вера кінула вясло на дно, схапіла лёску і павольна, ледзь стрымліваючы радасць, пачала падцягваць дужую, нястрымную ў сваім апантаным супраціўленні рыбіну. Веры здавалася, што яе сэрца ў гэтую хвіліну нечакана перамясцілася ў далоні, і праз напятую лёску чула адчайную барацьбу нечага вялікага, пругкага і хітрага. Не бачыла нічога, не разумела цяпер, што робіцца навокал, не заўважала, што човен закружыўся спачатку на адным месцы, а потым, пералятаючы з адной хвалі на другую, панёсся па возеры. І ў той момант, калі Вера ўжо стала падымаць шчупака з ашчэранай белай пашчай, човен з разгону ўдарыўся бокам аб старую калоду недалёка ад берага. Ён не перакуліўся, але дзяўчына не ўтрымалася і з выцягнутымі рукамі паляцела наперад, няўклюдна плюхнулася ў задыханае шалёнае возера. Ударылася плячом аб калоду, выпусціла з рук шчупака, нырнула з галавою, глытаючы ад страху мутную ваду. Калі першая разгубленасць прайшла, яна адчула пад нагамі цвёрдае дно, азірнулася і здзівілася, што каля калоды, на якой заўсёды паласкалі бялізну, стала так глыбока, быццам вада паднялася сама над сабою. Пашукала вачамі дарожку, але дзе там. Ні дарожкі, ні шчупака! Чорнае кола возера біла ў плечы, і Вера, сціснутая з усіх бакоў нейкай шурпатаю вадою, бы ўкінутая ў мокры мурашнік, павольна памагаючы сабе рукамі, пайшла да берага.

І раптам спынілася, здзівілася, засаромелася, быццам была голая, і ўсунулася, прысеўшы, у ваду па самыя плечы. На беразе стаялі і рагаталі з яе Андрусь і Генька. Дакладней, смяяўся толькі Генька. Яго дробны смех рассыпаўся і лопаўся вакол дзяўчыны, як бурбалкі на вадзе. Ён не быў здзеклівы, гэты смех, вядома ж, не, але такі вясёлы і шчыры, што яна не ведала, куды падацца. Хоць ты ідзі назад, у разварочанае навальніцаю возера.

— Чаго зубы сушыш, дурань!

Яна крычала на Геньку, а ён смяяўся яшчэ мацней, яна нават заплакала, але Генька ніяк не мог супакоіцца.

Маўчаў толькі Андрусь. Пазіраў на яе вялікімі, як слівы, вачамі, аціраючы з ілба цёмныя, мокрыя ад дажджу валасы.

Яна павольна выходзіла з возера, усім целам адчуваючы, як да яе, сабе самой цяпер чужой і незразумелай, як адзервянелай, прыліпла мокрае адзенне.

Генька раптам аціх, бы каўтануў нечага, прысеў, упёршыся далонямі ў калені, і закрычаў праз дождж і грознае гудзенне возера:

— Ты глянь, Андрусь... У яе ж грудзі — во! Ты толькі паглядзі!

Вера падняла ад нечаканай абразы твар, дакранулася рукамі да гарачага аблічча, растуліла вусны, каб нешта адказаць, але слоў чамусьці не знаходзілася.

Дадому пабегла напрасткі, палезла па высокую пясчаную кручу, што пахмурна навісла над берагам. Пясок быў збіты дажджом, камякамі прыліпаў да голых пят, потым адрываўся і падаў уніз, як той абразлівы Генькаў смех, і Веры здалося, што яна цягне з сабою ўсю гэтую цёмную мокрую гару. Чым вышэй узбіралася, тым усё цяжэй было адрываць ад зямлі ногі, па якіх непрыемна совалася спадніца.

Нарэшце спынілася, каб перавесці дыханне, паціхеньку азірнулася. Але Андруся і Геньку на беразе ўжо не ўбачыла. Перад ёю было толькі ўспененае, не зразумелае сваімі таямнічымі пагрозамі возера, і за цёмнымі дратамі густых карчоў яе, Верын, позірк, здавалася, пакаціўся па шалёных хвалях.

І тады ў хвіліну раптоўнага трызнення ўзнікла нябачная, але адчувальная, празрыстая і таямнічая сцяна адчужэння. Яна адсунула ад Веры і слюдзянае возера, і гэты непрыемны вецер з дажджом. Здалося, што над галавою ўзняўся вялізны каўпак, пад якім нічога не чуваць і не відаць. Толькі вось думалася пра нешта новае, нядаўна ўведанае. Вера як бы зазірнула ў сваю душу, у глыбіню сваёй істоты, прыслухоўваючыся да гарачыні, якая затапіла ўсё яе цела, пачала падымацца вышэй і вышэй, да самых вуснаў. Дзяўчына закрыла далонямі вушы і пабегла, балюча націраючы калені мокраю спадніцаю, ад гэтага навальнічнага возера.

Назаўтра маці, як чуючы бяду, падышла да Веры, памацала яе гарачы лоб, завойкала і вылецела з хаты. Прыбегла фельчарка, насыпала на стол нейкіх таблетак ад прастуды і сказала, што трэба паляжаць і перапацець. Села за стол, паклаўшы перад сабою вялікія і белыя, як параная рэпа, кулакі. Балбатала, часта аблізваючы языком тонкія вусны, успаміназа, пазіраючы на фотакарткі ў рамках на сцяне, пра іхніх сваякоў. Пагаварыла аб сваім Петруку, што не вярнуўся з вайны. Гэтак жа, як і Верын бацька. Але ў голасе фельчаркі было нешта абыякавае, чужое, нават бесклапотнае, нешта такое, што насцярожыла дзяўчыну. І зноў з'явілася адчуванне адзіноты і разгубленасці, нават агіды. Вера глядзела са свайго ложка на фельчарку праз сваю празрыстую сцяну, абмацвала вачамі непрыгожа ўскудлачаныя бляклыя кудзеркі, яе вялікія і па-мужчынску высокія плечы.

Менавіта з гэтых плячэй, а не з шыі, звісалі на грудзі жоўтыя, набітыя крапінкамі вялікія пацеркі. Як нанізаныя на нітку вераб'іныя яйкі. Здалося, што калі ўзяць і стукнуць па іх, дык яны адразу патрушчацца і пацякуць на чысценькай фельчарскай сукенцы. Вера нават адвярнулася да сцяны і нацягнула на галаву коўдру.

Было гарачае лета, але Вера хварэла доўга. І з кожным днём заўважала ў сабе нейкія змены, бачныя толькі ёй адной. Тая сцяна пасталення як бы падсоўвалася да Веры ўсё бліжэй і бліжэй, дакранулася да грудзей і рук, а ноччу расплывалася, як вада, па яе гарачым сонным целе, налівала яго пругкасцю і новай сілай.

...Вера адужала праз два тыдні. І — закруцілася. З раніцы цягала балотную траву, палола на сотках бульбу, даіла карову. Рукі рабіліся шурпатымі і чырвонымі, як абдзёртыя конскімі капытамі буракі. Нанач мазала іх алеем, але раніцаю пачыналася бясконцая ўтомная работа, і рукі зноў грубелі і чырванелі.

Аднаго разу ў нядзелю вечарам Любка, пасатая, бы качка, Верына сяброўка, сказала ў дзявочым гурце, што ў краму прывезлі прыгожыя пацеркі. Усё хваліла, трашчала пра іх, як гарох смажыла. Раніцаю, ледзь дачакаўшыся прадаўшчыцы, Вера следам за ёю ўвайшла ў краму і, не адрываючыся, глядзела на тыя недасягальныя пацеркі. Гэта былі ярка-чырвоныя шкляныя крывінкі, што, здавалася, маглі б рассыпацца ад дотыку яе шурпатых пальцаў.

Пацеркі адразу ж зрабіліся марай. Спачатку Вера забягала ў краму кожны дзень і з усмешкаю любавалася гэтым шкляным цудам, потым супакоілася. Але ж ненадоўга.

Усё вярнулася, як толькі ў вёску пачаў прыязджаць рамізнік Галаваты і стаў купляць усюды су-

шаны аер. Галаваты ўладкоўваў на возе мяхі з высахлымі каранямі, плацячы за іх вельмі мала. Але гэта былі ўжо грошы, і Вера як ашалела ад жадання купіць пацеркі. Яны нават пачалі сніцца ёй, як уласныя, апякалі шыю і грудзі жывымі вугельчыкамі. Вера стагнала і прачыналася ад жаху. Бо снілася яшчэ, што пацеркі зрываліся з грудзей і сыпаліся ўніз, бясконца скочваліся па Верыным целе халоднымі казытлівымі пярсцёнкамі. Раніцаю сонца адразу ж змывала з памяці начныя відовішчы, і пацеркі зноў звабліва стаялі перад вачамі.

Ад самай бульбінкі пругкага аернага сцябла адпаўзаў доўгі, амаль метровы, корань. Бы вялікі вуж, які зашыўся ў мяккую глебу, халадзіў белае чэрава аб вільготную зямлю, ляжаў, падняўшы над сабою вастрадзюбы бліскучы язык ліста. Зверху аерныя карані былі бурачковыя, падсмажаныя сонцам, зеленаватыя на тоўстых вузлах.

Усё анямела, астыла, густа ўзялося сухімі пераплеценымі травінамі, бы ляжала на гэтым балоце без руху доўгія гады. Спачатку трэба было разарваць нераблытаную сетку высахлай травы, потым узяцца за сцябло і, пацягваючы яго ўверх, падцінаючы нажом знізу тонкія траскучыя нітачкі белых павуцінак-адростачкаў, падымаць корань ад зямлі. Сантыметр за сантыметрам.

Вера знайшла гэтую аерную лапіну яшчэ раніцаю. Знізу карані былі салатавыя ці белыя, ад зямлі адрываліся вельмі лёгка. Толькі пацягнеш — і тоўстая вяроўчына з ціхенькім патрэскваннем адразу ж аддзяляецца ад свайго доўгага, з акруглым днішчам логава. Цвёрдая скура кораня блішчала, казытала пальцы гладкай паверхняй, але адчувалася, што ўнутры яго няма добрага пругкага мяса. Усё як набітае старою вільготнаю ватаю.

«Э, не,— падумала сама сабе Вера.— Такія многа не заважаць. Колькі хочаш пасушы, а сорак тры капейкі не будзе...»

Яна пайшла далей, узваліўшы на плячо свой небагаты набытак. Ішла па гразкім, дзе-нідзе паточаным рэдзенькімі кусцікамі травы беразе, і з-пад ног непрыемна чвякалі і разляталіся ў бакі і ўверх густыя чорныя струмені. Падышла да тоненькіх, але доўгіх аерын, нагнулася і памацала адзін з каранёў. Той быў не вельмі тоўсты, але ішоў углыбіню, як шукаў зямлі. Вера ўзяла нож, пачала здзіраць зверху тарфяністы дзірван, разварочвала яго ў розныя бакі, старалася падняць руды корань. І той нехаця, як бы працівячыся, выцягваўся са сваёй вільготнай нары. Вера супакоілася, узрадавалася, бо корань быў вельмі цвёрды, як драўляны.

«Такіх накапаць, дык і заважаць добра!» — усміхнулася яна сама сабе і, падаткнуўшы, як маці, спадніцу, апусцілася на калені, час ад часу здзьмухваючы з ілба валасы.

Мех напоўніла хутка, узваліла яго, заляпаны балотным глеем, па плечы, пайшла да чоўна. Пераправіўшыся на свой бераг, ледзь давалаклася дахаты, разаслала на прызбе старую дзяружку і пачала класці на яе карані, абтрасаючы іх ад лішняй травы і бруду. Падскочыў ганарлівы певень, глянуў адным, як у Галаватага, вокам на гаспадыню, смешна паторгаў пер'ем на шыі, потым высока падняў галаву і гучна закрычаў. Вера махнула на яго рукою, задаволеная сабой і сваёй работай, падалася да калодзежа. Выцягнула вады, выліла яе ў начоўкі, што стаялі збоку, пачала мыцца. Абцерла сцюдзёнай вадой абветраны твар і рукі, абмыла ад прыліплага засохлага бруду ногі, пастаяла на двары, адчуваючы, што цела на ветры казытліва абсыхае. У хаце яшчэ раз абцерла з сябе грубаватым палатняным ручніком

свежы вадзяны дух, пераапранулася ў сваю тонепькую, з выліпялымі кветачкамі сукенку. І адразу стала цёпла і ўтульна, па ўсім целе мякка паплыў густы хатні пах — і вымытай з раніцы падлогі, і печы, і маленькіх акон, зацененых павуцінiстымі клубкамі міртаў. Гэтая хатняя ўтульнасць даверліва цікала са сцяны звонкімі ходзікамі...

Сорак тры... Сорак тры... Сорак тры...

Вера засмяялася, успомніўшы, што зможа нарэшце дакласці да трох рублёў, зароблепых на аеры, гэтыя доўгачаканыя сорак тры капейкі. Якраз хопіць, каб купіць у краме тыя сонечныя слёзкі-пацеркі.

Аер высах праз тры дні. Вера склала яго ў мех і кінула дасушвацца на гарышча.

Сымона Галаватага вяскоўцы чакалі толькі ў нядзелю. Ён заўсёды прыязджаў з самай раніцы, рыпеў пад вокнамі старымі коламі, паспяваў да абеду аб'ездзіць і абкрычаць амаль усю вёску, а пасля загапяў натаптаную стракатымі ношкамі і мяхамі фурманку ў двор да Муньці, сваёй далёкай сваячкі, малой ступы з жоўтымі і надзіва вялізнымі, бы насенныя агуркі, зубамі. Мунька апошнім часам усё часцей заходзіла да іх, гонячы ў хату непрыемны дух ад ватоўкі, такой зашмальцаванай і бліскучай на грудзях, што Веру як выстрэльвала ў двор.

Заглядвала праз расчыненае акно, ад злосці сціскала ў нітачку вусны, чакала, але Мунька ў сваёй не па-летняму цёплай ватоўцы ўсё сядзела і сядзела ў хаце, расказвала пра Сымона, хітра паглядваючы на маўклівую, насцярожаную маці.

Неяк у пятніцу Мунька забегла да іх ні свет ні зара, паведаміла, як пра нешта важнае, што прыехаў Сымон, каб управіцца сёння, бо заўтра ж і паслязаўтра свята, нагнала ў хату гнілога паветра ад сваёй ватоўкі і знікла за дзвярамі. Вера толькі рас-

плюшчыла вочы, разбуджаная госцяй, падняласся і скоранька затупала па хаце. Злавалася, усё нечым бразгала, шоргала, не разумеючы, адкуль у яе такая непрымірымая нянавісць да Муньці і Галаватага. Кідалася з кутка ў куток, усё папраўляла. А маці моўчкі сядзела за сталом і назірала за дачкою сумнымі, занепакоенымі вачамі.

Вера пабегла ў сенцы, сцягнула з гарышча шарготкі мех з аерам і паважыла яго ў руках. Сумеўшыся, прысела на старыя драбіны. Мех быў надзіва лёгкі.

— Ты чаго, Верка?

Маці падышла да яе, падняла мех, уздыхнула.

— То добра ж насушыла. Малайчына ты ў мяне... Трохі мо й будзе...

З самага першага дня, калі Вера толькі пачала капаць і сушыць аер, маці сказала, што на зробленыя грошы дачка можа купляць усё, што захоча. Быццам зразумела, убачыла, адчула сваім матчыным сэрцам тую перамену, якую сама Вера не хацела ў сабе бачыць. Маці ні разу не запытала, колькі ўжо зароблена, а Вера чамусьці сарамліва хавала свае першыя ўласныя рублі пад старое люстэрка, нібыта баялася гэтых самастойна зробленых грошай.

Дзяўчына сядзела сумная, насупленая, нерухомая, бы прыціснутая да драбін матчынымі рукамі. Але вось далоні тыя быццам памякчэлі, паплылі па плячах, па Верыным твары, і здавалася, што матчыны рукі пра нешта пыталі ці прасілі спагады і разумення. Не магла выдыхнуць паветра, нейкі жаль раптам сціснуў горла ў тугую спружыну, гатовую ў любы момант выштурхнуць з душы цэлае возера слёз, назапашаных за апошні месяц сарамлівага дзявоцкага роздуму.

— Я пацеркі куплю... Тыя, што ў краме... Чырвоныя.

Маці гладзіла яе па галаве, мацала-перабірала пальцамі тонкія коскі, і Вера нечакана для самой сябе ўткнулася носам у яе мяккі жывот. Чакала адказу на яшчэ не ясныя, не знойдзеныя дакладна пытанні, быццам прасіла яе растлумачыць усё тое новае, але глыбока схаванае ў душы. А калі першая хваля роднасці апала, здзіўлена адчула, што ў матчынай лагодзе, у яе дрогкіх пальцах і наструненым маўчанні таксама ёсць нейкая глыбокая трывога. Нібыта маці хацела пра нешта расказаць, аб нечым параіцца, але ніяк не магла перасіліць сябе, пераступіць праз нейкі парог.

Вера падняла галаву, пацерла пальцамі свае густыя жоўтыя бровы, намагаючыся зразумець незразумелае. Але маці толькі пацалавала яе і хутка пайшла ў хату.

Дзяўчына працягнула да мяшка з аерам руку, паднялася з драбін, паважыла яго, падняўшы. «Не будзе сорак тры капейкі... Вунь той раз які быў, а толькі трыццаць капеек Галаваты даў!» Яна то апускала, то зноў падымала гэты нікчэмны мех, але ён зусім не цяжэў. Хутчэй наадварот, рабіўся ўсё лягчэйшы, быццам пры кожным дакрананні да зямлі паступова аддаваў ёй сваю вагу.

Вера напоўнілася злосцю, з усяе сілы, балюча ўдарыла кулаком аб рабро драбіны, ледзь не заплакала. Праклінала і Галаватага, і гэты аер, і тыя недасягальныя, бы нябесныя зоркі, пацеркі.

— Галубачкі мае, сю-д-ды! Го, бабачкі, го-го! Цветам вязана, мёдам мазана!

Крык Галаватага дакаціўся да сенцаў, як густое рэха з далёкага ранішняга лесу, страсянуў Веру, вялікай жменяй выцягнуў з яе ўсе іншыя развагі.

«Дык не будзе ж сорак тры, не будзе! Захацела чаго... Не будзе, і ўсё тут...»

Думалася толькі пра пацеркі. Нібыта ў тым пры-

мроеным шкляным харастве змясцілася ўсё багацце свету, уся яе дзявочая душа. У нейкім утрапёным забыцці Верыны рукі раптам перасталі слухацца нутраных пратэстаў, рабілі нешта сваё, незразумелае, паганае.

«А чаго там баяцца?! А што, так усе робяць!.. А я, доўбня, ніколі яшчэ...» Яна схапіла раптам вялізную цагліну, пачала, дрыжучы ад хвалявання, разварочваць жоўтыя і цвёрдыя, бы высахлыя яшчаркі, карані, глыбока засунула ў іх цагліну, зверху схапіла мех вяроўчынай і павалакла яго на вуліцу.

Сымон Галаваты чапляў мех на кручок бязмена, доўга важыў яго. А Вера стаяла перад ім настрыненая, празрыстая, бы нацягнутая рыбінай лёска, нічога вакол сябе не бачыла. Чула толькі адзінае, заціснутае ў памяці: «Цагліна!»

Галаваты быў вялікі, у расшпіленым і шырокім, бы хлеў, пінжаку, балюча праціnaў яе сінім ледзяшом адзінага вока. Халадзеючы нутром, Вера чакала, што ён зараз засуне руку ў мех, намацае ў аеры цагліну і тады сорам панясе яе праз усю вёску. Праклінала сябе, не магла паварушыцца, быццам усярэдзіну насыпалі жару.

Але рамізнік спакойна кінуў мех на фурманку і разлічыўся. Сціснуўшы ў кулаку гарачыя і, здавалася, жывыя, як растрывожаныя пчолы, капейчыны, Вера павольна ішла дахаты. Шчыльна зачыніла за сабою дзверы, асцярожна высыпала мокрыя, ліпкія грошы на стол. Было роўна сорак тры капейкі.

Яна ўпала на ложак, халодзячы твар падушкаю, вырываючы з сэрца сорам, але ўсё цела балела, не магло расслабіцца, як прыбітае той вялікай бруднай цаглінай. Ведала, што такое з ёю больш ніколі не паўторыцца. Ніколі ў жыцці. І адразу адчула, што купляць пацеркі яна ўжо не пойдзе.

Назаўтра з самай раніцы па вёсцы вострымі паха-

мі, крыкамі дзятвы, заклапочанымі перамовамі кабет пакаціўся асаблівы святочны настрой. Гаспадыні ў хатах чысцілі і прасавалі, пяклі і смажылі, запаўняючы вуліцы і падворкі звонам вёдраў каля студні, густым водарам свежаспечанага хлеба, бясконцым бразганнем клямак і рыпеннем варот. Заўзятыя рыбакі ставілі на чаўны вялікія, бы пчаліныя калоды, клуні, асцярожна веславалі на другі бок возера, зашчацінены травой і густымі барадамі аеру, плылі асцярожна, баючыся паварухнуць глыбока ўціснутыя ў ваду чаўны.

Дзеці чакалі свежых булак, рыбы, цукерак, расхвалявана тупалі следам за маткамі. З другога канца вёскі час ад часу, прымерваючыся, бухаў у свой вялізны бубен дзед Васька, без якога не абыходзілася ні адно свята. Бухаў, каб пачулі ўсе.

Толькі пасля абеду Вера надзела сінюю шаўковую блузку, якую маці шыла сабе. Нават не адмаўлялася, але маці чамусьці ўсё хваліла і хваліла прыгожую абноўку, гэтак жа доўга, як бялізну выкручвала, упрошвала дачку пайсці на танцы.

Верка здзівілася матчынай трывозе, сказала, што сёння ніхто ў хаце не ўседзіць. І яна ж, вядома, пойдзе на тыя танцы. Хутка ўжо і малыя, і старыя, і ўсе-ўсе пацягнуцца да белага грудка на беразе, дзе заўсёды збіраліся пасля святочных застолляў.

Новенькія шкарпэткі прыемна лашчылі ногі, здалося, што ад іх панавелі і старыя басаножкі. Усё было добра.

Але ўпартыя матчыны ўгаворы зрабілі сваё. І ад новай шаўковай блузкі, што казытала плечы, і ад новенькіх шкарпэтак, і асабліва ад гэтага матчынага клопату ў сэрца пайшло трошкі прыкрае адчуванне важнасці гэтых танцаў. Важнасці для яе сёлетняй, амаль дарослай дзяўчыны. А маці ўсё ўгаворвала спяшацца, выцягвала і прымярала на сабе

пашытыя ў розныя гады блузкі, акуратна зашпільвала спадніцу і ўсхвалявана тупала нагамі ў старых чабатках. Была ўся такая мяккая, зграбненькая, як ласачка. І Веры на момант здалося, што ўся яе гаворка была адрасавана не толькі ёй, Веры, але і самой сабе. Дзяўчына глядзела на худзенькі, востранькі, як гарохавы стручок, матчын тварык, пазірала ў яе вялікія, бы чужыя на гэтым зморшчаным тварыку, зялёныя вочы, спыніла позірк на нічым не абароненай ад маршчынак шыі і падумала, што заўтра ж пойдзе ў тую краму і купіць для маці прыгожыя пацеркі. Тыя, што хацела купіць сабе.

Маці была нейкая не такая, не ранейшая, і ўпершыню за доўгі час Вера нечакана для сябе самой глянула на бацькаву фотакартку ў простай рамачцы на сцяне, амаль забытага, які існаваў толькі ў прывіднай памяці маленства. Ды і як было помніць, калі перад вайною ёй было толькі пяць гадкоў. І ўсё ж вось тут, на гэтай фотакартцы, быў яе адзіны, яе родны бацька.

Маці перахапіла Верын пагляд і адразу замаўчала, як парвала туга напятую нітку свайго ўтрапёнага жаночага клопату.

— Верко-о-ў! Ай, хадзі ўжэ, хопіць там збірацца!

Вера падбегла да акна, зірнула і ўбачыла каля варочечкаў апранутую амаль ва ўсё новае, як і яна, Любку, кінулася з хаты.

Нават не павітаўшыся, нібыта разумелі адна адну і без слоў, дзяўчаты хутка пайшлі да возера.

Каля грудка было ўжо людна. Дзед Васька шчыраваў над сваім бубнам пад Пілітаў гармонік, п'яныя мужчыны, як заведзеныя, круцілі вакол сябе расчырванелых кабет. Паміж танцораў насіліся, апалеўшы ад свята, стрыжаныя пад баранчыкаў хлапчукі, ганяючыся адзін за адным, старыя бабулі ў белых вышываных фартухах на жываце, як нізенькія, тоўстыя

гускі, стаялі трохі воддаль і нашэптвалі на вуха адна адной.

Дзяўчаты і хлопцы, разбіўшыся на асобныя групкі, пераміргваліся і перакідваліся жартамі, і кожны паводзіў сябе так, быццам толькі на яго аднаго глядзела ўся вёска.

Вера і Любка стаялі трошкі ў баку ад усіх дзяўчат, сарамеючыся святочнага гаманкога натоўпу, нясмела тузалі за край белыя хусцінкі, насцярожана чакалі, калі да іх яшчэ хто-небудзь падыдзе. Потым неяк неўпрыкмет для саміх сябе падціснуліся бліжай да танцораў, змяшаліся з людзьмі, і святочны прыўзняты настрой адразу адкінуў убок няўпэўненасць, змёў, бы шкарлупінне са стала, няясную трывогу, расхваляваў і падбадзёрыў.

Вера нечакана адчула на сабе нечы позірк і адразу азірнулася. Недалёка ад іх з Любкай у белых вышытых кашулях стаялі Андрусь і Генька. Андрусь глядзеў проста на яе, на Веру, і яна, як працятая гэтым тонкім і вострым, бы каса, позіркам, адразу адвярнулася, загарэлася ўся, пачырванела, і душы зрабілася цесна і трывожна. Краем вока ўбачыла, што прыйшла маці, стала каля Мунькі, якая нарэшце злузала з сябе страхалюдную ватоўку і адразу ж памаладзела ў новенькай ружовай кофце. Мунька смяялася, бліскаючы вялізнымі зубамі, проста ў матчын твар, няўмела, бы стрыножаная, прытопвала нагамі, а маці, як здалося Веры, неяк вельмі ўважліва слухала суседку, нахіліўшы да пляча сваю маленькую галоўку.

«І зусім яна не старая... Заўтра ж пайду ў краму і куплю ёй тыя пацеркі... От жа куплю...» — думала Вера, пазіраючы ўніз, на свае шкарпэткі, і раптам спалохана падскочыла, адчуўшы на плячы нечую руку. Гэта быў Андрусь.

Любка толькі глуха гокнула ў свой вялізны нос, але Вера нават не зірнула на яе, пайшла ў круг, ледзь чуючы адзервянелымі нагамі зямлю.

Было цесна, і яны танцавалі збоку, баючыся п'яных штуршкоў. Рука Андруся, цвёрдая і шырокая, бы лапата, важка ляжала на яе стане, а рука Веры ў Андрусевай далоні адразу ўспацела, зрабілася непрыемна чужой. Вера нават баялася паварушыць пальцамі. Спачатку бачыла толькі ягоны падбародак і шыю з вострым дзюбатым кадыком, за які Андруся так і дражнілі — Кадык. На каўняры сарочкі бухмаціліся зялёна-чырвоныя крыжыкі вышыўкі. Ад Андруся чамусьці пахла кропам і табакай, і Вера падумала, што ён ужо напэўна курыць. Насмеліўшыся, падняла галаву. Зверху на яе пазіралі вялізныя і нейкія глыбокія, бы чаўны, вочы, плылі перад ёю, былі чорныя і ўтрапёныя, але ўсё роўна як невідушчыя.

Яна ўбачыла яшчэ і ягоныя вусны, вялікія, пругкія, бы абведзеныя цёмным дроцікам.

Руцэ стала лягчэй, пальцы наліліся гарачым і памякчэлі. Але насцярожанасць не знікла.

Яны павольна ішлі па крузе, і бубен дзеда Ваські гудзеў зусім блізка. Андрусь удыхнуў паветра, як перад нырцом у возера, пастаяў імгненне на месцы і раптам моцна прыціснуў яе да сябе. Веры адразу здалося, што дзед Васька б'е ўжо не па сваім старым бубне, а па яе гарачых вушах. У галаву пайшоў туман, але яна неяк пакорліва, палахліва ішла ў танцы, з нецярпеннем чакала яго канца, як збавення ад гэтага прыкрага сораму. Не магла адштурхнуць Андруся.

І раптам як застыла. Зусім блізка ад іх танцавалі Сымон Галаваты і маці. Чырванатвары і потны, у расхрыстаным пінжаку, Галаваты тупаў на месцы, бы забіваў у грудок падэшвамі драўляныя калкі, на-

смешліва і непрыгожа пазіраў сваім сінім ледзяшом на яе і Андруся. Потым нахіліўся над маці і нешта шапнуў ёй. Побач з ім маці здавалася яшчэ меншай, але Вера адразу заўважыла, што па яе твары расплыліся чырвоныя плямы. Маці ўсміхалася, шчасліва адкінуўшы назад галаву, пазірала на Галаватага такімі вялікімі і жаласлівымі вачамі, што Вера не вытрымала. Адштурхнулася ад Андрэя і, не разбіраючы дарогі, пачала прабівацца паміж людзьмі.

І тут нечакана пачалося нешта незвычайнае. Усе закрычалі, забегалі навокал, задраўшы ўверх галовы, замахалі рукамі. Вера падняла вочы і ўбачыла цуд. Там, уверсе, над іхнімі танцамі, ляцеў самалёт. Ён ляцеў вельмі нізка, вялікі і светлакрылы, з яркімі чырвонымі зоркамі. Вера ўбачыла ў кабіне лётчыка ў чорным шлеме, які ўсміхаўся з вышыні, нешта крычаў, нават памахаў рукою.

Самалёт аддаляўся, а людзі, упершыню так блізка ўбачыўшы жывую жалезную птушку, усё яшчэ не маглі супакоіцца. Вера засмяялася і пачала азірацца. Якраз каля яе стаяла, адкрыўшы бяззубы і вялізны, як пуня, рот, старая Грыбіха, хрысцілася і адціскала ўбок малога ўнучка.

Бубен дзеда Ваські ўсё бухаў і бухаў, Вера павяла вачамі ў той бок, і яе радасць адразу патухла, усмешка саслізнула, сарвалася з твару, як плотачка. Там, каля гарманіста, стаяў Галаваты, прыціскаючы да сябе яе, Верыну, маці. Маці была такая радасная, як п'яная, і дзяўчына кінулася ад гэтых танцаў дахаты.

У хаце, хоць было яшчэ светла, паслала ложак, але, не скінуўшы нават адзення, легла на коўдру. Як пасля доўгага рабочага дня. Ляжала, напэўна, бясконца, зморaная і змучаная, слухаючы далёкія галасы і смех, варочалася, пакуль не заснула. Паплыла ў свой трывожны сон, у піліканне гармоніка і буханне

бубна, закружылася ў руках Андруся. Бачыла яго вялікія ружовыя вусны, што нахіляліся над ёю. Вера адпіхвалася ад Андруся з усяе сілы, але рукі былі чужыя, непаслухмяныя, і Андрусёвы вусны раптам прыцiснуліся да яе вуснаў, былі гарачыя і салёныя. Веры было так сорамна і брыдка, што яна сілілася адвярнуцца, збегчы ад тых упартых пацалункаў хоць на край свету, хоць у тое чорнае глыбокае возера. І возера прыйшло да яе само. Андрусь знік, на грудзі Веры наваліліся важкія хвалі, вырвалі з рук доўгае весла, за якое яна трымалася на вадзе, пагналі яе ў сваю бяздонную прорву.

Было холадна і страшна. Вера ўбачыла блізка каля сябе маці, каля якой плыў і Сымон Галаваты, размахваў перад сабою доўгімі рукамі і груба штурхаў маці на дно, пад пругкае азёрнае кола. У яго руцэ раптам з'явілася тая самая Верына цаглiна, Галаваты падняў яе над матчынаю галавою, нібыта хацеў ударыць.

Возера шалела, кіпела ад пены, а маці неяк падзіцячы бездапаможна біла далонямі па вадзе, як абаранялася ад Галаватага, і крычала:

— Сымон... Сымон... Сымон...

Вера раптам зразумела, што яна ўжо не спіць, а матчын голас чуецца ўжо не ў сне.

— Сымон, ды ціха ты! Адчапіся, аднак!.. Сымонка...

Вера расплюшчыла вочы і адразу ж убачыла шырокую, бы сцяна, спіну Галаватага. Побач з ім на лаве за сталом сядзела і маці. Галаваты прыціскаў яе да сябе, кусаў, жартуючы, за вуха, а маці ціхенька здаволена смяялася і ўсё нешта гаварыла і гаварыла яму. Галаваты выпрастаўся, павёў далонню па валасах.

— То я, можа, перабяруся заўтра... Добра?

Маці ўздыхнула, але так глыбока і радасна, што Вера ажно сціснулася пад няяркім святлом, як пад дзёрнам, халодная і ўзрушаная. Перад вачамі паплылі вялікія жоўтыя медзякі, дыханне ў грудзях як сціснула абцугамі, яна паварушыла зацёклымі ад доўгага ляжання нагамі і нечакана зарыпела ложкам. Тыя, за сталом, адразу павярнулі галовы. Не вытрымаўшы спалоханага няўцямнага позірку маці, Вера падхапілася з ложка, стала на ногі і адразу ўбачыла, што на стале каля бутэлькі з гарэлкай ляжаць тыя самыя пацеркі, якія яна збіралася заўтра купіць.

Доўгая бліскучая нізка пагрозліва скруцілася на жаўтаватым, пашчэрбленым стале, як жывая. Вера ўскрыкнула ад страху і агіды і кінулася з хаты.

Было відна, як удзень. У небе свяціла вялізная і чырвоная поўня, мігцелі высокія, не па-летняму чужыя і халодныя зоркі. Як растрэсеныя па ўсім небе шкліны. Здавалася, што яны ціха і мігатліва асыпаюцца. Зоркі падалі ў возера, але не танулі, а лёгка трымаліся на паверхні, і Веры бачылася, нібы на цвёрдай і бліскучай вадзе нехта паставіў і запаліў мільёны газнічак.

Здавалася, што спыніўся час, заціхла асветленае небам і зорным возерам паветра.

Вера сядзела на чоўне, адчуваючы спінаю начны холад, слухала, як там, перад ёю, у глыбіні возера, круціцца магутнае кола, марудна варочае вакол сябе вялізных шчупакоў і плотак, размяклыя пукі згубленага сена. Аднекуль з вышыні наляцела глухое шапаценне — ці то зорак, ці то паднятых над зямлёю вятроў, ці далёкага вясковага дыхання. Але ў гэтых таямнічых перазовах і перашэптах Вера чула толькі адно, прыцярушанае начною цемраю нецярплівае:

«То я, можа, і перабяруся заўтра... То я, можа, і перабяруся заўтра...»

Разам з тым шаптаннем перад вачамі пачыналі кружыцца розныя абліччы. То Андруся, з вялікімі ружовымі вуснамі. То Галаватага, з халодным вокам на твары. То матчына, худзенькае і востранькае.

Не, гэта здалося, што час прыпыніўся, што жыццё сцішыла хаду сваіх магутных жорнаў, што аняметае паветра стала мёртвым. Усё навокал гуло, грымела, звінела і клікала да сябе, у невядомую, але немінучую далеч, усё працягвала сваё спрадвечнае вярчэнне.

Яна не здзівілася, калі нехта ступіў у човен. Хто ж яшчэ, як не маці. Ведае, дзе Вера любіць пасядзець. Праўда, цяпер ужо ноч, а не вечар. Матчыны рукі гладзілі яе па галаве, прасілі спагады і дазволу на нейкае не зразумелае Веры каханне, асцярожна павесілі на яе шыю тыя самыя пацеркі. Вера ледзь не задыхнулася ад злосці, рэзка падняла руку, каб сарваць іх і кінуць у возера, але маці моцна прыціснулася худзенькім тварыкам да Верынай шыі, абняла яе за плечы і шапнула ў самае вуха:

— Як ты захочаш, так і будзе... Як ты захочаш... Верачка! Верачка...

У гэтым матчыным шэпце было столькі горычы і слёз, што дачка абмякла, зразумела, паверыла ў тое нечаканае матчына шчасце, хоць ад пацерак у грудзях было сцюдзёна і трывожна.

Перад імі варочалася магутнае возера, лашчылася, гуляла з лёгенькім чоўнам, слухала святочны звон высокіх зорак на цёмным небе.



# ПЕРАЙСЦІ РАКУ

Над вадою ўсё дыбіўся туман, уцягваў у сябе халодную стынь возера, і яно пасля ночы спалохана заціхла. Гусіныя чародкі, адлучаныя ад вясковых двароў да самай восені, адплылі і схаваліся ў глыбіні яшчэ нясмелага світання. Возера толькі зрэдзь часу хрыпла азывалася гусіным геганнем і рэзкім палопваннем крылаў, але ўсё роўна як не адчувала само сябе. Было, здаецца, безуважнае да людзей, што ў такую золкую рань паспешліва, пераганяючы адзін аднаго, бегалі па птушыных прыстанішчах і раз-пораз нагіналіся, збіраючы пер'е. Бераг быў ім як засеяны, кожная пярынка, вычасаная начным грабянцом з гусінага футра, перламутрава пабліск-вала, вытыркалася ўверх ружаватым асцяком, трымаючы на мохрыках дробныя кропелькі расы.

Вользе здавалася, што яна ступае па каляным мокрым снезе. Але на душы было горача і неспакойна, бо ні на хвіліну не пакідала трывога ад чакання сустрэчы. Яна міжволі азіралася, шукала вачамі знаёмую постаць, хоць добра ведала, што Рыгор, пэўна, яшчэ спіць. Ды і навошта яму ісці сюды так рана. Як ні старалася Вольга вырваць з душы гэтую

патаемную стрэмку, як ні стрымлівала сябе тым, што Рыгор хутка паедзе ў свой горад, усё роўна і сэрца раз-пораз насцярожвалася, і вочы рабілі сваё: шукалі, выглядвалі, лавілі... Хацелі бачыць яго.

Набегалася, затое набіла пер'ем амаль усю торбачку, прывязаную да пояса. Тая зрабілася мокрай і важкай, нацягнула вяровачку-апаяску, апусціўшыся і б'ючы па каленях.

Тумановая гара ўсё яшчэ чаплялася сівымі пасмамі за нізкія бугрыстыя берагі, але раніца набірала сілу. Ярка-чырвоны, быццам крывавы, шнурок зары з супрацьлеглага берага раптам ударыў па самай сярэдзіне возера, пачаў імкліва расцякацца па яго бліскучым халодным шкле. Туман тут жа прыбляк і парадзеў, на імгненна паружавелую азёрную гладзь апусцілася першае хрусткае праменне. Яго спічастыя казачныя вежы пераліваліся мяккімі фарбамі — аж да самага неба, дзе ўжо вырасла і набіралася чырвані вялізнае ранішняе сонца.

Усё дыхала прастораю, выпрасталася і атрэсвалася ад санлівасці, росная парнасць шараватымі стужкамі цягнулася да бязвоблачнай вышыні. Але тут жа ў глыбокім небе ўспыхнулі вялікія і маленькія ярка-залатыя кругі маладога дня, і ўсё навокал стала празрыстым. Бліскучыя нябесныя колцы мігатліва кружыліся вакол нябачных восяў, апускаліся ўсё ніжэй і ніжэй, здаецца, сутыкаліся ў палёце вогненнымі абадамі, выкрасаючы такія зыркія іскрынкі, што нельга было глянуць на поўныя вочы.

Вольга зажмурылася, намацала, як аслеплая, варочкі, адчыніла іх. А калі нарэшце развінула павекі, перад вачамі зрабілася спачатку чорна, потым шуснуў сноп сонечных іскрынак. І нечакана ўбачыла проста перад сабою Рыгорава аблічча. Яно было цяпер нязвычна вялікае і скуластае, з шырока расстаўленымі зялёна-шэрымі вачамі. З іх на Вольгу

ўзіралася адразу некалькі маленькіх і птушыных, і рыбіных, і яшчаркавых вачанят-зрэнак. Як спрасаваных у адно...

У першы ж дзень, пры знаёмстве, Рыгор, Вользін стрыечны брат-студэнт, здзівіў яе гэтым незразумела-стоеным глухаватым позіркам, нібыта жыў не ў сталічным горадзе, а ў нейкай старадрэўнай пушчы. Спачатку Вользе ад таго позірку зрабілася няўтульна і зябка, потым трывожна, хвалююча... А праз тыдзень яна стала адчуваць сябе зусім блага, бо ўсюды, пры ўсялякай рабоце неадчэпна думала толькі пра Рыгора.

...Цяпер Рыгор стаяў перад самымі вароцечкамі, і Вольга як прачнулася, тузанула вышэй сваю мокрую торбу, ад якой на вярсту патыхала разапрэлым пер'ем, кінулася ў хату. Шпурнула абрыдлую торбу на печ.

Пераапрануўшыся, Вольга доўга мылася, усё палівала сама сабе з алюмініевага кубка, неасцярожна абпырскала вадою паркалёвую блузку. Нарэшце перадыхнула і супакоілася, з'ела, стоячы каля печы, два соевыя, чорныя, але ўсё роўна смачныя блінцы. Выйшла ў двор. І адразу ж, толькі зачапіўшы вокам недалёка ад замшэлага калодзежа Рыгораву постаць, шуснула ў гародчык за хлявом, пачала палоць маладую цыбулю. Нават забыла накінуць што на галаву, нават не запытала ў яго, Рыгора, дзе маці з малым Сашкам.

Брацік Сашка з'явіўся на свет два гады назад, якраз тады, калі Вользе было ўжо шаснаццаць гадоў. Яна, як цяпер помніць, доўга не магла прывыкнуць да сваіх сястрынскіх абавязкаў, злавала і на маці, і на дзяўчат-равесніц, што не-не дый засмяюцца і зашэпчуцца, убачыўшы яе на вуліцы з малым Сашкам на руках. Аднак з часам усе звыкліся.

Вольга загарэлася ад сораму яшчэ раз толькі ў

дзень прыезду да іх Рыгора. Бо запытаў, весела і даверліва, ці не выскачыла Вольга замуж і ці не яе гэта малое. Пачуўшы, што Сашка — брат, і сам пачырванеў. Ведала чаму. Вользін бацька памёр гадоў пяць назад, падарваў на тартаку жывот.

Быў, напэўна, поўдзень. Разбухлыя ад спёкі цыбахі млява паблісквалі маладою тлустаю скуркаю. Вольга стомлена паднялася, як разагнула гарачы прэнт усярэдзіне, пайшла па разорыне, мякка ўсланай лебядою,— на прывялыя лісцікі сівым пылам апала сухмень. Ішла, разглядваючы свае брудна-зялёныя вільготныя далоні.

Маці была ўжо дома. Таропка паясніла Вользе, што хадзіла да фельчаркі рабіць Сашку прывіўку — там яшчэ і астаўся. З распушчанымі жоўтымі валасамі, такая маладая не па гадах і вялікая, бы летняя ліпа, маці, здаецца, запоўніла сабою ўсю кухню. Раз-пораз пацягвалася натомлена, сыпала жартамі, тупала па хаце, шукаючы сынавы штончыкі. «Во, адвяла сабе медыцынскі дзень»,— падумала Вольга, але нічога не сказала.

Праз акно было відно, што Рыгор, распрануты да пояса, робіць з ляшчыны новае вудзільна. Вользе ён здаўся цяпер нязвыкла высокім і худым, з вострымі, як абмянташанымі гарачым летнім ветрам, лапаткамі на загарэлай спіне.

Вольга помніла, што ўчора яны з Рыгорам дамовіліся збегчы на возера па рыбу, але першай не падавала знаку, чакала.

Рыгор накручваў на вудзільна лёску з чырвоным паплаўком, потым падняў галаву, быццам яго паклікалі, спачатку зірнуў на хату, потым павярнуўся і павольна, па-марацку шырока расстаўляючы ногі, пайшоў да плота.

Вольга не адрывалася ад акна. Там, каля агароджы, абапёршыся на вароцечкі і бліскаючы белым

гарбузіннем зубоў, стаяла іхняя суседка Анэлька, першая ў вёсцы пяюха і танцорка. Драбнатварая, зграбная, яна і цяпер неспакойна прытупвала на месцы кароценькімі худаватымі нагамі, круціла галавою, рагочучы, прыгладжвала рукою чорныя, акуратна і шчыльна прыбраныя ззаду ў куксу валасы.

Рыгор падступіўся блізка да агароджы і засланіў ад Вольгі вароцечкі і суседку.

— Але ж, галоднай куме хлеб на ўме,— зусім блізка, за спінаю, зарагатала маці, і Вольга ад прыкрасці пачырванела. Праз калючыя нечаканыя слёзы можна было разгледзець толькі ярка-ружовыя пеўнікі вазона на падаконніку. Зрэшты, ёй зусім ужо не хацелася бачыць, што там з Рыгорам...

Не павярнуўшыся да маці, Вольга прамаўчала, як чакаючы нечага нядобрага. Але маці яшчэ раз засмяялася, адышлася ад акна і праз хвіліну ўжо адчыняла дзверы ў сенцы. Аднак прыпынілася на самым парозе і нечакана злосным ахрыплым голасам сказала:

— Не забудзь пер'е разаслаць, а то сапрэе. І не хадзі ты маўмырай... То ж мне дзеўка!

Калі дзверы нарэшце зачыніліся, Вольга нехаця знайшла на печы закінутую торбачку, выцягнула з яе ўжо гарачыя камякі пер'я, разаслала іх проста на пыльным чарапе.

...Вольга сядзела на лаве, і ад халоднай сцяны праз тоненькую блузку ў спіну ўліваўся раздроблены на колкую шчапу раней прытоены боль. Яна і не ведала, што гэта павернецца так. Хацела яшчэ раз глянуць праз акно на Рыгора і суседку, але так і не паднялася. Нейкае імгненне сілілася ўтрымаць сябе, вярнуць разважлівасць і хоць які спакой, але дарэмна. Яе рэўнасць была такою моцнай, што свет перад вачамі хістаўся, а тонкія сцены хаты, як у нейкім сне, раптам апаўзлі брыдкім пылам, заклубіліся з

чатырох бакоў. Вольга пачала задыхацца, хапаючыся рукамі за горла. Хацела прыглушыць у сабе жаданне заплакаць і не магла. Усё — і спакой, і летуценні, і нават сны, дзе яны з Рыгорам усё ішлі і ішлі, абняўшыся, па бясконцай вуліцы,— усё зрабілася раптам гэтым едкім ліпучым пылам.

Зрэшты, што гэта яна?! Нічога ж у іх няма і быць не можа. Бо зусім жа розныя людзі. Супакойвала сябе. Але недзе ў глыбіні душы спачатку нясмела, потым усё больш адчувальна заторгалася адна вязлізная і халодная, як цэлае возера, сляза. Сляза аб страце. Думалася толькі пра адно: як паправіць усё, як вярнуць Рыгора? Але ведала, што не зробіць першай ні кроку, таму не магла суняць злой хвалі супроць уласнай нерашучасці. Хацела нават выскачыць з хаты і паклікаць яго, але ногі не паслухаліся. Зноў пачала задыхацца.

Вольга не заўважыла нават, як бразнула клямка, не пачула яго важкіх крокаў. Але неяк падсвядома зразумела, што ён тут, перад ёю, стаіць у гарачых прывідных клубах пылу. Адчуўшы гэта, напружылася. Рыгор маўчаў, толькі глыбока ўдыхаў паветра.

У хаце нарэшце крыху пасвятлела, боль паціху адпускаў Вользіна сэрца. І тады яна падняла вочы і адразу ж сустрэлася з Рыгоравым, надзіва лагодным, нават балючым позіркам. Рыгор рэзка апусціў галаву, узяў яе далоні і раптам прыціснуў іх да свайго твару — такога разгарачанага, нават нечакана цвёрдага, як вылітага з волава. Потым крыху адкінуўся назад і засмяяўся. Стаў цалаваць гэтыя шурпатыя і патрэсканыя ад работы Вользіны далоні.

...Вольга і Рыгор нават не заўважылі, што прайшло ўжо два дні. І дзве ночы. Здавалася, усё навокал іх спынілася і замоўкла. Ноччу Вольга доўга не зводзіла вачэй, як уцякаючы ад трывожна-салодкіх

думак. Засынала толькі пад раніцу і потым ніяк не магла зразумець, чаму яе так рана будзяць.

З Рыгорам яны абменьваліся толькі кароткімі позіркамі і адразу ж апускалі вочы. Нібыта саромеючыся нечаканага кахання.

Маці заклапочана пазірала то на дачку, то на Рыгора, употайкі загаворвала з кожным аб тым, ці не пасварыліся яны. Але абодва адказвалі ёй коратка і нехаця, як баючыся самых звычайных пытанняў. І маці не ведала, што думаць, растрывожылася. На трэці дзень, за абедам, яна нецярпліва ўдарыла па стале рукою, збіраючыся сказаць нешта злое. Вольга адразу адчула гэта, ускінула на маці расшыраныя ад страху вочы, як просячы яе не гаварыць лішняе, і тая паслухалася, толькі адно і прашаптала:

— Што гэта вы, як дзеці?.. Хоць бы во па рыбу выправіліся... Даўно ж не было.

Рыгор падхапіўся і адбегся ад стала, пачаў соваць рукамі па кішэнях. Потым раптам вярнуўся і, рашуча нахіліўшыся над Вольгаю, моцна пацалаваў яе проста ў вусны, пры маці.

Дзень выдаўся надзіва ласкавы, і па вадзе толькі зрэдку прабягаў лёгкі нізавы ветрык. Якраз для рыбалкі.

Човен павольна набліжаўся да пябачнай паласы паміж возерам і рачулкай. На супроцьлеглым баку, пад вірамі, жоўтым брывом навісала доўгая круча. А пад ёю, атулены з бакоў вялізнымі карчамі, жаўцеў нізкі беражок.

Рыгор усцягнуў човен на гэтую пясчаную лапіну і, перш чым размотваць вудачку, каторы ўжо раз нахіліўся і пацалаваў Вольгу. А яна, нейкая спакойная і стрыманая, сядзела на карме і засяроджана, быццам рабіла якую важную справу, назірала за тым,

як ён марудна прымерваецца, размотвае лёску, правярае зазубец і насаджвае на яго карычневага спружыністага дажджавіка. Яна любіла назіраць, як ловяць рыбу, але з маленства баялася гэтай вузенькай вёрткай рэчачкі. Хоць і жыла каля возера, зусім не ўмела плаваць і заўсёды з зайздрасцю слухала расказы Рыгора аб тым, як ён браў прызавыя месцы ў спаборніцтвах плыўцоў, хваліўся, што пераганіць шчупака. Вользе падабалася, як ён пры гэтым смяяўся ад задавальнення і махаў рукамі. Паказваў, як трэба плаваць. Пад мокраю асакою ляжаў ужо ладны акунь, вытыркаючы ўверх калючкі і пярэсты хвост. Вялікая рачная страказа з блакітнымі палоскамі на чорненькіх доўгіх крылцах села на сухі борт, і Вольга, схіліўшы галаву набок, усё сачыла за ёю. Рыгор закідваў лёску далей ад чоўна, у самае чорнае вірыстае вока пад старою разлапістаю алешынаю. Паблізу з вады, як высахлыя кульці вадзяніка, вытыркаліся барадаўчатыя крутыя галіны карча-тапляка, і Рыгор стараўся закідваць ад яго правей, каб не зачапіцца зазубцам.

Вольга ажно прыўзнялася, калі ўбачыла, што паплавок на вадзе спачатку падскочыў і заківаўся ў бакі чырвоным носікам, пасля рэзка рынуўся ўглыбіню, але наўскасяк, імкнучыся якраз пад самыя голлі тапляка. Рыгор ад неспадзеўкі неяк па-хлапечы спалохана тузануў вудзільна ўверх, і яно сагнулася дугою ад напятай лёскі.

— Т-тваю ягадзіну! Налавіў! Усё, брат...

Паклаўшы вудзільна на днішча, Рыгор скінуў сарочку, потым важка ўпёрся каленямі ў вострыя борт, нахіліўшы човен да самай вады. Страказа імгненна ўзляцела ў яго з-за спіны і вось ужо застракацела крыламі над чорным, бліскучым на сонцы тапляком.

Рыгор наматаў лёску на левую руку, правую ўсунуў па самы локаць у ваду і вадзіў ёю там, гонячы

наверх дробныя бурбалкі, шукаючы той пракляты корань, за які зачапіўся зазубец. Распаліўшыся ад злосці і няўдачы, апускаючы руку ўсё глыбей, ён ужо амаль дакранаўся валасамі да вады. Вольга застыла. І раптам вялікі акунь, выбіўшыся з асакі, ударыў пляскатым хвастом аб днішча, падскочыў высока ўверх і бразнуўся на вудзільна. Тое рэзка і гулка, як металічнае, забразгацела, Рыгор ад неспадзеўкі спалохана рвануўся ўбок, махнуў рукою і, страціўшы раўнавагу, паляцеў галавою ўніз, у чорную, бы смала, раку.

Вольга спачатку не паверыла, што гэта сапраўды здарылася, потым, як апрытомнеўшы, кінулася на сярэдзіну чоўна і схапіла весла. Вярнулася назад і пасілілася зрушыць човен з месца, але той быццам прырос да вузкага берага. Ледзь не плачучы, яшчэ раз налегла на весла,— яно толькі неглыбока praарала кантам цвёрды пясок. Ад страху адступіла назад і тузанула весла да сябе, але, напэўна, залішне моцна і нязручна, бо паслізнулася. Выпусціўшы з рук весла, што гучна пляснула аб ваду, Вольга бокам упала на камякаватую, з застылаю акунёваю сліззю, асаку, балюча выцялася падбародкам аб днішча. Перад вачамі затрапяталі чырванакрылыя стракозы; змагаючы боль, Вольга прыпаднялася на локці і ўбачыла, што Рыгор якраз даплывае да блізкага, але самага крутога рачнога павароту, за якім ужо нічога не было відно. Да таго ж берагі там былі асабліва густа зарослыя ляшчыннікам.

Бачыла яшчэ, як Рыгор стараўся ўскараскацца на высокі гліністы бераг, нават падцягваўся ўверх, трымаючыся за ахвосткі каранёў, але зноў саслізгваў уніз, у рачную крутаверць. Урэшце, адпіхнуўся ад берага і хутка паплыў па цячэнню за паварот, мусіць, шукаючы нізкую касу. І адразу ж знік з вачэй.

«Не даганю цяпер... Ні божачкі не даганю!» Пад-

няўшыся, Вольга заспяшалася, трымаючыся за мокры борт, у нос чоўна, выскачыла на бераг і стала падымаць човен знізу, з усяе сілы штурхаючы яго перад сабою ў раку. Нос чоўна быў усцягнуты Рыгорам на бераг толькі да палавіны. Цяпер ён падымаўся і зноў, крыху пасоўваючыся наперад, з гучным плёскатам падаў на мелкае, пырскаючы з-пад днішча жоўтаю мутнаю вадою. Амаль ссунуты ў раку і нарэшце вольны, човен так рэзка крутнуўся ўправа, па цячэнню, што Вольга ледзь паспела ў яго ўскочыць. Стоячы на каленях, яна ліхаманкава грэбла ваду рукою, але човен не слухаўся. Ён торгаўся на вірах і нёсся з высока паднятым носам наперад, потым зноў, як закілзаны, рэзка паварочваўся бокам да хваляў, гатовы ў любы момант перакуліцца.

Вольга не магла адвесці вачэй ад вады. Здаецца, якраз перад ёю, булькаючы, то скручваліся ў пеністыя жгуты віроў, то зноў выпросталіся цёмна-зялёныя рачныя стужкі. Яшчэ цямнейшыя вадзяныя патокі, як гнуткія тоўстыя вужы, падымаліся да чоўна наўскасяк, з самога, здаецца, дна. Нібыта мерыліся зачараваць і зацягнуць у глыбіню чалавека.

Вользе і сапраўды захацелася апынуцца ў тым вялізным рухомым віры, знікнуць у ягонай глыбіні разам са сваёй безвыходнаю роспаччу. Яна нават прыўзнялася як мага вышэй на каленях, дрыжучы ад хвалявання, але човен якраз заслізгаў пад самымі карчамі каля павароту, нізкія галіны спачатку балюча шарганулі яе па твары, потым ударылі па плячах тоўстымі ствaламі і адкінулі назад.

Нідзе блізка Рыгора не было. Вольга пачала яго клікаць, абмацвала пільнымі позіркамі крутыя берагі і вербалозіны, каб змеціць там хоць што Рыгорава. Суцяшала сябе тым, што ён добры плывец. Сам жа хваліўся. А можа, так сабе хваліўся, падманваў?..

Перапалоханыя чыркі з шумам выляталі з-пад

навіслага над ракою галля і лопалі па вадзе пругкімі крыламі, праносіліся над самаю Вользінаю галавою. Гэта раздражняла і рассейвала яе апошні спакой.

Прайшло, напэўна, вельмі многа часу. Човен бездапаможна прыбіўся бокам да ўтравелага нізкаватага берага. Без вясла ён быў непатрэбны, і Вольга, сабраўшы апошнюю сілу, таропка выскачыла на сухое, адразу ж, не разважаючы, паднялася вышэй і пабегла ўздоўж ракі. Чаплялася нагамі за калючую пружыністую сетку ажынніку, старалася падысці бліжэй да вады, але перад ёю ўжо стаяла высокая нямая сцяна карчоў і травы. Натаміўшыся да дрыготкі ў каленях, урэшце спынілася і аддыхалася. Села, чуючы, як стома хвалямі расцякаецца па ўсім целе. Здалося, што нехта блізка заскуголіў. Разамлеўшы, не хацела азірацца. Але вочы самі нечакана блізка ўбачылі маленькага, як рыжая рукавічка, шчанюка. З бліскучаю прыгожаю пыскаю і ўюнкомхвосцікам. Пэўна, гаспадар пашкадаваў яго ўтапіць, а вось кінуць аднаго за ракою на галодную смерць не пашкадаваў. Вольга схілілася над ажыннікам, адарвала і сціснула вуснамі чорную салодкую ягадзіну. Цюцік падпоўз да яе на тоўстых лапках, пацёрся халодным носікам аб руку і пачаў таропка аблізваць на пальцах свежыя ранкі ад ажынавых калючак. Вольга асцярожна падняла яго, горка ўсміхнуўшыся, прыціснула да сябе. І раптам уткнулася ў мяккую спіну адзінай тут, здавалася, жывой істоты, ціха застагнала. Яна плакала і дзівілася таму, што Рыгор не адклікаецца і сам не шукае яе каля ракі. Думаць пра магчымае няшчасце не магла. Страшная здагадка стаілася недзе ў глыбіні душы, як вугаль пад лёгкім попелам, гатовы ў любы момант разгарэцца. Вольга не ведала, як пасля ўсяго ісці дахаты. Напэўна, лепш вось тут загінуць, сплысці немаведама куды разам з халоднымі раўнадушнымі хвалямі. Была

яшчэ надзея, што Рыгор усё ж выплыў, але так далёка, што ўжо не чуе яе, не ведае, дзе яе шукаць, пайшоў не ў той бок. Але надзея гэтая была такая няпэўная, што Вольга толькі прыкусіла вусны, каб не расплакацца зноў. У вачах было цёмна: як гэта ён не ведае, куды ісці? Супроць цячэння — вось куды. Што тут думаць?!

Вольга падняла твар, ловячы свежы вечаровы ветрык. Пэўна, цемра хутка ляжа і на гэты калючы ад дзікага ажынніку бераг, і на далёкую вёску. Зноў прыгадала маці, маленькага Сашку, утульную хату. І адразу ж усхапілася на ногі. Падумала пра човен. Але дзе там: яго ўжо, напэўна, знесла цячэннем. Якраз сенавалі, уся вёска падалася далёка за возера, забыўшы пра рыбу. Надзеі, што сустрэне некага на рацэ, не было.

Вольга пайшла назад, туды, адкуль прыплыла, пільна ўзіраючыся ў абрысы берага і пазнаючы знаёмыя мясціны. Не даходзячы да той паласы, дзе рукаў возера ўпадаў у рэчку, Вольга раптам спынілася каля маленькай касы, аточанай нізкім шчацінистым аерам, быццам нешта падсвядомае загадала ёй пільна падумаць. І праз хвіліну яна сапраўды ўспомніла: якраз каля гэтай аерыстай лапіны, казалі, было самае мелкае ў рацэ месца.

Зрэшты, не так даўно Вольга на свае вочы бачыла, што менавіта тут і пераходзілі раку старэйшыя дзяўчаты, сабраўшыся па шчаўе на гэты, дзе якраз яна стаіць цяпер, бераг.

Дык чаго ж баяцца?!

Пачынала цямнець, над ракою па-сапраўднаму змяркалася. Вольга рашуча зняла чаравікі і звесіла іх з шыі на грудзі, завязаўшы вузлікам шнуркі. Чаравікі здаліся цяжкімі.

Не распранаючыся, Вольга падняла амаль да пад-

бародка знойдзенага шчанюка, пастаяла на беразе і, нечакана для сябе самой, рыўком ступіла ў ваду. І адразу ж як апяклася яе сцюдзёнасцю, сцепанулася ўсім целам, бясцямна кінулася наперад, не зважаючы на тое, што па ўсёй спіне, здавалася, запоўзалі непрыемныя казытлівыя слімакі. Рачное дно было жвірыстае і даволі тугое, Вольга старалася ісці хутчэй. Над вадою, паднятая падушкаю паветра, напнулася спадніца, але хутка намокла, апусцілася ўніз і абляпіла ногі.

Вольга чакала, што вось-вось яна сарвецца ў якую-небудзь яміну і яе пацягне ўніз, закруціць углыб, як былінку, здушыць важкаю на глыбіні вадою. І, ужо нежывую, нерухомую, панясе па дне, затузае ў розныя бакі: слізкая трава будзе абмацваць твар з адкрытымі мёртвымі вачамі, перапляцецца з распушчанымі валасамі.

Цюцік, ледзь жывы, прыціх на анямелых руках, Вольга ўперлася падбародкам у яго касцістую мокрую грудку. Затрымалася на імгненне і азірнулася, яшчэ раз паклікала Рыгора. Але голас быў ахрыплы і ціхі. Вада падступала да самых грудзей і цягнула некуды ўбок ад броду. З сэрца і сапраўды кропля за кропляю выцякала жаданне ісці далей і жыць. Часам, як успышка маланкі, памяць вяртала цяпер далёкае і забытае, нават дзіўна чужое. І найперш той далёкі прывідны пыл у хаце і Рыгоравы пацалункі, ад якіх і цяпер кружылася галава, шчымела і падала ў халоднае бяздонне душа. Усё тое, вядома, было. Было, але так даўно-даўно...

Нешта слізкае дакранулася да ног, якія зрабіліся цяпер надзвычай чуйнымі, быццам шурпатая вада злізала з іх скуру. Гідкае стварэнне абкруцілася вакол ног, павольна папаўзло ўверх. Вольга ўжо не разумела, ці гэта адбываецца на яве, ці зноў трызніцца ёй. Калені павольна падгіналіся і дрыжалі.

Гатовая да ўсяго, Вольга чакала апошняга рыўка невядомай пачвары, стаілася...

Над ракою праляцеў рэдкі, але халодны вецер, праз вечаровую шэрань бачыліся цені карчоў.

І раптам шчанюк, адчуўшы пагрозу і крутнуўшыся на руках, так адчайна заенчыў і задрыжаў, што Вольга як прачнулася ад здранцвення, нават закруціла галавою, азіраючыся. Цемра густа налягала на ўсю раку, гэта нагнала на Вольгу такі шалёны страх, што яна ледзь не закрычала. Пракаўтнуўшы кіслую сліну, яшчэ шырэй расплюшчыўшы вочы, кінулася наперад, да блізкага, як аказалася, берага...

Не помніла ўжо, як выбралася на грудок,— ногі абдзірала шурпатая, бы тарка, спадніца. Пабегла ад ракі праз аер, да таго неглыбокага раўчука праз увесь луг, за якім пачыналася вёска.

Гэта добра, што іхні двор быў на ўскраіне. Іначай яна не змагла б цяпер, не адважылася б прайсці па вуліцы.

Зусім блізка румзаў гармонік: зноў збіраліся танцы каля школы.

Вольга падкралася да сваёй хаты і стаілася за штыкетнікам, цяпер такім тонкім і шчыльным, як рад вострых зубоў, што павытыркаліся з крапівы перад самымі вокнамі. Нечаканы віскатлівы енк у суседнім двары прыгнуў Вольгу да зямлі. Хацелася папаўзці назад, да дрымотнага возера, але яна тут жа здагадалася: «Зноў гэты гад, звер гэты, Сымон, сабаку за нешта шматуе...»

Цемра ў вёсцы адступіла, па небе рассыпаліся дробныя, што пясчыны, зоркі. Вольга ціхенька зачыніла за сабою вароцечкі, асцярожна ступіла на рыпучы ганак. І толькі ў сенцах ліхаманкава пачала думаць, што скажа маці і што будзе з ёю самою, калі Рыгора няма.

Але Рыгор быў. Жывы і здаровы. Сядзеў за сталом перад глінянаю місаю з астылай бульбай.

Вользе здалося, што ён спакойны і нават вясёлы. Іначай і быць не магло. А як жа іначай? От і ўсё...

Яна абвяла ўважлівым позіркам усю хату, як убачыла яе ўпершыню, у думках пагладзіла белую галоўку брацiка — ён ужо спаў на ложку. Зірнула на Рыгоравы рукі, такія вялікія, з доўгімі і нязвыкла тонкімі ў няяркім святле лямпы пальцамі. І яны адразу ж засоваліся па стале.

Маці стаяла каля печы.

— Ты гэта дзе была? Як з віру чортавага...

Вольга ўспомніла, што маці не бачыла, як яны з Рыгорам пайшлі з хаты.

— На возеры была.

— А я, божачка, усе хаты абшвэндала.

Рыгор падняўся з-за стала, падышоў да Вольгі і, нахіліўшыся, прашаптаў ёй у самае вуха: «Казаў жа, што плаваць умею...» Уголас сказаў іншае, насмешліваe:

— І праўда, Воль, ты чаго так доўга?

Вольга паспешліва і непрыязна адхіснулася ад ягонага гарачага дыхання, яшчэ ніжэй апусціла галаву. Перапоўненае страхам сэрца ўсё яшчэ заставалася там, у чорнай, як смала, здрадлівай рэчцы.

Каб не раздзьмухаць па хаце падсохлае, насыпанае белым стажком на газету каля ложка пер'е, Вольга асцярожна абышла яго. Падумала, што абскубаць давядзецца да пеўняў.

Рыгор зноў падступіўся бліжэй, ціхенька паясніў:

— А я хутка выбраўся. За паваротам бераг ніжэйшы... І — дахаты!

Што было з ёю, самою Вольгаю, не пытаў.

Маці нарэшце ўправілася з печчу, выцерла рукавом успацелы лоб, зноў зірнула на дачку.

— Ты хоць пераапраніся, а то...

І раптам застыла ад здагадкі:

— Ты што, на рацэ была? І адна? Да самага цямна? А калі б перакулілася? Ці яшчэ якой халеры? Гэта ж вада!

Вольга не ведала, чым супакоіць маці. Паглядзела на Рыгора, чакаючы, што ён усё паясніць. Але Рыгор адвярнуўся і незадаволена парухӑў плячамі.

— Ты човен хоць прымкнула?

Вольга не ведала, што адказаць маці, і тая, прадчуваючы нядобрае, кінулася з хаты правяраць.

Яны засталіся адны. Не пытаючыся ні аб чым, Рыгор сеў за стол і пачаў засяроджана ўзірацца ў акно. Нібыта ўсё, што рабілася і гаварылася, яго абыходзіла. Праз акно было відно, якая надзіва чорная і густая ноч. Цемра важка круціла свае таямнічыя халодныя віры, і Вользе здалося, што вось якраз цяпер з яе душы выцякаюць апошнія, самыя горкія кропелькі надзеі і любасці да Рыгора.

Вольга павярнулася да стала, узяла з місы дзве бульбіны і пайшла да печы. Адсунуўшы нагою венік у самым мыцельніку, паклала бульбіны на падлогу. Каб неяк стрымаць слёзы, пачала ўважліва сачыць за тым, як згорблены, з падцягнутым да хрыбетніку жывоцікам галодны цюцік, дрыжучы і матляючы галавою, прагна хапае пачастунак.



# СТАРЫ БУБЕН

Пасля ночы выбоіна перад парогам была цёмная ад расы, вільготна бліпічала, як пацуковая спінка. Пальма стомлена пацягнулася, незадаволена забурчала. Агрызнулася на свайго ненаежнага, мабыць, апошняга ўжо шчанюка, адштурхнула яго ад бліскучай вылізанай місы. Але ўпартае малое з пругкім хвосцікам злосна, віскатліва гаўкнула, балюча ўхапіла маці за абвіслае вуха вострымі цвічкамі зубоў.

Пальма была парудзелая ад старасці і, калі ляжала, была падобная на замшэлае пнішча. Ноччу тонкія кароткія лапы пачалі мерзнуць і касцянець, доўгі і шырокі лапаць носа патрэскаўся, пасівераў і так рассвярбеўся, што здавалася, на яго сыпанулі шурпатай, едкай солі.

Усё часцей, раніцаю, калі туман валюхаўся каля плота вялікім гусіным статкам, Пальма прачыналася ад ледзь чутных крокаў. Папраўдзе, гэта былі нават не крокі, а лёгкае, што і расы не збіць, пашоргванне па пругкай сцюдзёнасці травы, ледзь бачнае пагойдванне блакітнай вільгаці, таямніча-пагрозлівае шаптанне ў склычанай крапіве, колкім, бы шчэць на свіным карку, цыбульніку.

Ніхто, акрамя Пальмы, усяго гэтага не чуў і не заўважаў. Бо адна яна ведала, што кожную раніцу ўсё бліжэй і бліжэй да іхняга двара падступалася смерць. Але шукала яна не гаспадара Міхайлу, не гаспадыню Вольку, не іхняга Грыньку. Гэта была яе, Пальміна, смерць, і, ахаладзелая ад жаху, сучка адразу прачыналася, бегла на ганак, падціснуўшы абскубены хвост, жаласліва скуголіла, рыпела надарваным за доўгія гады горлам, як той сухі, учарнелы журавель на суседняй вуліцы.

Так і стаяла, усё тулілася рабрыстым бокам да дзвярэй, аж покуль не выходзіла гаспадыня.

— Чаго ўжэ? — незадаволена пазірала яна на Пальму, потым шырока і млява распроствала плечы, таропка пазяхала, быццам нечакана раскусіла гарачую бульбіну, апякла рот і сутаргава хапала халаднаватае паветра.

Сёння сучцы прысніўся нейкі малады і смачны сон, і яна раптам праспала. Калі глянула на свет, не было ўжо ні туманнага статка, ні золкай крупчастай расы. Не прыходзіла і смерць, нібыта вырашыла даць сваёй будучай ахвяры адпачынак і кароткі спакой. Язык перасох, не асвежаны вільгаццю, не хацеў, нібы ўкрыты шурпатай карой, варочацца. Здавалася, што ў горла нехта сыпануў гарачага прысаку з пастушковага цяпельца. Падгінаючы лапы, Пальма пасунулася па двары, хацела пахлябаць з іржавай курынай бляшанкі, але тая нечакана перакулілася. Некалькі пякучых кропель пырснулі на нос, і яна злосна аблізнулася.

Пачула едкі тлусты пах, азірнулася на яго і ўбачыла на ганку гаспадара Міхайлу ў гумавых ботах, такіх шырачэзных і высокіх, што яны здаваліся двума калодзежамі. Гаспадар Міхайла і сапраўды быў магутны мужчына, яго галава як бы падавалася наперад, загарэлы твар абвіла рудаватай дзеразою ба-

рада, а над вачамі звісалі выгаралыя на сонцы бровы. Але гаспадар быў добры, і Пальма адразу падалася да яго бліжэй, не зважаючы на шкіпінарны пах ад торбы цераз плячо. Ведала, што так Міхайла заўсёды збіраўся на забалочанае азярцо, узрадавалася і трушком падалася з двара, хоць гаспадар нават не кінуў на яе вокам.

Каля варотцаў іх дагнала Волька.

— На во, забыў арудзіе працы,— пакаціла яна званочкамі па грудзях свой вясёлы смех, лёгенька штурхнула мужа ў плячо, укінула ў торбу завостраны з двух бакоў і доўгі, бы аеравы ліст, нож.

Пальма больш не сумнявалася, што Міхайла ідзе за вёску, і, паспрытнелая ад радасці, пабегла наперад. Балотны чад ударыў у галаву, заканапаціў ноздры, і яна пачала чмыхаць, усё скрэбла лапаю нос, потым пасунулася па высокай траве, абдзіраючы ёю жывот, перасільваючы нервовыя дрыжыкі, што абкручвалі яе ўсю кусучым цвёрдым дротам.

Наперадзе нешта бліснула. Гэта была невялікая яміна з вадою. Пальма ведала, што тут неглыбока, але вельмі ж гразка. Над вялізным балотным сағаном раптам паднялася, як пара з-пад паднятай засланкі, завірылася пакрапленымі клубкамі мошка. У левым баку, дзе была больш сухая мясціна, над куп'ём маленькімі галоўкамі цягнуўся ўверх кураслеп, як пагражаючы, пагойдваўся ад лёгкага ветрыку, няспынна цікаваў жоўтымі вочкамі за няпрошанымі гасцямі. Пальма пачула блізкую небяспеку, націснула, спыніўшыся, усім целам на пярэднія лапы, усунула морду ў траву і скавытнула. Прама пад носам сваёй металічнаю зяпаю блішчала пастка.

— А каб цябе праніцы, і тут пуста! — незадаволена ўздыхнуў гаспадар. Потым ён асцярожна падступіў да самай вады, і вялізны ярка-зялёны грудок пад яго нагамі адразу зачмякаў, клубкі злямчанай

травы ўміналіся ў балота, потым павольна падымаліся, распростваючыся, нагадвалі вялізных растрывожаных слімакоў.

Пальма гідзілася, але дзецца не было куды, і яна ступала па гэтым жывым балоце, адчуваючы, што да лап, да жывата, да бакоў прыліпае мокрая брыда. А гразкая вада была ўжо блізка, густою кашаю абляпіла гаспадаровы боты, чалавек стаяў у гэтым чортавым кісялі па самыя калені. Ён падняў доўгі кій, дужымі рукамі ўткнуў яго ў ваду пад карчы, ушчаціненыя, пярэстыя, з паднятымі ўверх калматымі лапамі, і тыя адразу ж загайдаліся, зараўлі з патрывожанай глыбіні, пачалі скідаць з сябе скуру ліпкай лістоты. Здалося, што гаспадар уткнуў у балотнае пекла не звычайны кій, а распалены жалезны прут, і гразкая вада закіпела, выкінула з сябе пругкія галоўкі-бурбалкі з гнілым паветрам, завохкала і засіпела.

І адразу з-пад карчоў вёрткімі бліскучымі мячыкамі пакаціліся ў траву вялікія і маленькія вадзяныя пацукі — шчуры, замітусіліся, шукаючы паратунку. Пальма як звар'яцела. Яна кідалася на гэтыя жывыя балотныя бародаўкі і хапала іх зубамі за мяккія спінкі, як вялізная дужая маланка зігзагамі падскоквала над высокаю травою, даганяючы новую ахвяру, хрыпела і матляла галавою з акрываўленай пашчай.

Гаспадар ужо натаптаў шчурамі вялізную і брудную, бы аблітую жоўтым смальцам, торбу, але старая сучка ўсё не магла супакоіцца, бегала вакол яго, скавытала, грэбла лапамі куп'ё, быццам толькі цяпер, у нечаканым паляўнічым спрыце, адчула новыя здольнасці знаходзіць няўлоўныя і рэдкія пахі. Раптам спынілася, як падрэзаная, падціснула цяжкі ад налепленага глею хвост, падагнула лапы і павольна, адганяючы нечаканы страх, глыбока ўдыхаючы тон-

кі, яшчэ дасюль не чуты, але ўсё ж аднекуль знаёмы пах, падалася ад гаспадара, пакуль не ўбачыла маленькую сіратлівую і надзіва сухую палянку. Адсюль па версе навакольных траў дрогкаю вільготнаю нітачкаю да яе цягнуўся пах самога балотнага пана, валадара навакольнага краю. Гэты пах мог схапіць не ўсякі звер, а толькі той, хто хоць аднойчы быў напалоханы прывідам смерці. І адразу пачуўся яшчэ адзін пах — трошкі гаркаваты, востры, як іголка, пах фіялетава-ружовай мацярдушкі, той самай травы, якая цудадзейна вяртала да жыцця. Сківіцы ад хвалявання адразу звяло, было цяжка жаваць, і Пальма толькі паварочвала морду ў розныя бакі, захоплівала траву пашчэрбленымі зубамі, глытала саланаватыя лісточкі цалкам, цяжка дыхала і залівала зямлю зялёнаю пеністаю слінаю. Яна абгрызла амаль усю палянку, потым пачала церціся аб зямлю рэбрамі і галавою, ледзь пераводзячы дух.

Склычаная, аблепленая балотнай тванню, яна вярнулася дамоў толькі вечарам. Гаспадар ужо аблупіў шчуроў, тонкімі цвічкамі прыбіў нацягнутыя шкуркі на жоўтую, гладка абгабляваную дошку, паклаў яе на прызбу. Шкуркі былі беленькія, з тонкімі павуцінкамі на ружаватых краях. Калі яны падсыхалі, то жаўцелі, рабіліся бліскучыя.

Пальма толькі глытнула перакіслага, як шчаўе, малака, падзівілася шчодрасці гаспадыні і, ледзь не падаючы ад стомы, павалаклася ў нагрэтую за дзень будку. Там лагодна лізнула ў цёплы носік свайго соннага шчанюка, што мяккім чарвячком скруціўся ў кутку, пачула, як дрогнуў яго нервовы жывоцік, і адразу заснула. Не чула нават, як сонны шчанюк падпоўз і прытуліўся да яе мяккай спінкай. Раніцаю наступнага дня, ужо другі раз, яна зноў прачнулася лёгка, нібыта нічога раней і не было. Балотны дух мацярдушкі наспружыніў мускулы цвёрдымі, як ме-

талічныя кружочкі, вузламі, наструніў лапы. Але нейкае трывожнае пачуццё вадзіла яе з аднаго канца двара ў другі, падціскала да хрыбта мех жывата, але ён зноў адвісаў, уцягваў у сябе салодкі пах рамонкавага лета.

Яна пабегла па вуліцы, рассякаючы пругкімі лапамі жвірысты пясок, нібыта шукала прычыну свайго неспакою, разнервавала суседскую квактуху, што вадзіла сваіх пісклявых дзьмухаўцоў, прынюхвалася і прыслухоўвалася, раздзімаючы пасечаныя ўчарашняю травою ноздры. Ужо хацела супакоіцца, але нечакана нашчацінілася ўся, агрызнулася на нешта нябачнае. А тое, нябачнае, але адчутае ўсім целам, ужо даганяла яе, прывідным шарам пакацілася па ўзбочыне дарогі, потым гарачым каменем упала на сабачую спіну, здаецца, здзіраючы з яе выліnялую поўсць. Пальма прыгнулася, пачала атрасацца ад гэтага шалёнага, пякучага наслання і кінулася дахаты.

А там, у двары, стаяў гаспадар. Побач з ім аб нечым гаварыў сусед Сцяпан, высокі, лысы, з вялізным, бы яміна, ротам. Смяяўся, прытупваючы, разводзіў рукамі, як бы хацеў абняць вецер, драпаў сябе за шырокія грудзі вялізнымі і чорнымі, амаль да палавіны ўкрытымі карой пазногцяў пальцамі.

— Аддай ты мне сучку, Міня, чуеш?.. Сам ведаеш, які ў мяне клопат...

— Ат, Сцёпа, яна ж старая. Дзе ўжо ёй на бубен!

— Выдублю скуру, як з маладой будзе.

— А можа, пачакай... Хай ужо сама здохне!

— Ды не, не! Бубен саўсім дзіравы, во-во лопне. Мяняць рыхтык трэба...

Гаспадар злосна скубянуў сябе за бараду, зірнуў на Пальму хуткім і калючым, бы зазубец, позіркам, і сучцы здалося, што ён, гэты кароткі позірк, зачапіў яе недзе знізу, з-пад жывата, балюча падцягнуў уверх.

— Ты што, можа, з жывой здзіраць будзеш?

— Ну, ты гэта кінь! Я што, жывадзёр які? Ведама, заб'ю спачатку, аблуплю як след. Знаеш сам, як я гэта раблю. Во! Ні адной дзірачкі не будзе. А сучка ў цябе вялікая, скура — што трэба!

Пальма акамянела, утаропіла вочы ў вялізны Сцяпанаў рот, нібыта з гэтай чорнай бяззубай яміны вось-вось павінен быў выскачыць тлусты шчур. І яна нават прысела на задніх лапах, падрыхтавалася скочыць.

— Не, брацёнак, ты ўжо лепш пачакай. Неяк не па-людску гэта...

— Эт, добранькі знайшоўся! — Сцяпан пакрыўджана крутнуў галавой і нехаця падаўся з двара.

Гаспадыня Волька, цягнучы свінням вядро з мяшанкаю, злосна чмыхнула, і Пальма адразу адчула, што яна нечым незадаволена.

Дзень пачаўся кепска. І Пальма хацела ўсім дагадзіць, выганяла з гарода суседскіх курэй, услужліва сустракала хрыплым брэхам усіх, хто заходзіў у двор, ляжала, пільнуючы, пад яблыняю, загружанаю да самага верху крамяным белым налівам. Але гараз-пораз сэрца яе сціскалася, і сучка прыгінала галаву, адчуваючы на сабе насцярожаны позірк гаспадыні.

Калі з лугу вечарам прыгналі гусей, нават паспрабавала абараніць Грыньку ад ганарыстага задзірыстага гусака, захрыпела на яго, але гаспадыня нічога не зразумела і балюча выцяла яе па назе, пагнала, пакрыкваючы, гусей у хлеў. Пакрыўджаная, сучка моўчкі паскрэблася ў сваю будку і не вытыркалася адтуль да наступнай раніцы.

Яшчэ задоўга да сонца ў двары пачалося мітуслівае свята. Зазвінелі пустыя вёдры, аб дно бразгалі слоікі і бутэлькі з вадою. Гаспадыня збегала ў гарод, злазіла на гарышча. Пальма чула смачны пах сала і

хлеба, усё цікавала за гаспадыняю. А Волька, бліскаючы локцямі, таропка завязвала хустку, абцярушвала ад сена пакамечаны пінжак на Міхайлу, а перад самай дарогай нацягнула на ногі маленькія боты. Адчайна пазяхаў без пары падняты Грынька, чухаў Пальму за вухам, і ад яго пахла цёплай вопраткай і свежым малаком.

Па ягады Пальму таксама не клікалі, але яна па старой завядзёнцы кінулася ўслед за людзьмі, бегла паўз дарогі, абрываючы з павуціністай травы ліпкую расу, узбуджана-ціха скавытала. Спачатку ішлі па вузенькай сцежачцы ў жыце, падганяючы перад сабою Пальму перамовамі і смехам, потым праскочылі рэдкі малады хвойнік, наступаючы на хрусткую заечую капусту. Нарэшце ўсе трое ўзышлі на чыгунку, пашоргалі па шпалах. Было амаль цёмна, людзі шэптам перакідваліся словамі, быццам тут, на чыгунцы, і пасмяяцца ўжо нельга было, падганялі адно аднаго. Грынька ўсё адставаў, ківаў соннаю галавою. Гаспадыня, тузануўшы яго за рукаў, паказвала назад, гаварыла, што вунь там за імі бягуць ваўкі, ажно вочы свецяцца. Грынька і праўда прыспешваў хаду. Пальма таксама насцярожвалася, азіралася ў цёмную далячынь, утырканую яркімі кропкамі станцыйных агнёў, віляла хвастом, гатовая выканаць любы загад гаспадароў. Бегла за імі следам, падымаючы галаву ўверх, вышэй ад непрыемнага мазутнага паху рэек.

Наперадзе паказалася мужчынская постаць, і Пальма адразу пазнала Сцяпана, які нёс за спінаю стрэльбу. Яе кальнула ў грудзі, сціснула як абцугамі, забіла дыханне. Пальма з трывогаю слухала, як людзі павіталіся, перакінуліся некалькімі словамі і зноў пакрочылі наперад.

Сцяпан нібыта і не заўважыў Пальмы, ішоў, пераступаючы шпалы, наперадзе, і яго вялікая, укрытая пляскатай кепкай галава рытмічна пагойдвалася.

Ужо развіднела, калі ўсе ўступілі ў лес, камарэча едкай пацярухай адразу ж заторгалася над людскімі плячамі. Чарнічнік пачаўся адразу ж, і людзі павольна разыходзіліся ў розныя бакі, выбіраючы дзялянкі. Камарыная назола забівалася Пальме ў вушы, а яна, ратуючыся, шалёна насілася па чарнічніку, убівалася мордай у старыя пні, выграбала, фыркаючы, з нораў сухую зямлю, хмялеючы ад блізкага звярынага духу, брэхам клікала да сябе. Але ўсе збіралі ягады. Толькі Сцяпан пайшоў сваёй дарогай, растварыўся разам са сваёй стрэльбай за далёкімі дрэвамі.

Сасновы лес параскідваў свае бухматыя галіны, разаслаў уверсе вялізныя шэра-зялёныя апранахі, грэючы ў іх азяблыя за ноч ствалы, аб нечым доўга і працягла гудзеў, пазіраючы на гасцей залітымі смалою зрэнкамі, зеўраў пашчамі, гнаў уверх свае забранзавелыя целы. І здавалася, не людзі ішлі па гэтым прывідным ранішнім лесе, а ён павольна сунуўся за імі, выкідваў сабе і людзям на пацеху са сваіх высокіх дуплянак вавёрак і патрывожаных птушак.

Аб дно вёдраў забарабанілі першыя ягады, і Пальма адразу павесялела, зрэдку сашморгвала з галінак вялікія салодкія чарнічыны, лавіла ўсім целам, а не толькі слыхам, прыглушанае «ау», што далятала да яе як бы аднекуль зверху, з іглістых распушаных галін.

І раптам Пальма адчула, што навокал яе нешта змянілася, нават пацямнела і пацішэла, як закрытае зверху празрыстай плёнкай. Нібыта яна сама пачала страчваць слых і нюх, тое моцнае жывое адчуванне свету, асабліва блізкай небяспекі, якое дасюль яшчэ ніколі яе не падводзіла. Стала страшнавата. Пальма заскавытала, пабегла назад, углыбіню, выбілася з высокага ягадніку, зашчамілася ў нешта густое і

амаль непралазнае, сноўдалася, абдзіраючы бакі, паміж дрымучых старадрэвін, пакінутых звярамі нор і пнёў з вострымі і бруднымі ікламі.

Рэха амаль згубілася, і Пальма памкнулася назад. Нечакана з-пад лап выслізнула рабая гадзюка, заструменіла слюдзяным паскам па замшэлай зямлі. Пальма пачула перад сабой нешта жывое і непрыемнае, інстынктыўна падняла галаву, каб лепш бачыць, і, як падстрэленая, спалохана падскочыла каля вялікага ашчэранага пнішча, ад якога засталіся толькі трухлыя сценкі. Такое яна бачыла ўпершыню. Унутры пнішча, сплеценае ў жывы слізкі клубок, дрогка варушылася жоўтае гадаўё, злізвала з бакоў свайго логава сухі мох і ўцягвала яго ў свой пругкі студзень. Пальма падалася ўбок і зноў прыпынілася, застыла, як вялізны аблезлы груд. Прама над ёю, зачапіўшыся хвастамі за галіны мёртвай сасны, звісалі старыя гадзюкі, ледзь-ледзь паварочвалі маленькімі галоўкамі з бліскучымі шрацінкамі вачэй у розныя бакі, ціха, але грозна сіпелі. І нельга было зразумець, што тут адбываецца, што гэта за гадкае месца — ці проста гадзючы могільнік, ці гэта іхняе вяселле, ці звычайнае прыстанішча вялікай гадзючай сям'і. Пальма рынулася наперад, перад яе мордай падскочыла, звіўшыся ў пругкае кола, яшчэ адна гадзюка, праляцела ў паветры, але ўжо назад, пераскочыўшы Пальму, як бы адганяючы яе ад астатніх.

Анямелая ад нечаканага перапалоху, сучка памчалася праз гушчар, пераляцела праз яміну, кінулася на злом галавы далей з адзіным жаданнем хутчэй знайсці след сваіх гаспадароў. На бягу з апошніх сіл пераскочыла цераз вялізнае паваленае дрэва, але ніжняя, зачэпленая за нешта галіна раптам імгненна разагнулася і калюча хлёснула сучку па жываце. Але болю Пальма не адчула і, ні на хвіліну не прыпыня-

ючыся, укацілася ў зялёны шоўк чарнічніку і пачала прагна прынюхвацца да чалавечых слядоў. Доўга блыталася, пакуль нарэшце знайшла, вылецела на паляну і радасна забрахала. На чыстым светлым месцы палуднавалі гаспадары.

— Ты дзе гэта швэндалася, гультайка? — зарагатаў Міхайла і кінуў Пальме кавалак нацёртага часнаком хлеба. Не зважаючы на непрыемны пах, яна адным махам праглынула пачастунак, легла каля абматаных зверху хусткамі вёдраў з ягадамі, усё хацела супакоіцца, але бакі раздуваліся ад перажытага і пабачанага, як кавальскія мяхі. Нарэшце пачула, як спіна пачала свярбець, усярэдзіне нарастала незразумелае пачуццё трывогі. Сучка міжволі азірнулася, шукаючы вачамі Сцяпана са стрэльбаю, але таго не было.

— Ты, гля, Волька, як яна, бедная, задыхалася,— Міхайла нагнуўся над сучкаю, асцярожна правёў па спіне лёгкай і гладзенькай, бы мянташка, зусім не мужчынскаю рукою.— Эге, дык жа, бачыш, чэрава нечым кальнула...

Нявесела, шкадуючы Пальму, Міхайла пацёр кулаком дзеразу барады і павольна, па-гаспадарску закурыў.

— Нічога,— уздыхнула Волька,— зажыве як на сабаку!

Пальма ўсё не магла прывыкнуць да тытунёвага, асабліва горкага ў лесе, паху, але так стамілася, што нават прылегла і выцягнула перад сабою худыя лапы, паклала на іх галаву і хацела на хвілінку задрамаць.

І раптам уся ўздрыгнула, пачуўшы ўсярэдзіне рэзкі пякучы боль, жаласна заскавытала і, падняўшыся, закруцілася на месцы, пачала ліхаманкава абнюхваць зямлю, на якой ляжала.

Але боль нечакана адпусціў Пальму, як нічога і

не было. Гаспадары падняліся і пачалі збірацца дахаты.

Дарога з лесу была гладкая, шырокая, перарэзаная тоўстымі жыламі абдзёртых каранёў. Адкінуўшыся ад яе ў розныя бакі, парыпвалі, млелі, як старыя кабеты, закалыханыя цяплом сосны, хавалі ў сваіх галінах пухіркі гнёздаў, пахлі сухім ветрам і смалой, лагодзілі ногі ў папаратніку. Дарога, здавалася, таксама ціха парыпвала, дрымуча пацягвалася, потым распрамляла плечы, і стомленыя людзі ішлі па ёй вольна і акуратна.

Блізіўся канец лесу, паабапал дарогі закучаравіліся густыя алешынкі.

Пальма саступіла з дарогі, гулліва ўхапіла размяклы блін старога грыба, сціснула яго зубамі, драпнула зямлю заднімі лапамі і радасна пабегла даганяць Грыньку, постаць якога мільгала між сасновых ствалоў недзе наперадзе.

І раптам Пальма спынілася, нават прысела на заднія лапы, быццам нешта пацягнула яе да зямлі. Усім пагарачэлым целам адчула невераемна моцны, злы позірк. У тое ж імгненне яе абвіслы паранены жывот зноў працяло пякучым болем. Пальма не варушылася, як адлітая з воску. Ад яе лап, ад паабдзіраных саскоў, ад самых, здаецца, кішак да спіны гідкаю хваляю падымаўся прыкры холад. Лапы падагнуліся, як перабітыя, і, здзіўленая ўсім, што з ёй робіцца, Пальма гупнулася грудзьмі на цвёрдую зямлю.

Жаласна захрыпела, убачыўшы Сцяпана, які са стрэльбаю ў руках падышоў да яе, пахіліўся, прыглядаючыся, як пазнаючы. Прамармытаў сабе пад нос:

— І дзе гэта падзерлася, дурніца?.. Нікуды цяпер не варта... Эх!

Злосна тупнуў нагою, але яшчэ раз агледзеў Пальму, пацiснуў плячамі:

— Дурнічка... А можа, яшчэ што й выйдзе?..

Раздумваючы, ён падняў, але адразу апусціў стрэльбу, потым прыставіў яе да дрэва, дастаў пачак цыгарэт і закурыў.

Пальма зразумела, што страляць ён не будзе. Але радасці не адчувала. Яна так доўга думала пра Сцяпана і яго стрэльбу, што нават незаўважна для самой сябе захацела такой імгненнай смерці. Але, вядома, потым, калі-небудзь потым...

Сучка падняла галаву і бясцямна азірнулася. Лес напоўніўся густымі ценямі, у вачах раз-пораз мільгалі прывідныя, знаёмыя і незнаёмыя абліччы.

Яна расцягнулася на вузенькай сцяжыне. Адчуванне холаду не знікла. Спіну пацягнула інеем, потым, здавалася, абсыпала мокрым непрыемным снегам. Лапы сутаргава камянелі, нібыта лета ўжо мінула і наступіла зіма. У халодным трызненні ёй уявіўся зусім яшчэ малы Грынька — у роўна прастрочаных бурках і маленькай зграбнай ватоўцы. Ён няўмела прывязаў Пальму да саначак з духмяным аснежаным сенам, потым пачаў кідаць перад ёю на лёд хлеб. Пальма ўсё бегла і бегла да гэтага смачнага хлеба, цягнучы па замёрзлай рацэ нагружаныя саначкі. Кіравалася бліжэй да чарацінак, каб неяк учапіцца кіпцюрамі ў трэшчынкі, пакрыўджана сапла, але ўсё цягнула сваё зімовае сена. Там, дзе лёд быў зусім гладкі, яна безнадзейна слізгала па ім, баючыся ўдару ў заднія лапы, смешна дзерлася наперад. Неяк Грынька ўваліўся ў палонку каля самага берага, боўтаўся, як кацяня, у сцюдзёнай густой кашы, а яна, ухапіўшыся зубамі за каўнер мокрай ватоўкі, ляжала плазам на траскучым лёдзе, чакаючы людзей. А навокал ціха і горда стаяла зіма, раўнадушна пазірала на ўсё бельмамі вялікіх вачэй, патрэсквала тлустым лёдам і душыла пад ім амаль нежывых рыбін. Зіма працягнула да Пальмы свае доў-

гія белыя рукі, і сучка на кароткую хвіліну апрытомнела... І затрапятала нутром — ці то ад дзумкання вялізнай сіняй мухі, што круцілася каля самых вачэй, ці то ад далёкага густога крыку. Зіма трызнення адразу адсунулася за смольныя цёплыя дрэвы, лета шоргала гарачымі далонямі па высокім папаратніку, але холад усё роўна не хацеў выкочвацца з Пальмінага цела. Нехта, з другога канца лесу, усё клікаў сучку. Гэтае далёкае даўкае Вольчына «Пальма... Пальма...» неяк нехаця, глуха падала на Пальму, разлівалася па роце салананаватай вадкасцю. Сучка яшчэ раз паспрабавала залізаць ранку на жываце. Але язык як адзеравянеў. Пальма захрыпела, бо ёй раптам здалося, што зусім блізка гаюча пахне мацярдушка, кліча ў гушчар, далей ад таго шоргання і мармытання, ад тых самых, толькі ёю чутых крокаў, па якіх яшчэ каля гаспадаровага двара ў вёсцы Пальма пазнавала набліжэнне немінучага.

Пах мацярдушкі, здавалася, распіраў яе балючы цвёрды жывот, і Пальма зрабіла некалькі рыўкоў наперад, хмялеючы ад далёкага жаласлівага крыку гаспадыні.

Болю яна ўжо не чула. Растуліць шчэлепы таксама не магла. Цыгарэтны дым запаўзаў усярэдзіну і паколваў вантробы, як іголкі. Пальма толькі цяжка дыхала. Яе вечны сабачы страх, як расплаўлены тлушч, выцякаў з цела разам з апошнімі сіламі. І разам з гэтым страхам у Пальмінай душы знікала жаданне глыбока ўдыхаць лета, бачыць і чуць...

Лес разгойдваў галінамі свой зялёны шум, але Пальма ўжо нічога не чула і не бачыла. Не бачыла і таго, як высока над зямлёю закруціліся і загрымелі сотні вялікіх, залацістых сонечных бубнаў. Толькі адзін Сцяпан, не зводзячы вачэй з аціхлай Пальмы, нарэшце дакурыў і кінуў на зямлю цыгарэту, затоптваючы ботам апошні агеньчык.



# МАЛІНАВАЕ ШЧАСЦЕ

На шырокім ілбе як аблітая воскам скура была так напята, што, здавалася, дзяўчыне было балюча. Вусны былі таксама бледныя. А вялікія, з ледзь бачнымі павекамі, вочы мяняліся колерам у залежнасці ад таго, на што Агрыпінка пазірала. Калі на дрэва — рабіліся зеленаватымі, калі на пясок — адлівалі жаўцізной.

І толькі валасы былі надзіва прыгожыя — цёмна-попельныя, густыя. Яны хваліста ападалі з высокага лба на скроні і асвяжалі бледнае, як выплаканае, аблічча, робячы яго непазнавальна-прываблівым. Агрыпінка была ўпэўнена, што гэтыя пышныя валасы робяць больш відочнымі яе касцістыя плечы і яшчэ — маленькі, але востры горбік на спіне. Таму заўсёды, нават у хаце, насіла хустку, глуха завязаную пад падбародкам.

Са сваёй першай сяброўкай Агрыпінка пасварылася яшчэ ў школе: не даравала злой абразлівай мянушкі. Наплакаўшыся, на колькі дзён зашылася на гарышча і піла толькі малако, што падымала для яе дарэшты змучаная маці. З таго часу яна стала яшчэ больш худзець і ўсё болей маўчаць, як набраўшы на ўсё жыццё ў рот вады. Прыахвоцілася да работы на

нажной машынцы і праз некалькі гадоў стала абшываць амаль усё сяло.

Нягледзячы на калецтва, яна выцягнулася ў ладную дзеўку, аднак плечы былі ўсё роўна ненатуральна паднятыя ўверх і сукенка звісала з іх грубаю хламідаю. Як ні старалася Агрыпінка, а не магла сама сабе пашыць нічога такога, што схавала б ад чужых вачэй яе вечны сорам. І ўсё часцей, сярод ночы, яна прачыналася ад нясцерпнага болю: на спіне, здаецца, вырастаў цэлы мурашнік. Варта было Агрыпінцы расплюшчыць вочы, як гэты мурашнік ажываў. Тысячы дробных мурашачак распаўзаліся і праціналі цела злоснымі пякучымі ўкусамі, што даставалі, здаецца, да самага сэрца.

Агрыпінка доўга ўмошчвалася на ложку як мага лацвей і сілілася заснуць, але нясцерпны сверб мучыў яе да самай раніцы. Яна ўсхоплівалася з калючага, як абсыпанага іголкамі, ложка раней часу, бегла даіць карову, паліла ў печы. Нахекаўшыся, з радасцю садзілася ў сваім кутку за любімую швейную машынку — якраз перад самым акном...

Нарэшце падымалася сонца. Агрыпінка адрывалася ад работы і доўга, з нарастаючым у душы святлом, пазірала ў суседні двор, чакаючы, калі туды выбежыць яе любіміца — белагаловая дзяўчынка гадоў пяці. І праўда — яшчэ і не прачнуўшыся як след, з прыпухлымі пасля ночы вачанятамі, тоўсценькая малая адразу ж тэпала да плота і няўклюдна праціскалася праз дзірку ў ім. Спяшалася за пачастункам да Агрыпінкі, у якой заўсёды былі прыхаваны зліплыя падушачкі.

Запхнуўшы цукеркі за шчочкі, тут жа важна выходзіла з хаты. Агрыпінка ўздыхала, усміхалася і праз акно зноў сачыла за тым, як малая смешна праціскаецца праз вузенькую прарэху ў плоце, але ўжо

назад. Напэўна, яна пры гэтым папісквае, пасопвае, цмокае языком...

Сённяшняя раніца пачалася для Агрыпінкі з другімі пеўнямі. Маці збіралася па маліны. Звечара знайшлі гумавыя боты і апаяскі для бідончыкаў, паставілі на лаву два эмаліраваныя вядры.

Агрыпінка ўстала як ні сярод ночы, баючыся, што маці з суседкаю ціхенька, не збудзіўшы яе, збягуць у лес. Дарога і праўда была няблізкая.

Маці ў сваёй старэнькай хустцы, што навісала востраю дзюбаю над нізкім ілбом, тупала па ледзь бачнай сцяжыне рыўкамі, як кулічок, пабразгвала вёдрамі, усунутымі адно ў другое. Суседка, наадварот, была па-мужчынску высокая, з крутымі плячамі, туга абцягнутымі вылінялым мужавым кіцелем. Але ішла лёгка і спрытна, як не чуючы цяжару ўласнага цела.

Доўга чакалі аўтобус і, здаецца, гэтак жа да нудоты доўга ехалі ў ім — трэсліся і гоцаліся на сядзеннях, ажно ёкала ў пячонках, па старым лесе. Аднак ехалі...

Калі аўтобус выкіраваў з калдобістай лясной дарогі на шырокі, засыпаны шчэбенем шлях, суседка папрасіла шафёра спыніцца. Па гэтай дарозе трэба было вяртацца крыху назад. Так і зрабілі. І тады толькі, перайшоўшы на другі бок дарогі, ягадніцы апынуліся на высокай кручы, што дыбілася над глыбокім кар'ерам. На дне яго, у яміне, стаяла дажджавая вада.

Доўга не думаючы, Агрыпінка рушыла ўніз па сыпучым жоўтым схіле, мякка вязнучы ботамі ў злежалым жвіры. Праз хвіліну яна ўжо схілілася над вадою і дакранулася да яе дрогкай паверхні сваёй вялікай растапыранай пяцярнёю. Вадзяныя павучкі

адразу ж заторгаліся ў супроцьлеглы бок. На дне, засыпаным пустымі перлавіцамі — адкуль толькі тут і ўзяліся — трымцелі прывідныя абрысы цёмна-сініх воблакаў.

Вада была цёплая, калыхалася ў прыгаршчах жывым срэбрам, і Агрыпінка пырснула яе на свой разгарачаны твар. Прыплюшчыла ад задавальнення вочы, замерла. Грудзі роўна ўдыхалі густое летняе паветра, што набрала ў сябе і спёртага жвіровага духу, і парнасці ад разагрэтай дажджавой вады, і яшчэ нечага вельмі ж знаёмага з маленства. Гэта быў ці то рэзкі пах яшчэ неаперанных птушыных цельцаў, ці то салодкі водар разамлелай грэчкі, такі хмельны і даўкі.

Праз хвіліну Агрыпінка пачала караскацца наверх, яшчэ глыбей вязнучы ў шарготкім буйным жвіры, але раптам у скроні пачало бухаць, перад вачамі мітусліва забегалі ружовыя вадзяныя павучкі. Здалося, што яе горбік адразу разбух, разроссяя, таркануў цвёрдым коранем пад самыя грудзі і раптам загудзеў там, унутры, як важкі царкоўны звон. Каб не паляцець уніз, Агрыпінка апусцілася на калені, паспеўшы схапіць працягнутую суседкай руку.

...Далей ісці было весялей і вальней — дарога пашырэла ажно ўдвая. Уперадзе забялеў бетонны мост над глыбокаю багністаю прорваю, ад якой і пачыналася тая самая, патрэбная ягадніцам, забалочаная нізіна, што была акружана маліннікам.

Ягадніцы асцярожна спусціліся з насыпу, павытрасалі з ботаў пясок і папрывязвалі да пояса бідончыкі. Па-буслінаму высока падымаючы ногі, зашоргалі адна за адной па ядавіта-зялёнай сакаўной траве — напрасткі да карчоў. Агрыпінка дыбала апошняю, апусціўшы галаву. Бачыла, як глыбокія

суседчыны сляды на вузенькай сцежцы перад ёю імгненна зацягваюцца балотнай іржою. Таропка ступала ў гэтыя сляды...

Ягадніцы разышліся ў розныя бакі толькі ў малінніку. Ён быў надзіва рэдкі і заліты мелкаю, але чорнаю і нейкаю загуслаю вадою. Агрыпінка чула, як пад падэшвамі спружыняць размытыя тонкія карані. Яна ставіла вядро даволі блізка, каб не згубіць яго з вачэй. Потым узбіралася на сапрэлы грудок, дзе з высокім малінавым карчом пераплятаўся ляшчыннік, станавілася на цвёрдым як зручней і пачынала збіраць у бідончык вялікія, налітыя сокам ягадзіны. Яны пагойдваліся, здаецца, каля самага рота і ў гэтай гнілаватай задусе хмялілі такім вострым водарам, што Агрыпінка не стрымлівалася ад спакусы і раз-пораз лавіла іх вуснамі. Некаторыя былі такія спелыя, важкія, што ад неасцярожнага дотыку зрываліся з галіны і падалі ўніз, у брудную ваду.

Агрыпінка спяшалася ад аднаго карча да другога, адклікалася на матчын голас, баючыся заблудзіцца, зрэдку пазірала пад ногі, каб не наступіць на якую-небудзь балотную пачвару. Вядро паволі напаўнялася.

Захапіўшыся, Агрыпінка так і не пачула, як зусім блізка, патрэскваючы галінамі і гонячы пры хадзе з вады гнілыя бурбалкі, падышоў нехта чужы. А калі ўгледзела яго, вялікага, чорнавалосага, у салдацкай гімнасцёрцы, ажно прысела каля свайго малінавага куста і сцішылася. Здаецца, і не дыхала. Трывожна назірала, як чорнавалосы, трымаючы перад сабою кепку з ягадамі, хутка набліжаецца і ўсміхаецца ёй яркімі тоўстымі вуснамі. Ад страху Агрыпінка падалася спачатку наперад, потым павярнулася і кінулася да свайго вядра. Схапіўшы яго, не азіраючыся, па-качынаму няўклюдна затупала ў гушчар. Нізкія галіны хвасталі яе па шчоках і вус-

нах, хустка за нешта зачапілася і спаўзла на плечы. Валасы адразу ж упалі на вочы, засланяючы святло. Спадніца намокла. Яна, напэўна, магла б ускочыць у багністае балота, калі б не спынілася перад гэтаю вялізнаю, што цатэльня, жабаю — тоўстай, пакрытай ярка-жоўтымі плямамі і рудымі барадаўкамі. Жаба, здаецца, усё болей раздзімалася, утаропіўшы ў Агрыпінку лупатыя вочы, сядзела на сухім грудку і пагрозліва не рухалася з месца.

Агрыпінка нібыта апрытомнела і толькі цяпер пачула асіплы матчын голас. Крута павярнулася на яго і пабегла яшчэ шпарчэй.

Напалоханая яе маўчаннем, маці ледзь не кінулася з кулакамі, потым заўсхліпвала, заклявала востраю дзюбаю хусткі, праклінаючы і сябе, і гэтыя карчы. Дзіва дзіўнае, але Агрыпінка нічога не змагла ёй расказаць. Маці ўжо назбірала поўнае вядро, акуратна абматала яго зверху фартухом, каб не рассыпаць ягады, і цяпер чакала толькі суседку. Тая нарэшце таксама выйшла з поўным вядром, і ўсе трое паспешліва падаліся ў нізіну. Там, стоячы па калені ў траве, таропка з'елі хлеб з салам і выпілі яйкі. Цярэбячы новую сцежку, пайшлі да моста.

Агрыпінка яшчэ здалёк заўважыла таго самага чорнавалосага ў гімнасцёрцы. Ён надразаў тоўстую лазіну, пэўна, каб садраць лыка. Успомніла, што ў спешцы не завязала як трэба хустку, і цяпер леваю рукою, бо правая была занята вядром, прыгладжвала распушаныя, ажно гарачыя валасы, прыціскала іх да галавы. Адчувала, аднак, што тыя зусім не слухаюцца яе, нават пагойдваюцца пры хадзе.

Трава паспела за дзень падсохнуць, чэпка аблытвала халявы ботаў і патрэсквала. Паверсе наўкольнай ядавітай зеляноты трымцелі клубкі парнасці, высокае сонца залаціла ўжо далёкую трымтлівую паласу малінніку.

Агрыпінка ледзь паспявала за маці — галава кружылася, хмялела ад густых пахаў і сонечнага цяпла. Над нізінаю свяцілася глыбокае, як перавернутая дном уверх шклянка, зеленаватае неба. Цененькі звон мноства стракоз і мушак узлятаў уверх, да гэтага шклянога неба, але, здаецца, адбіваўся ад яго і зноў сыпаўся ўніз, на траву, нябачным шарготкім пяском. Проста пад ногі Агрыпінцы.

Чорнавалосы таксама ўбачыў ягаднiц, выпрастаўся і пачаў няспешна перавязваць лыка. Калі параўняліся, першы паздароўкаўся, шырока ўсміхнуўся, заблішчаў жаўтаватымі ад тытуню, вялікімі зубамі. Спыніўся позіркам на Агрыпінцы і нечакана падаўся наперад, як спатыкнуўшыся на гладкай дарозе. Усё не мог адарваць ад яе позірку, хаця глядзеў, здавалася, толькі на бровы і лоб.

«Не, гэта ён на валасы ўзіраецца. Каб ты згарэў, стажок пракляты»,— Агрыпінка ўспыхнула і раптам, нечакана для сябе самой, са злоснаю рашучасцю павярнулася да хлопца спінаю. Але тут жа здзіўлена пачула каля сябе крокі чорнавалосага, краем вока ўбачыла, што ён нахіліўся і высыпаў у яе вядро поўную шапку малін. Агрыпінка ўбачыла патыліцу, яго тонкую шыю з вугальна-чорнымі, як у цыгана, крутымі кучаравінкамі валасоў і нават парудзелы ад поту каўнер. Заўсёды ненавідзела ўсё бруднае, але цяпер чамусьці гадлівасці не адчула. Нібыта і не ўцякала ад чорнавалосага ў малінніку, падумаўшы благое.

Праз некалькі хвілін жанчыны ўжо сядзелі на возе, да якога іх прывёў чорнавалосы.

— Вот гэта пашэнціла! Ото ж тэпалі б! — задаволена рагатала суседка, звесіўшы ўніз з драбін ногі. Уціснуўшы паміж каленяў вядро, моцна трымала яго рукамі.— А ты сам жа, любчык, адкуль? — зацікавілася яна.

Чорнавалосы назваў суседнюю вёску.

— Я ж і кажу, што цябе нам бог паслаў. Праўда, Агрыпінка?

Хутка яны ўжо ведалі, што чорнавалосага завуць Лёнем і што працуе ён у горадзе, майстрам па машынках у швейнай майстэрні.

Суседка шчодра частавала Лёню хлебам і салам, але той жартаўліва адмахваўся ад усяго, панокваў на каня і весела расказваў, што дзед паслаў яго так далёка таксама па маліны. А ён вось толькі лыка надраў.

— А хіба ж у вас дабра гэтага няма, любчык?

— Нічога... Тут, цёт, лыка лепшае! Дагаджу яму, і мёду дасць. Вы мёд любіце?

Суседка неяк нядобра, па-змоўніцку таўханула Агрыпінку локцем у бок. І раптам, як уздумаўшы пра самае галоўнае, запытала:

— Лёнічак, а ў гэтай... ну... у майстэрні вашай добра?

— А чаго, зарабляюць трохі.

— Слухай-но, што я прыдумала... Прыстрой ты, Лёнічак, Агрыпінку туды. Дальбог. Гэта ж залатая швачка! На ўсё сяло!

Агрыпінка пачула, як затузалася, зашапацела свежай саломаю насцярожаная, расчуленая маці.

Лёня зарагатаў, ляснуў лейцамі па кабыле, крыкнуўшы: «Эх, маліна-ягадка!» — і азірнуўся на Агрыпінку.

Але яна толькі ўткнулася плячом у матчыну спіну, як хаваючыся ад яго позірку за гэтаю надзейнаю сцяною. І застыла. Воз мякка пакалыхваўся ў бакі.

...Агрыпінка бачыла раніцу. Вёска яшчэ толькі паліла ў печах. Але вось ужо ярка заіскрылася сонца, залліваючы сваім празрыстым золатам двары. Агрыпінка сядзела за швейнаю машынкаю, з якой,

здавалася, ужо зраслася, і пазірала ў акно. Тоўсценькая суседская дзяўчынка, чырванеючы ад натугі, прадзіралася на гэты бок праз дзірку ў плоце. Потым, стаўшы пад Агрыпінчыным акном, пачала падскокваць на месцы і зазіраць у хату. Чакаючы пачастунак, падняла ўверх ружовенькі тварык. Агрыпінка набрала жменю малін і працягнула руку праз акно, быццам яно было незашклёнае. І адхіснулася ад здзіўлення. Перад ёю стаяў Лёня. Ён шырока ўсміхаўся, браў ягады і кідаў, адну за адною, у рот, прыцмокваючы ад задавальнення. Потым, быццам спалохаўшыся нечага, пабег да плота і пачаў праціскацца праз яго вузкую прарэху, раздзіраючы на грудзях выцвілую гімнасцёрку. Высокі плот адразу ж ажыў і заварушыўся, нахіляючыся ў розныя бакі. І тады Агрыпінка з жахам пачула, што Лёневы рэбры пачалі трашчаць. Як шалёная, яна падхапілася з крэсла і кінулася да акна. Упіраючыся ў падаконнік рукамі, прасунулася ў яго, але нечакана зашчамілася ў драўлянай раме, роспачна тарганулася і ледзь не закрычала ад болю.

Агрыпінцы здавалася, што цяпер яна трымае на сабе ўсю вялізную хату з саламянаю страхою і шырокаю буслянкаю на самым вільчыку. І не дыхнуць!

Хата хілілася ўсё ніжэй і пагрозліва трашчала. Тады Агрыпінка з усяе сілы рванулася наперад і паляцела праз акно ў двор. Але не звалілася на зямлю, а стала на ногі. І тут жа адчула ў сабе незвычайную палёгку. Нібыта яе горбік адарваўся ад спіны і застаўся ў хаце...

На гэтым Агрыпінка прачнулася. Яшчэ ў паўсне злізала з вуснаў цёплую рэдкую соль нацеклых слёз. Слухала, як побач усё яшчэ весела і няўтомна балбоча суседка, а воз раўнадушна шоргае коламі па сухой пясчанай дарозе.

Драўляная лесвіца зарыпела. Трымаючыся за яе хісткія парэнчы, Агрыпінка паволі паднялася на другі паверх. Вочы яшчэ не паспелі прывыкнуць да калідорнага прыцемку, але яна адразу ўбачыла фарбаваныя дзверы, пра якія пісаў Лёня... Так-так, ён напісаў маці праз два тыдні пасля той іхняй сустрэчы, паведаміў, што ўжо дамовіўся аб усім. І што Агрыпінцы трэба спяшацца з прыездам.

Агрыпінка ціха пастукала ў дзверы, пастаяла ў чаканні, але ніхто ёй не адказаў. Ну і што... Яна сама штурхнула гэтыя дзверы, счакала хвіліну і тады ўжо, схаладзеўшы ад хвалявання, ступіла на парог. І замерла: невялікая швейная майстэрня была надзіва светлаю і высокаю. Немаладая швачка за бліжэйшым сталом падняла ад работы вочы, з непрыхаванаю цікавасцю агледзела Агрыпінку з ног да галавы. Такая наўмысная, як здавалася Агрыпінцы, агідная людская ўвага заўсёды пераварочвала душу. Але цяпер Агрыпінка ўзяла сябе ў рукі, не забываючы, куды і за чым прыйшла, спакойна агледзелася.

Швейныя машынкі былі пастаўлены ў два рады. Над сталамі, да самай, здаецца, столі, тонкімі празрыстымі, што шоўк, ніткамі нацягнуліся сонечныя промні. Блізка, хоць дакраніся да іх рукою. Агрыпінка ўсміхнулася, яшчэ вышай падняла галаву і павольна пайшла паміж гэтымі сонечнымі радамі. Машынкі адразу ж дружна застракаталі, швачкі заклапочана схіліліся над лёгкім белым паркалікам, і Агрыпінцы раптам здалося, што тут, вось у гэтай майстэрні, яна была ўжо і раней, што гэта яе даўняе, надзейнае прыстанішча, да якога яна ўрэшце вярнулася пасля доўгай цяжкай дарогі. Падумала, што яна правільна зрабіла, зняўшы хустку яшчэ ў пад'ездзе.

Падышоў Лёня — быў цяпер у строгім чорным пінжаку і блакітнай сарочцы. Кальнуў яе такім жа, як тады, на возе, пранізліва-вясёлым позіркам, падвёў да самай апошняй у радзе, самай старой і пашарпанай, нажной машынкі. Нахіліўся, быццам нешта хацеў сказаць, і раптам балюча прыкусіў зубамі краёчак яе вуха. Агрыпінка нават не паспела пачырванець ці зазлаваць, падумала толькі, што трэба будзе неяк астуджваць яго, але не сказала ні слова. Усё ж не прыняла ўсур'ёз тую дзіўную нечаканую Лёневу ўвагу.

Дзень пачаўся незвычайна. Яе суседка злева, жанчына гадоў сарака з нейкім шараватым, як заплямленым высахлаю лускою, тварам, усё ўздыхала і раз-пораз ківала галавою. Быццам суправаджала свае патаемныя думкі. Яны хутка пазнаёміліся, і Манюля растлумачыла, што шыюць у майстэрні якраз жаночыя кашулі і халаты і што Агрыпінцы пашэнціла на лёгкі заказ.

Спачатку Агрыпінка хацела прызнацца, што і больш складанай работы не баіцца, але пасаромелася. Каб не маўчаць, пачала расказваць пра маці і малінны, пра сваю вёску. Аднак ні слова — пра Лёню. Нібыта раней і не ведала яго. Сама сабе здзівілася, пасля раззлавалася. І да самага канца работы ні з кім больш не загаворвала.

...Наставала цёплая мяккая восень. Ужо каторы дзень Агрыпінка выбіралася з майстэрні самаю апошняю. Не спяшалася ў свой часовы прытулак — няўтульную кватэру, дзе жыла са сваімі дзецьмі і мужам стрыечная Агрыпінчына сястра Валя. Адчувалася, што за ветліваю сустрэчаю і вясёлымі роспытамі-ўспамінамі: «А як там Стэпка дурная? Ці ўсё ходзіць зімою ў галёшах? А ці жывы Сымон?..» —

хаваецца ў сястрынскай душы нездаволенасць нечаканым прыездам Агрыпінкі. Нават не захацела слухаць аб аплаце за жыллё, і ад гэтага Агрыпінцы было яшчэ цяжэй і няпэўней.

Усё часцей яе думкі цягнуліся да Лёні, хоць той чамусьці апошнім часам амаль не заходзіў у майстэрню. У кароткія хвіліны памяць вяртала малінавы п'янкі дзень, перад вачамі зноў чорна бліщчалі кучаравінкі на Лёневай тонкай шыі і па-ранейшаму моцна і радасна хвалявалі.

Агрыпінцы было соладка ад таемнага прадчування, што вось-вось у яе жыцці павінна адбыцца нешта незвычайнае. Было страшна, ажно халадзела ўсярэдзіне, падоўгу хадзіць адной вузенькімі вулічкамі, бо здавалася, што ўвесь час за ёю нехта паціху крочыць, напэўна, Лёня. Узбуджаная, Агрыпінка ўрэшце спынялася і азіралася. Але ніхто яе не даганяў, ніхто не шукаў. І тады ў Агрыпінчынай душы, замест радасці, паціху нарастала прыкрае і глухое, нават злоснае раздражненне...

Неяк у пятніцу пасля работы Агрыпінка зусім размякла. Падумала сама пра сябе: «Што казляк пераспелы!» — і пачулася яшчэ болей хвораю. Павольна, хістаючыся ў бакі, сышла ўніз па рыпучай лесвіцы. Пастаяла трохі ў цёмным пад'ездзе, падумаўшы, выняла з новай, толькі ўчора купленай, гарадской сумачкі блакітную газавую хустку. Такіх прыгожых яна яшчэ не насіла і цяпер нібыта саромелася сама сябе. Рукі не слухаліся, ад напружання ажно закалола ў пальцы, але Агрыпінка ўсё ж налаўчылася і туга схапіла гэтаю новаю хусткаю капну густых валасоў. І крыху супакоілася.

Прысланіўшыся плячом да шорсткай аблупленай сцяны, Агрыпінка задумалася. У вушах усё яшчэ стаяў глухі шум перажытага рабочага дня, яе швейнай майстэрні: чулася ўперамешку то шапаценне

паркалю, то металічнае скрыгатанне ручкі вялізнага праса, то роўнае ціўканне машынак...

«Калі так і далей пойдзе, стану лепшаю швачкаю. Далібог, стану!» Яе, Агрыпінку, ужо хвалілі, да яе ўсё часцей падыходзілі за парадамі іншыя, нават старэйшыя гадамі, швачкі.

Агрыпінцы нечакана стала цяплей унутры, захацелася ўспомніць яшчэ што-небудзь прыемнае і добрае, каб хаця сёння не паказвацца ў сястры пякучаю крапівою. Але думкі нечакана павярнулі ў іншы бок: «Лёня!» У майстэрню ён так і не прыходзіў... Ужо цэлы месяц яго замяняў напарнік.

Тады навошта ёй, скажыце, гэтая майстэрня? Навошта лагодная, крыху асцярожная пахвальба суседак? А можа, яны ўсе яе проста шкадуюць? Ну, вядома, шкадуюць! Гэткую дурнічку... І Манюля шкадуе. Сочыць усё, сочыць... А чаго сочыць? Навошта...

Агрыпінка рэзка адчыніла дзверы пад'езда, зрабіла якія два-тры крокі за парог, але тут жа адхіснулася назад.

На вуліцы яе сустрэў буйны радкаваты дождж. Газавая хустка на галаве імгненна намокла, і ўсё ж вяртацца ў глухі смярдзючы пад'езд не хацелася. Так і стаяла...

З хусткі за шыю пакаціліся халодныя казытлівыя кроплі дажджу, потым прасачыліся праз каўнер блузкі на спіну, струменьчыкамі абцякаючы яе з абодвух бакоў. Агрыпінка павяла плячамі, проста так, не думаючы, глянула ўбок і раптам убачыла Лёню. Той нібыта чакаў яе позірку, рынуўся з месца, на хаду сарваў з сябе плашч. Дабегшы, накінуў яго Агрыпінцы проста на плечы. І нечакана гучна засмяяўся. Агрыпінка здзіўлена ўбачыла, як на яго вялікім падбародку смешна дрыжаць іскрыстыя дажджынкі, падняўшы вочы, сустрэлася з ягоным позіркам і таксама ўсміхнулася...

З таго часу Лёня праводзіў яе дахаты амаль кожны вечар. Доўга трымаў на лавачцы ў старым запушчаным парку паблізу дома, дзе яна кватаравала, цалаваў. Уткнуўшыся ў валасы, шаптаў салодкахмельныя словы, якія потым сніліся Агрыпінцы ўсю ноч. На рабоце ў майстэрні Агрыпінка з усяе сілы налягала нагою на жалезную рамку пад машынкай, сачыла за роўным акуратным швом. Была шчаслівая. Але часам адрывала ад мігатлівай іголкі вочы, упіралася локцямі ў столік і надоўга задумвалася, нібыта хацела зразумець, адкуль жа хоць і рэдка, але ўсё ж заплывае ў душу тая горкая, тая атрутная кропля роспачы, што ўмомант нішчыць яе крохкую нечаканую радасць. Схапіўшы на сабе цікаўныя позіркі суседак, зноў выпроствала плечы, змахвала з ілба валасы.

...У той вечар Лёня не хацеў развітвацца. Дом, дзе жыла сястра, быў двухпавярховы і ўвесь нейкі чорны. Спыніліся каля драўлянай лесвіцы, што ляпілася да сцяны са двара і канчалася наверсе маленькаю пляцоўкаю і дзвярамі, якія вялі адразу ў сястрынскую кватэру на другім паверсе. Агрыпінка начавала ў адным пакойчыку з Валінымі блізнятамі, вечарам клала іх у ложак, расказваючы адну і тую ж казку пра царэўну і ўдовінага сына. Успомніўшы пра гэта, падумаўшы, што дзеці ўсё яшчэ чакаюць яе і не спяць, Агрыпінка памкнулася дахаты, аднак Лёня не пусціў. Стаяў, прыціснуўшыся вуснамі да яе валасоў... І ўсё ўздыхаў.

Нехта зусім блізка і знарок гучна кашлянуў, груба ўдарыў кулаком аб драўляную парэнчу лесвіцы. Агрыпінка адскочыла ад Лёні, азірнулася. Па лесвіцы важка тупаў Валін Сцяпан, хістаючыся, ледзь адолеў некалькі прыступак. Лёня хмыкнуў, але Агрыпінка затуліла яму рот, баючыся п'янай Сцяпанавай лаянкі. Нарэшце ўверсе моцна стукнулі дзверы,

ажно на плечы насыпалася труха. Лёня чамусьці раззлаваўся, пачаў прасіць яе не ісці да сястры, клікаў да сябе. Сам ён кватараваў у Манюлі, меў невялікі пакой з асобным уваходам. Агрыпінка ведала, што Манюлін дом стаіць блізка каля вакзала і што ісці туды хвілін пятнаццаць, але не згадзілася.

Таропка развітаўшыся з Лёнем, амаль подбегам кінулася наверх. Не падняўшы галавы, слізганула праз залу ў спальню. Убачыўшы яе, блізняты зараўлі ў адзін голас, і Агрыпінка павалакла абодвух да ложка. Пачала распранаць і таропка расказваць старую казку. Да слыху далятала брыдкія п'яныя словы, што сыпаліся на бедную Валіну галаву, але Агрыпінка старалася іх не чуць. Стомленыя дзеці ўжо засыналі, калі нешта цяжкае грымнула на падлогу, ажно задрыжаў увесь дом. Агрыпінка пачала таропка гладзіць па галоўках паўсонных хлопчыкаў. Супакойвала. Чула, як Валя бегала па зале. Вось яна спынілася каля самых дзвярэй спальні, прыглушана заенчыла, паклікала на дапамогу. Агрыпінка павярнулася ад ложка да дзвярэй, нават падалася наперад. Але ў гэты момант дзверы адчыніліся, ледзь не паляцеўшы з завесаў. З распушчанымі, такімі ж густымі, як і ў Агрыпінкі, валасамі Валя прабегла некалькі крокаў і ўпала на падлогу перад ложкам з соннымі дзецьмі, закрыла галаву рукамі. Раз'юшаны Сцяпан стаяў у парозе і брыдка лаяўся.

Праз расчыненыя дзверы ў спальню лілося густое святло, і ў яго жоўтым сяйве Агрыпінка здавалася вельмі высокай і дужай. Стоячы перад Сцяпанам, усё хацела нешта сказаць яму, але не магла, горла сціснулі жалезныя абцугі. Тады яна падняла рукі з доўгімі пальцамі, быццам хацела дастаць да Сцяпанавага твару, а можа, і ўдарыць. Той быццам ацвярозеў, нават адступіў назад. І раптам загаварыў ціха, але рашуча:

— Ну што, ціхоня, у прыполе яшчэ не прынесла?! Гэ? Нічога, прынясеш! Я такіх, як ты, наскрозь... Пасмялела, бач?! Ціх-хо-ня!

І грымнуў нагою аб падлогу.

— Каб і духу заўтра не было!

Ужо не помнячы сябе, Агрыпінка кінулася на яго і адштурхнула ад дзвярэй, як непрытомная, вылецела з залы, прагрукатала па дрыготкай лесвіцы ўніз.

На вуліцы было надзіва цёмна і страшна, але яна кінулася прэч, усё яшчэ чуючы, як праз адчыненыя дзверы нясецца гадкая Сцяпанава лаянка.

...Ногі самі сабой прывялі яе ў старэнькі парк, на іхнюю з Лёнем лавачку. Пашкадавала, што не ўзяла жакецік, але дзе ўжо там было,— абхапіла сябе рукамі, каб хоць як сагрэцца. Нарэшце не вытрымала і зноў падхапілася на ногі і пабегла. Да Мацюлінай хаты. Вось яна... Хутка ж дабегла! Вось і акно, якраз Лёнева.

Агрыпінка прыціснулася да шурпатай, яшчэ цёплай пасля дня сцяны і рашуча, ні аб чым не думаючы, стукнула кулачком у шыбіну. У пакоі было цёмна, але Лёня, мабыць, яшчэ не заснуў. Таргануліся белыя фіранкі, адкрыўшы бледнае ў цемры, невыразнае аблічча. І Агрыпінка нібыта апамяталася, адразу адхінулася ўбок, дакараючы сябе за зробленае.

Аднак Лёня ўжо выскачыў на ганак. Яшчэ сонны, прабубнеў нешта, схапіў яе за рукі адразу ж, не распытваючы, пацягнуў у прапахлы тытунёвым дымам пакойчык. Усё называў яе «малінай-ягадкай», цалаваў, нібыта даўно не бачыў. Асцярожна пасадзіў на ложак, потым разуў. І Агрыпінка сама прылегла на мяккую падушку, закруцілася з галавою ў тонкую коўдру.

Заснула, здаецца, імгненна. Але сон быў нямоцны, у душы пераплялося ўсё трывожнае і радаснае, раптам пачалі сніцца заплаканыя Валіны блізняты.

Агрыпінка прачнулася і доўга не магла зразумець, дзе гэта яна...

Лёня ўсё яшчэ сядзеў на ложку, нізка нахіліўшы да яе галаву.

Яны жылі разам ужо амаль год. Неяк у нядзелю забегла Валя, прывяла сваіх блізнятак. Лёня кінуўся ў краму, а Валя ціхенька, як сама ў нечым вінаватая, пачала распытваць Агрыпінку аб тым ды сім, цікавілася, ці хутка будзе вяселле. Калі роспыты вывелі з цярпення, Агрыпінка коса, непрыязна паглядзела на сястру, быццам тая закранула самую балючую струнку ў душы. І Валя замахала рукамі, паўтараючы: «Ды што ўжо... Што там!.. Ці ж пячатка?..» Не дачакаўшыся Лёні, сабралася, таропка пацалавала Агрыпінку ў шчаку і рушыла з блізнятамі дахаты...

Лёню гэта пакрыўдзіла. Паставіўшы прынесеную бутэльку на стол і абхапіўшы галаву рукамі, ён сядзеў на пакуль што адзіным у іхнім пакойчыку крэсле і маўчаў. Потым глянуў на Агрыпінку пачырванелымі, стомленымі вачамі.

— То мо самі вып'ем? Яшчэ ж ні разу... Не адгулялі...

— Вып'ем, Лёнік. Толькі ты і за мяне, добра?

— Што за цябе?

— Выпі...

Лёня злосна змахнуў са стала пакамечаную газету і разліў віно ў шклянкі. Не падымаючы вачэй, працягнуў адну з іх Агрыпінцы. Яна сапраўды зрабіла два маленькія глыткі і паставіла недапітае на стол.

— Ну-ну, не прыкідвайся. Каб мая жонка ды не куляла...

Агрыпінка захмялела не столькі ад выпітага,

колькі ад таго, што вось толькі цяпер, упершыню за гэтыя месяцы, ён нарэшце назваў яе жонкаю. Але адказала ціха, упарта:

— Не буду! Цяжарная я.

Ён спачатку нібыта не зразумеў нічога, хаця і перапытаў: «Як цяжарная? Як гэта?» Потым падняўся з-за стала і павярнуўся да Агрыпінкі, раскінуўшы рукі, нібыта хацеў абняць разам з ёю ўвесь маленькі пакойчык. Увесь ажно заззяў.

— А ты не маніш, маліна?

Агрыпінка сядзела на ложку і маўчала, не прыбіраючы навіслыя над самымі вачамі важкія валасы. Лёня адчуў гэтую Агрыпінчыну насцярожанасць, стаў перад ёю на калені. Потым сам падняў яе рукі і моцна прыціснуў далонямі да сваёй тонкай, з пружыністымі кучаравінкамі валасоў шыі. Заціх.

— Лёня, Лёня...— Агрыпінчын голас быў ахрыплы.

Лёня толькі ўздрыгнуў, крутнуўшы вялікаю галавою.

— Лёнічак, а я ўсё думаю...

— А ты нічога не думай!

— А я думаю ўсё, чуеш... Што, як народзіцца... Ну... З такой спінаю, як у мяне.

Лёня адразу адхіснуўся ад яе, як спалоханы. Скрывіў вусны.

— Як гэта? Ты што? Са спінаю... У цябе ж — іншае! Іншае... Сама казала, што з печы бахнулася! — ён спачатку глуха, пакутліва ўздыхнуў, але тут жа злосна насупіўся: — От-т... Гэта я ўжо знаю... Гэта ты ўжо нешта з ім хочаш зрабіць... Знаю я вас усіх! Не смей!

— Лёнік, ну што ты! Як жа грэх такі?.. Ды мне, Лёнік, і позна ўжо.

— Як гэта позна? Чаму позна?

Лёня выкрыкнуў гэтае: «Чаму позна?» з такою непрыхаванаю трывогаю, што Агрыпінка як апрытомнела.

— А позна! Чацвёрты месяц ужо... Жывое... Чуеш?

Сказала з нейкай злоснай рашучасцю, але адчула, што можа пакрыўдзіць яго, і ўсміхнулася. Да прыкрасці ліслівa, быццам прасіла прабачэння. Лёня і праўда палагаднеў і таксама ўсміхнуўся, але неяк кісла, нібыта сілаю расцягваў вусны.

— Вось і добра, што позна. Не наробіш глупства якога, маліна-ягадка! — страсянуў чорным чубам.— Накатаемся на санaчках!

...Яна чакала яго цэлы тыдзень. Кожны раз ледзь стрымлівалася, каб не збегчы з работы дадому і не праверыць, а можа, Лёня ўжо там. Але замок быў на месцы, і Агрыпінка паварочвалася, не вымаючы з сумкі ключа. Спачатку ішла ў новы універмаг, падоўгу прастойвала каля прылаўка з дзіцячымі цацкамі, потым пеша — да вакзала. Так — амаль да самай ночы. Пачало даймаць бяссонне, Агрыпінка доўга круцілася ў халодным абрыдлым ложку і слухала, ці не стукне хто ў шыбіну. Але Лёня знік. На другі ж дзень пасля таго, як даведаўся пра яе цяжарнасць. Раніцаю сказаў, што пойдзе на вакзал сустракаць свайго даўняга сябра-студэнта Валіка Самка. Правёўшы Агрыпінку з хаты да дарогі, усё не хацеў адпускаць яе ад сябе. Прызнаўся, што і сам хацеў бы паступіць у той кааператыўны тэхнікум. Памяўся крыху, патупаў на адным месцы. Потым крута павярнуўся і — пабег. Нават не развітаўся...

Агрыпінка не хацела ні з кім гаварыць пра яго, баялася што-небудзь распытваць нават у Манюлі і чакала, калі тая наважыцца сама. Разумела толькі, што з Лёнем нічога дрэннага не здарылася. Інaчай бы пра тое ведалі ўсе. Жанчыны ў майстэрні адразу

пацішэлі і толькі ўпотайкі, думаючы, што Агрыпінка нічога не заўважае, пільнавалі кожны яе крок.

У суботу пасля работы Агрыпінка ўпершыню за ўвесь час вярталася дахаты з Манюляю. Тая і праўда доўга адмоўчвацца не змагла і першая загаварыла пра Лёню. Зрэшты, расказала яна тое, што ведалі ўжо ўсе, акрамя Агрыпінкі. Аказваецца, Лёня пайшоў у той дзень не на вакзал, а ў кантору, звольніўся і, нават не атрымаўшы разлік, паехаў. Кажуць, што ў Мінск. Да нейкага там сябра-студэнта.

Агрыпінка рэзка, як спатыкнуўшыся, спынілася і прыслухалася да сябе. Чакала, баялася, што пасля ўсяго пачутага яна можа ўпасці і памерці. Але сэрца заставалася спакойным, нават халодным. Нібыта ўсё, што зрабіў Лёня, было самаю звычайнаю і зразумелаю справаю.

Яна лёгка і глыбока, на ўсе грудзі, удыхнула даўкае паветра і заплюшчыла вочы. Манюля стаяла побач і таксама маўчала. І толькі, відно, заўважыўшы тыя дзве ўпартыя вялікія слязіны, якіх Агрыпінцы так і не ўдалося стрымаць моцна стуленымі павекамі, ціха сказала:

— А каб жа яны, дзіцятка маё, паатручваліся ўсе!

Агрыпінка як прачнулася ад Манюлінага голасу і шырока расплюшчыла вочы:

— Ды не кляніце вы, Манюля! Я ж сама яго адправіла... У кааператыўны...— здзівілася яна гэтай сваёй нечаканай хлусні і ўжо раўнадушна працягвала: — Толькі вам за кватэру з палучкі аддам. Добра?

— От пра што яна думае... Ды якія тут грошы, дзеўка?!

— Мне б хоць да палучкі дацягнуць...

— А я табе сама дам, Агрыпінка... Колькі трэба, столькі і дам.

— Ну во, не я вам, а вы мне...
— Нічога! Я запаслівая. Во, цяпер жа зойдзем і возьмем. На ўсякі выпадак...

Вечарам Агрыпінка доўга піла з Манюляю гарбату, абдзіраючы рот цвёрдым баранкам. Потым пасунулася ў свой пакойчык, распранулася ў цемры і легла ў ложак. Паляжала хвілін дзесяць, пазіраючы ў бяльмо нізкай столі, і раптам паспешліва паднялася, шпурнуўшы да сцяны падушку, кінулася нацягваць на сябе блузку і спадніцу. Не слухаючы ніякіх унутраных пратэстаў, паклала ў сумку яшчэ адну кофту на дарогу і выбегла з хаты.

Праз паўгадзіны Агрыпінка была ўжо на вакзале. Узяла без чаргі білет на цягнік і чакала яшчэ гадзіны паўтары, ходзячы па вузкім маленькім пероне. Нарэшце, калі цягнік падышоў, знайшла патрэбны вагон і цяжка, няўклюдна ўсцягнулася на падножку.

Вагон быў амаль пусты.

Агрыпінка села каля самага акна. Побач тут жа прымасцілася бабулька з грубым, як перавязаным удоўж і ўпоперак маршчынамі, тварам і адразу ж, быццам ведала Агрыпінку з маленства, пачала расказваць пра сваю хату, пра свайго разумнага дамаседа-катка, які толькі вясною ходзіць «партызаніць» у блізкі лес. Потым зарыпела пра грыбы. Як іх збіраць, як іх саліць, як іх есці.

Агрыпінка слухала старую напаўвуха і пазірала ў акно, стараючыся ні аб чым не думаць, але колы ўпарта выстуквалі толькі адно: «Лёня-Лёня... Лёня-Лёня...» Кантралёр правяраў білеты, праглядваючы іх на святло, нейкі хлопец з верхняй паліцы моцна, на ўвесь вагон, хроп і мармытаў. Яго тузалі за ногі, хлопец паварочваўся на другі бок і прыціхаў на хвіліну, потым зноў пачынаў сваё.

Колькі помніць сябе, Агрыпінка ніколі нічому не здзіўлялася. Нават таму, што бачыла і чула ўпершы-

ню. Акрамя ўсяго, заўважыла ў сабе здольнасць адразу ж звыкацца з усім, нават самым чужым ёй. Нібыта перажывала перажытае, бачыла ўжо некалі бачанае, дазнавалася пра ўжо вядомае. Нібыта і жыццё сваё жыла ў другі раз. Некалі, даўно-даўно, яна ўжо ехала ў гэтым вагоне, з гэтымі, старымі і маладымі, людзьмі. Нават агні за акном, што расцвілі ўдалечыні прывіднымі чароўнымі кветкамі, таксама былі знаёмыя. Яна чула ўжо і шапялявае мармытанне бабулі, і жахлівы храп хлопца на верхняй паліцы. Усё гэта было ў яе далёкім маленстве, вось толькі паўтарылася нанова, абрасло мноствам новых дробязей.

Агрыпінцы пашанцавала. Гаманкая бабуля якраз ехала да свайго ўнука, які вучыўся ў тым жа кааператыўным тэхнікуме, дзе, калі верыць Лёню, вучыўся і ягоны таварыш. Разам з бабуляю яны знайшлі новенькі, з яшчэ непрыбраным друзам у двары, інтэрнат, разам пайшлі да камендантшы. Тая, пагартаўшы сваю кніжку, сказала Агрыпінцы, што Валік Самок жыве на другім паверсе ў дзевяностым пакоі. Трэба было развітвацца, і старая, усхліпнуўшы, пацалавала Агрыпінку ў шчаку.

Першая ўдача ўзрадавала. Агрыпінка паднялася на другі паверх і крыху пастаяла каля акна ў канцы вузкага прыцемненага калідора. Нарэшце адшукала патрэбны нумар і пастукала ў дзверы. Пачулася маладое, бадзёрае: «Заходзьце». Агрыпінка падзівілася сваёй смеласці, але зайшла...

Лёні тут не было. У пакоі стаялі чатыры ложкі, засланыя аднолькавымі бавоўнянымі коўдрамі, на якіх ляжалі белыя невялікія падушкі. Двое хлопцаў у шэрых пінжаках, адзін, праўда, вельмі ж худы і пласкагруды, сядзелі за сталом і цягалі відэльцамі проста з патэльні смажаную бульбу. На Агрыпінчына пытанне, ці жыве тут Валік Самок, кіўнулі згодна,

запрасілі ў пакой і прапанавалі сесці на ложак. А калі захоча, дык і паляжаць можа, бо калі той Валік яшчэ прыйдзе. Агрыпінка і праўда скінула старэнькія сандалі і села на ложак. Выпрастала спіну. Пад грудзі падступіла такая нуда, што яна і сапраўды прылегла, удыхаючы з падушкі незнаёмы мужчынскі пах. Нечакана для сябе пачала драмаць. Аднак хутка насцярожылася, праз дрымоту пачуўшы, як адзін з хлопцаў, ці не той пласкагруды, міжволі прамовіў «маліна-ягадка». Узрадавалася, затузалася на ложку, але падняцца не было сілы. Яна ляжала з заплюшчанымі вачамі і не прапускала цяпер ні аднаго слова, як чакаючы, што хлопцы ўспомняць пра Лёню. Чула, як яны, пад'еўшы, кінулі ў тумбачку нямытыя відэльцы і патэльню. Нарэшце селі за стол, пачалі гартаць кніжкі. Чытаць, відно, не вельмі стараліся, бо ўсчыналі не зразумелыя ёй спрэчкі. Калі пачалі гаварыць пра дзяўчат, ледзь стрымалася, каб не засмяяцца, але пасаромелася. Хлопцы гаварылі ціха, але павольна і разважліва, падрабляючыся пад дарослых і сталых мужчын. Насцярожыў толькі той высокі, пласкагруды, які з самага пачатку прапанаваў ёй адпачыць. Цяпер ён ужо гарачыўся, даказваў свайму сябру, што ніякага сакрэту ў гэтай любоўнай справе няма. Паніжаў голас да непрыемнага піску і ўвесь час паўтараў Лёнева «маліна-ягадка».

— Я во што, маліна-ягадка... Я не як усе! Вы прыгожых выбіраеце. Каб на вуліцы азіраліся. Ну, і выбірайце! А я, маліна, не! Я шэранькіх люблю! На такіх ніхто не азіраецца... Ну і што?!

— Знайшоў, чым хваліцца!

— А чым ты пахвалішся? Мая просценькая сабе цану знае. А я ёй пару ласкавых скажу, Афрадзітай назаву, яна і гатова. А? Не прывыкла, значыць... А тады рабі з ёй што хочаш! Хоць у гаршку вары!

«Шэранькая, значыць?.. Просценькая? У гаршку, значыць... А калі яшчэ такая, як я?»

Упершыню за апошнія месяцы Агрыпінка раптам адчула, як на яе спіне пачаў разрастацца той балючы вялізны мурашнік, пра які яна ўжо амаль забыла. Забыла і супакоілася. Дарма!..

Агрыпінка ведала, што зараз падымецца і пойдзе адсюль, сілілася сабраць апошнія сілы.

І раптам раззлавалася. Зусім не на Лёню ці гэтых хлопцаў, а на сябе: як жа хутка прыняла яна напавер усю гэтую бязглуздзіцу?! І ўвогуле, ёй не трэба было сюды прыязджаць. Не трэба! Бо Лёня хутка вернецца і прыйдзе да яе, ці на кватэру, ці ў швейную майстэрню.

З ягоным вяртаннем пачнецца новае жыццё. І ўсё ў тым новым жыцці будзе добрым і шчаслівым. Бо інакш — нельга...

Змагаючы боль, Агрыпінка ледзьве ўсунула свае разбухлыя ногі ў цесныя сандалі, паднялася з ложка і павольна патупала да дзвярэй. Прыпынілася толькі на хвілінку, каб развітацца з хлопцамі. Спускаючыся па лесвіцы, пачула, як яе яшчэ ненароджанае, але жывое дзіця ўдарыла пад сэрца. Нібы паклікала ў дарогу.

Яна доўга ішла па вуліцы і мінула ўжо мост. Чула, як у душы нараджаецца яшчэ не знаёмае ёй, але моцнае пачуццё жаласці — да ўсяго і ўсіх. Кожнаю клетачкаю Агрыпінка стала адчуваць вялікі магутны чужы свет навокал сябе, які яна чамусьці вельмі шкадавала цяпер і які, здавалася, шкадаваў таксама і яе. Шкадаваў, але нічым не мог дапамагчы.

Па шырокай вуліцы насустрач Агрыпінцы спяшаліся маладыя і прыгожыя, як царыцы, дзяўчаты, штурхаліся, гледзячы паверх натоўпу некуды далё-

ка-далёка, у сваё, яшчэ няўведанае, малінавае шчасце.

Яна не асмельвалася запытаць у каго-небудзь з іх, якім аўтобусам можна дастацца на вакзал. Толькі затрымалася на хвілінку, калі здалося, што па другім баку вуліцы крочыць Лёня. Аднак жа не, хіба гэта Лёня?!

На ўсякі выпадак Агрыпінка ўсё ж адвярнулася, каб не дай бог ён таксама яе не заўважыў, і пакрочыла яшчэ хутчэй.

Лёгкі ветрык лашчыў збалелую спіну, выбіраў з цела стомленасць.

Агрыпінка адчула сябе здаравейшаю і ўжо не сыходзіла з роўнай дарогі, быццам напэўна ведала, што тая вядзе якраз на вакзал.



# КАЛІНАВАЯ ГРОНКА ЗАЛАТАЯ

Вольга здзівілася, калі ёй, амаль невядомай яшчэ мастачцы, прапанавалі афармляць гэтае новае маладзёжнае кафэ.

Пасля таго як усё было абгледжана і абмерана, адміністратар паставіў на дагаворы круглую пячатку, быццам павесіў першую падкоўку на прывідныя дзверы ў доўгачаканую ўдачу. Вольга заспяшалася дамоў. На вуліцы яна схавалася пад парасонам, аб які адразу ж гучна забарабанілі вялікія дажджыны.

І раптам убачыла Ігара Іванавіча. І адразу ж зразумела, па чыёй рэкамендацыі атрымала заказ.

Былы інстытуцкі выкладчык, не хаваючыся ад дажджу, стаяў каля самага кафэ ў сваім старым цёмна-карычневым касцюме. Вользе здалося, што намоклы цеснаваты пінжак на яго шырачэзных плячахкрушнях вось-вось лопне і распаўзецца па швах. Ігар Іванавіч стаяў задумлівы, з апушчанай галавою, нібыта яму было цяжка трымаць грыву сваіх непаслухмяных, ужо сівых валасоў.

Вольгу ён вылучыў з усёй групы на першых жа занятках. Кожны раз, узіраючыся ў яе новы малюнак, яшчэ болей горбіўся і задаволена пакашліваў у

вялізны квадратны кулак. Здзівіўся толькі аднойчы, на абароне дыпломных работ. Вольга сама тады не разумела, чаму ў яе ўзнік гэты, увогуле неўласцівы яе строгай манеры, сюжэт: у шырокую зімовую дарогу на першым плане свердзелам увінчваўся блакітнаваты вецер, а з глыбіні, з-пад самага мярэжлівага гарызонта ішоў хлопчык у расхрыстаным паліто, трымаючы перад сабою калінавую гронку.

Здаецца, ажно заблытаўшыся позіркам у насупленых густых бровах, Ігар Іванавіч выдыхнуў тады толькі адно: «Каліна не такая...» Але перарабляць малюнак у Вольгі ўжо не было часу.

...Па ўсім непагодным свеце шалелі восеньскія маршы, патокі дажджу залівалі асфальт. Вольга рашуча закрыла парасон і праз дождж, які ўсё ніяк не мог аціхнуць, пайшла насустрач Ігару Іванавічу.

Яны не сустракаліся амаль два гады пасля таго, як адразу ж пасля інстытута яна выйшла замуж за свайго аднакурсніка Сашу Радзівонава. Цяпер былы выкладчык нават не хаваў таго, што стаіць каля гэтага кафэ знарок. Чакае менавіта Вольгу.

— Рады... Рады...

Ігар Іванавіч з цяжкасцю шукаў словы, і па яго ным крыху васпаватым, як высечаным з каменю, твары імкліва скочваліся дажджыны. Сумеўшыся, ён нарэшце павітаўся, загаварыў таропка, не падымаючы галавы:

— У нас ёсць месца, Вольга... У аспірантуры. Лепшай кандыдатуры, на маю думку...

Вольга стомлена, але крыху скептычна хмыкнула, ацерла рукою мокры твар, і Ігар Іванавіч, заўважыўшы гэтую абыякавасць, адразу ж замаўчаў. Нібыта адчуў марнасць сваёй прапановы. Перавёў на іншае:

— Ну, як вы? Як ваш... Саша?

— Саша? Добра Саша... Разам, у выдавецтве, працуем...

Ігар Іванавіч замітусіўся, паспешліва ўсунуў у кішэню пінжака руку, выняў адтуль і падаў Вользе невялікую каробачку з цукеркамі. Гэта былі яе любімыя «Журавіны ў цукры». Вольга ўзяла іх і схавала ад дажджу ў сумачку. Думала, аб чым жа далей гаварыць з Ігарам Іванавічам, якога яшчэ і цяпер, як некалі ў студэнцтве, саромелася і нават пабойвалася, і раптам адчула на сабе нечы пільны позірк. Азірнулася. Зусім блізка, на аўтобусным прыпынку, стаяў Саша. І спадылба пазіраў на Ігара Іванавіча. Вольга ад нечаканасці ажно адхіснулася назад, але тут жа ўзрадавалася, чакаючы, што Саша падыдзе да іх. Але той нават не павітаўся з былым выкладчыкам і кінуўся ў першы ж перапоўнены аўтобус...

Яна спыніла таксі, але прыехала дахаты ўсё роўна пазней за Сашу. На кухні паставіла чайнік і зацягнула вокны фіранкамі.

Заварыўшы чай, прыгатавала бутэрброды, выглянула, каб паклікаць Сашу вячэраць. Саша сядзеў на канапе і трымаў у руках адкрытую папку з паперамі. Гэта быў, мабыць, рукапіс той самай паэтэсы, якая ўчора хацела забраць работу ад Сашы, каб перадаць Вользе. Бачыце, ёй падабаецца, як Вольга працуе! Аб чым толькі людзі думаюць?.. Вольга, вядома, адмовілася, нават пасварылася з аўтаркай. Але адчувала сябе так, быццам па душы прапоўз нейкі агідны слімак. Сашу яна нічога не сказала, але той, мусіць, неяк дачуўся пра ўсё. Глянуўшы на нерухомы, напружаны Сашаў твар, Вольга хацела першаю загаварыць пра Ігара Іванавіча і кафэ. Але не асмелілася. Проста ўспомніла нядаўнюю ўспышку Сашавай рэўнасці. Прычын, здаецца, зусім і не было, яны гаварылі пра былых аднакурснікаў, і раптам Сашу быццам падмянілі: злосна, скептычна высмеяў колішнюю асаблівую ўвагу Ігара Іванавіча да Вольгі, нават пакпіў з яго захаплення Вользінымі работамі.

Ён заўсёды быў самастойны і таленавіты, яе Саша, яшчэ ў інстытуце гарачыўся і задзірыста адмаўляў усё, чаму вучыў іх Ігар Іванавіч. А той проста не зважаў на гэта.

Праз некалькі месяцаў пасля вяселля, з нечаканай для сябе самой жаночай мудрасцю, Вольга змірылася з Сашавым максімалізмам. Урэшце, не гэта галоўнае.

Цяпер яна прынесла і паставіла на часопісны столік перад ім кубак з чаем, засмяялася прымірэнча.

— Саш...

Але ён, не падняўшы вачэй, выняў з папкі і кінуў на канапу рукапіс.

— Ну, гэта ж глупства, чуеш? Я сустрэла яго выпадкова... Мне... бачыш... прапанавалі афармляць гэтае кафэ... Як ты думаеш?

Саша ледзь не падскочыў на канапе, ажно рукапіс слізгануў на падлогу, кінуўся ў спальню і са стукам адчыніў шафу.

— А гэта?.. А гэта што?.. Колькі я магу цярпець?! Мне што, самому мыць? І прасаваць? — ён кідаў на падлогу свае сарочкі.

І Вольга не стрымалася.

— Прывыкай... І не крычы! Хутка я ўжо і праўда не змагу добра згінацца. Так што... Ты ж, думаю, таксама захочаш, каб дзіця было здаровенькае...

Саша стаяў перад раскіданымі, толькі заўчора вымытымі і адпрасаванымі сарочкамі, наліваўся чырванню і раптам, зразумеўшы сказанае Вольгаю, заплюшчыў вочы. Ахрыплым, але цвёрдым голасам адрэзаў:

— Ніколі!

...Яна, вядома, паддалася б настойлівым угаворам урача, калі б не тая, апошняя, гаворка з Сашам. Не вячэрняя, пра сарочкі, а ўжо ранішняя. Саша проста не верыў, што гэта будзе ягонае дзіця, і зноў скеп-

тычна бэсціў Ігара Іванавіча. Спачатку Вольга не магла нічога ўцяміць... Потым прыткнулася спінаю да сцяны, так-так,— каб утрымацца на нагах. Але сцяна зрабілася нечакана падатліваю, мяккай. Вольга адчула, што праходзіць праз тоўстую цэглу і вострыя рубцы абдзіраюць ёй спіну, плечы, грудзі. Нарушынкаю яна паляцела ўніз з пяціпавярховай вышыні і павольна апусцілася на халодную восеньскую зямлю. Ляжала доўга, пазіраючы ў неба, і жоўтыя хмары плылі над ёю спакойна і важка. Недзе каля пераносся, расколваючы галаву, узнік рэзкі звон. Усё цела балела. На шчокі раптам пасыпалася сцюдзёная медзь апалай лістоты, і Вольга апрытомнела і расплюшчыла вочы. Здзівілася, што яна не на вуліцы, а ў сваёй хаце, на канапе.

Бледны, як папера, Саша трымаў над ёю кубак з вадой. Зусім не выглядаў пераможцам, хоць Вольга ўжо ведала, што будзе рабіць...

Работа па афармленню кафэ была закончана праз паўгода.

У пятніцу, калі Вольга атрымала ганарар, Саша нечакана загарэўся паехаць у вёску, да Аколікаў, у якіх яшчэ ў студэнцтве жыў цэлы месяц.

Апошнім часам яна была ўражана рэзкаю зменаю ў мужавым характары. Нават жартавала, што гэтыя паўгода здаліся ёй мядовым месяцам.

Была вясна, вёска якраз сеяла і садзіла, але Сашу гэта не стрымлівала. Праз гадзіну яны ўжо былі на аўтобуснай станцыі за горадам. Але каля білетнай касы стаяла даўжэзная чарга. Узялі таксі...

Вользе было ніякавата і непрывычна вось так, з бухты-барахты заходзіць у незнаёмую хату, і яна ўсё хавалася за мужавы плечы.

— Ты глянь, Воль! Глянь... Гэта ж Данута. Тая самая, я расказваў.

Саша з бессаромнай цікавасцю разглядваў паўна-

целую маладзіцу, што стаяла пасярод залы, збянтэжаная нечаканым з'яўленнем гасцей. Пасечаныя хімічнай завіўкай рыжаватыя валасы падсвечваліся яркімі кропелькамі завушніц, а на ружовых шчоках ігралі гарэзлівыя ямачкі.

Ледзь пазнаёміўшыся з Вольгаю, Данута шуснула ў кухню, зазвінела там лыжкамі і талеркамі.

— Яшчэ трохі, і засталі б маіх старых! Бо брыгадзір каня даў. А, каб цябе, палец парэзала...

— Мо памагчы? — паспешліва запыталася Вольга, але гаспадыня нібыта і не пачула яе.

— Дык во паехалі на соткі. Далёка ад вёскі...

— Ого! — Саша зазірнуў на кухню і ціха прысвіснуў.— Ды не старайся ўжо! — Уздыхнуў.— Ну, то як ты тут, Данута?

— Э, лепей за суседзяў! Маці-адзіночка!

— Ніякіх адзіночак не бывае! Не выдумляй...

— Бывае, бывае! Мой, сабака гарачы, як Светачку радзіла, то і дзе ногі ўзяліся?! Каб яго пранцы паелі! А дзед усю зіму праваляўся... Ты ж помніш, Саш, як ён піў? Цяперака не тое. Як у рукаў здароўечка выліў! А малая мая трохі прастудзілася...

Нягледзячы на ранні час, Данута заставіла стол талеркамі з акуратна парэзаным салам, салёнымі агуркамі, яечняй.

І прыгатавала хутка, і есці спяшалася.

— Эх, Саш, а помніш, як ты мяне на свінарнік праводзіў? — Данута асцярожна скасілася на Вольгу, відно, асцерагаючыся яе пакрыўдзіць. Але зноў дзёрзка махнула рукою:— Эх! А наш свінарнік быў тады далёка. Праз гаёк — добрых два кэмэ будзе. Чобаты стопчаш, пакуль туды і назад.

Саша хмыкнуў, павадзіў бліскучым відэльцам перад носам гаваркой гаспадыні.

— Во-во... І тады тое ж: «Я пайду першы за вёску, а потым ты...» Гэта саромеўся так. Быў жа, каб

вы бачылі, Вольга, як гліст, тонкі, ледзь вецер не валяў! А я затое...— Данута захіхікала і шырока раскінула рукі: — Во якая была! Яшчэ гладчэйшая, чым цяпер. Жаніхамі, кажу, хату падмятала!

Данута зноў зірнула на маўклівую, але спакойную Вольгу. І прызналася менавіта ёй, Вользе:

— Не паверыце, закахалася я тады ў вашага Сашку... Саш? — зноў павесялела, штурхнула яго плячом.— Помніш Мацвеевіча? Цяпер завучам стаў! Далібог! А яго Настуля зноў носіць, ужо чацвёртага. Каб вы іх бачылі, Волечка! Сам малы, як апенька, галаваты такі, а яна — вышэй за антэну. То як ідуць дахаты, ён — наперадзе, а яна са сваім гарбузікам — праз крокаў сем,— хмыкнула Данута.— Мой таксама быў маленькі, як аловачак. А зайздросны — каб вы толькі ведалі! Усё хацеў загадчыкам фермы стаць. Каб я ў падначаленых была!

Дзверы ў спальню раптам зарыпелі, і на Вольгу здзіўлена глянула дзяўчынка гадоў трох-чатырох з шапачкаю жоўтых прамых валаскоў.

— Качолачка мая ўстала! Усю ночку, бедная, не спала. Такі кашаль, не дай бог...

Дзяўчынка і праўда была падобная на качолачку,— з поўнымі кароткімі ножкамі, круглым жывоцікам.

Саша зарагатаў і выскачыў з-за стала. Падняўшы малую на рукі, пачаў асцярожна вадзіць па яе пульхнай шчацэ сваім цвёрдым падбародкам. Дзяўчынка зазвінела ад задавальнення, але ўсё роўна адштурхоўвалася ад незнаёмага дзядзькі. Вольга ўбачыла Сашу такім упершыню, паднялася і павольна выйшла з хаты.

Саша, цягнучы невялікі мальберт, дагнаў яе амаль у канцы вуліцы. Зайшлі ў невялікую цагля-

ную краму. Вольга прабегла вачамі па палічках і радасна прыкмеціла знаёмую каробачку «Журавін у цукры». Тут жа разлічылася з тоўстым прадаўцом, што нацягнуў на ватоўку чамусьці не белы, а сіні халат, але вяртацца толькі для таго, каб аддаць цукеркі Дануцінай малой, не хацелася. Паспеюць яшчэ...

Саша ўпэўнена крочыў па шырокай заезджанай дарозе да невялічкага ляска. Прыкінуўшы адлегласць да яго, Вольга падумала, што ісці давядзецца добрыя паўгадзіны.

У высокім небе праплывалі рэдкія белаватыя аблачынкі, і Вользе здалося, што адусюль, асабліва з боку бясконцага, па-веснавому чорнага поля, даносіцца трывожны глухаваты гул.

Каля самага лесу віднеўся трактар. Вольга няўмела пайшла па раллі, падкідваючы ўверх боцікамі грудкі зямлі, але спынілася на паўдарозе, загледзеўшыся на двух буслоў, што важна хадзілі недалёка ад трактара. Над разоранымі баразнамі падымалася зеленаватая пара, і дзве прывідныя птушыныя постаці нібыта і не ступалі, а мігатлівымі ценямі перамяшчаліся з аднаго месца на другое. То знікалі, то зноў бялелі ў хвалістай далечыні. І Вользе здавалася, што буслінfamille цыбатыя ногі пры хадзе проста пераломваюцца... Яна заплюшчыла вочы, як адганяючы ад сябе прывіднае відовішча, а калі нарэшце асмелілася зноў азірнуцца, буслоў на ранейшым месцы ўжо не было. Дзве бліскучыя раскрыленыя птушкі плылі над полем так нізка, што нагадвалі вялікія белыя крыжы.

Вольга забыла пра буслоў толькі ў лесе. Ён быў не такі маладзенькі, якім здаваўся здалёк, і яна ўзрадавалася акуратнай, як адглянцаванай сонечным прасам паляне з маладою травою.

Пасядзеўшы там, вярнулася на круты пагорак, што апускаў свой зялёны язык у яміну з вадою. Ва-

да была брудная — з плямамі слізкага жабурыння.

Саша, развёўшы фарбы, адразу схапіўся за гэтую ваду, шырокімі мазкамі выводзіў на зялёным бурштынавыя палосы.

Вользе не шанцавала. Лясок, такі празрысты, заліты вадкім шклом густога паветра, стаяў перад ёю нерухомы і маўклівы. Яна прыціснулася плячамі да халоднага сасновага ствала і нечакана зразумела, што адсюль, з гэтага лесу, зіма яшчэ да канца не выцекла. Паміраючая зіма яшчэ выпускала нябачныя ледзяшы праз кару на ценевым баку дрэва, там жа, дзе грэла сонца, укамянела белымі жыламі і кроплямі старой пашэрхлай жывіцы.

І тады раптам ва ўяве запунсавела каліна, як далёкая, усё яшчэ нясправўджаная мара. Вольга схапіла невялікую тонкую фанерку, якую Саша ўзяў на ўсякі выпадак, і, не разводзячы, выціснула на яе з цюбіка змейку бяліл... Ведала, што ягадзіны будуць залатыя, з прыхопленымі марозам скуркамі, толькі там, унутры кожнай пацерачкі, патрэбна чырвонае. Як зацвярдзелая, але гарачая кроў. Працавала хутка і напружана, ажно заныла спіна. Радасць, праўда, была кароткая. А ўсё — Саша...

Зірнуўшы на яе малюнак, ён скрывіўся і незадаволена, праз зубы, працадзіў:

— Ты ўсё не можаш яго забыць? О... Колькі можна так мазюкаць! Пазнаю дастойную вучаніцу батаніка-натураліста!

І ён каторы ўжо раз пачаў даводзіць, што Вользе пара пазбавіцца гэтай фатаграфічнай дакладнасці, напракаў, злаваўся, нібыта спрачаўся не з ёю, а з самім Ігарам Іванавічам. Пакрыўджаная, яна маўчала. Хацела шпурнуць малюнак у бруднае зеленаватае жабурынне, але рукі не паслухаліся. Адчувала толькі ў сабе халодную абыякавасць.

Дахаты ішлі, асцярожна трымаючы ў руках све-

жыя малюнкі. Саша быў у чаравіках, стараўся абмінаць здрадлівыя гразкія грудкі, але, калі падышлі да хаты, ажно вылаяўся, здзіраючы з падэшваў аб парог чырвоную гліну.

Данута паставіла на лаву каля сцяны дзве пустыя бутэлькі, каб да іх можна было прыткнуць малюнкі, не пэцкаючы шпалераў на сцяне. І зноў зашчыравала на кухні. Там жа была і Светка.

Вольга адкрыла каробачку цукерак, зірнула на кухню і, нахіліўшыся, падала Светцы ласунак. Малая адразу ж набрала поўны рот кісленькіх дражэ і патупала ў залу.

— Запаслівая качолачка! — хмыкнуў Саша, стомлена пацягваючыся.

І ў гэты момант дзяўчынка ўбачыла малюнкі. Адразу выплюнула цукеркі проста на падлогу, здзіўлена схіліла набок ільняную галоўку.

— Агады! Мамка, агады...

Дзяўчынка павольна падышла да лавы і працягнула да Вользінай каліны шырока растапыраныя пальчыкі, нібыта хацела ўзяць адразу ўсю гронку ў жменю. Потым, здзіўленая, зірнула на сваю перапэцканую фарбаю руку, перавяла позірк на тое, што засталося на фанерыне ад калінавага агню, і, расчараваная, так гучна і няўцешна заплакала, што з кухні віхрам вылецела Данута.

Вольга выцірала хустачкай брудныя пальчыкі малой і сама ледзь стрымлівала слёзы. Але гэта былі слёзы радасці. І раптам здзіўлена пачула, як за спінаю нешта трашчыць, міжволі азірнулася. Саша з усяе сілы намагаўся паламаць фанеру з усім тым, што засталося ад яе калінавай гронкі. Яго бледны твар скрывіла агідная ўхмылка. Нібыта з-пад маскі зірнула зацятая, не зразумелая раней Вользе зайздрасць...

Аўтобус быў перапоўнены, але Вользе пашанца-

вала: яна села на задняе сядзенне каля акна. Пэўна, некага праводзілі ў армію, іграў гармонік, ахрыплыя мужчынскія галасы на ўсе лады раілі нейкай дзяўчыне не плакаць і праз два гады дачакацца свайго салдата з войска. Каб не дыхаць на суседзяў тытунёвым перагарам, дзядок побач з Вольгаю ўсё затуляў рукою свой абсыпаны сівым шчаціннем рот. Потым забыў пра ўсё і пачаў хваліцца Вользе, што ягоны ўнук і афіцэрскія пагоны дастане, і на прыгожай дзеўцы жэніцца.

— От, каб такая, як ты!..

Крэкчучы, ён выцягнуў з кішэні круглае люстэрка і пачаў трымаць яго перад Вольгаю ў тоўстых рудых пальцах. Вольга пазірала ў люстэрка, ловячы там то свае вішнёвыя, моцна стуленыя вусны, то сінія, з вялікімі чорнымі зрэнкамі вочы, то лёгкія хвалі светлых валасоў. Люстэрка раз-пораз падскоквала, нібыта пасмейвалася з яе вачэй, вуснаў і валасоў, вясёлы дзядок нахвальваў унука-трактарыста, а бязладны аўтобусны хор усё прасіў нейкую дзяўчыну чакаць салдата два гады і не плакаць...

# ЗМЕСТ

Литературно-художественное издание

**КОВТУН Валентина Михайловна**

**Калиновая гроздь золотая**

**Рассказы**

Для старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**КОЎТУН Валянціна Міхайлаўна**

**Калінавая гронка залатая**

**Апавяданні**

Для старэйшага школьнага ўзросту

Загадчык рэдакцыі С. С. Панізнік. Рэдактар Л. М. Цяляк. Малодшы рэдактар Н. М. Бакалава. Мастацкі рэдактар Ю. Ц. Цярэшчанка. Тэхнічны рэдактар Н. П. Дасаева. Карэктары А. К. Юшына, Л. С. Зіза.

ІБ № 1038

Здадзена ў набор 17.06.87. Падпісана да друку 16.02.88. АТ 16405. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,13. Ум. фарб.-адб. 8,13. Ул.-выд. арк. 8,48. Тыраж 12 000 экз. Зак. 491. Цана 50 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Коўтун В.**

К 73 Калінавая гронка залатая: Апавяданні: Для ст. шк. узросту / Маст. В. І. Валынец.— Мн.: Юнацтва. 1988.—198 с.: іл.

ISBN 5-7880-0058-0

Ковтун В. М. Калиновая гроздь золотая: Рассказы.

Галоўная тэма зборніка — першае каханне. Героі апавяданняў — людзі маладыя, няўрымслівыя ў выбары жыццёвага шляху і пошукаў высокіх грамадзянскіх ідэалаў. Пісьменніца па-мастацку пераканаўча, рэалістычна перадае «біяграфію» іх пачуццяў: першае захапленне і нечаканае расчараванне, безаглядная імкненне маладога чалавека да шчасця і балючыя апёкі. Адначасова рашаюцца праблемы ўзаемасувязі лёсу з грамадскай этыкай і мараллю.

$К\frac{4803010200—067}{М 307(03)—88}$ 60—88 **ББК 84 Бел 7**